ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

14 кастрычніка 1994 г. № 41 (3763) Кошт 75 руб.

## НЕБА ГОЙДАЕЦЦА, ЯК ВАСІЛЁК

***Алесь ЖЫГУНОЎ: «Прашу Вас, Аляксандр Рыгоравіч, асцярожней, ашчадней, са словамі пра беларускі нацыяналізм -- дзе, у чым Вы яго бачыце? Асцярожней і пра маю родную мову, не кпіце, калі ласка, з мовы маёй маці, якая паверыла Вам, а сын якой пакуль Вам не верыць. Не «воссоединения» з Расіяй хочуць мае землякі, а нармальнага, прыстойнага жыцця ў незалежнай Беларусі...»***

2--3

## БЕЛАРУСЬ: TERRA REGIONAS

***Андрэй КІШТЫМАЎ: «Перыяд падзелу і «пражывання» савецкай сацыялістычнай спадчыны на Беларусі, як і на ўсёй постсавецкай прасторы (СССРаўскай), скончаецца. Далей давядзецца жыць на свае сілы і сваім розумам. Жыць у незалежнай краіне мусяць вучыцца ўсе -- прэзідэнт і хатняя гаспадыня».***

4

## «НЕЛЬГА БЫЦЬ ТРОШКІ ЦЯЖАРНАЙ...»

***Карэспандэнт «ЛіМа» М. ЗАМСКІ гутарыць з віцэ-прэм'ерам Кабінета міністраў Рэспублікі Беларусь У. ГАРКУНОМ.***

5, 12

## НЯЗМЕНЛІВАЯ АНГЛІЯ

***Вера РЫЧ: «Англійская мова перажыла проста-такі сапраўдную траўму, нанесеную ёй іншаземнымі заваёўнікамі, вынікам чаго з'явілася пераўтварэнне старажытнаанглійскай мовы ў ламаны дыялект padняволеных і ніжэйшых...»***

14--15



# НЕ КЛАСІКА... АЛЕ -- ПРЫГОЖА!

-- Бачылі прэм'еру?

-- ???

-- Тэатр музкамедыі паставіў «Шклянку вады»!

-- О, класіка! Трэба схадзіць: пэўна, незвычайнае нешта...

-- Схадзіць трэба. Але... Гэта не класіка. Гэта не славуты вадэвіль Скрыба. Гэта драматургія Рацэра і Канстанцінава. Паводле.

-- А, паводле... Уяўляю сабе. Адыёзная «касавая» савецкая камедыя. Ды яшчэ на глебе класікі...

-- Ну, вы не маеце рацыі: гэта «ачышчаны» варыянт п'есы «Ваш ход, каралева!», прыняты да працы кампазітарам Уладзімірам Кандрусевічам ды рэжысёрам Барысам Уторавым. У выніку працы атрымаўся мюзікл. І, здаецца, што пры ўсіх «але» ён будзе-такі касавым.

-- Вы, відаць, наведаліся ўжо на 2--3 спектаклі, бачылі рэакцыю публікі, таму й мяркуеце пра ягоную «касавасць»?

-- На жаль, бачыў толькі адзін спектакль. Але першае ўражанне не заўсёды памылковае. Зрэшты, можа, й памыляюся... Ну, якія мае аргументы на карысць глядацкай цікаўнасці й цікавасці? «Класічная» крыніца сюжэта. Прыдворная інтрыга: малады прыгажун, тры жанчыны вакол яго (каралева, герцагіня ды юная драпежніца ў абліччы анёлка), побач -- спрактыкаваны палацавы палітык, які высноўвае з усіх падзей уласную кар'еру. Што адбудзецца? Чым скончыцца? Адвечныя абывацельскія пытанні, якія суправаджаюць прагляд «мыльнага» серыяла, нясуць з сабою ў тэатральную залу і прыхільнікі аперэты, якія не робяць розніцы паміж сваім улюбёным жанрам ды мюзіклам. Пра тое, што ў «Шклянцы вады» можа быць зусім не камедыйнае змесціва, наўрад ці хто задумаецца.

*(Працяг на стар. 11)*



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Каб набыць пэўны імідж, добрае імя, веру партнёраў дзяржаве, як і чалавеку, трэба доўгія гады, а страціць набытае можна ў адно імгненне. Яшчэ цяжэй вярнуць страчанае... Колькі гадоў таму Беларусь лічылася самай стабільнай краінай з былых рэспублік СССР і, адпаведна, самым надзейным партнёрам. У нашую эканоміку гатовыя былі ўкладваць свае грошы многія фірмы з заходніх дзяржаў. Сёння ж рабіць гэта можа толькі вар'ят. Па ўзроўні інфляцыі мы даўно абагналі ўсіх, у тым ліку і Украіну.***

***Але найбольшую шкоду прыносяць нам непрадказальныя, непаслядоўныя, непрадуманыя, а часам і проста незразумелыя крокі кіраўнікоў нашае дзяржавы, што гатовы, «задрав штаны», бегчы ўслед за Расіяй, абы толькі яна паманіла пальцам, забыўшы, што прысягалі на вернасць народу незалежнае Беларусі і абяцалі Міжнароднаму валютнаму фонду з дапамогай ягоных грошай мацаваць тую ж незалежнасць. Заканчваюцца сто дзён пасля прысягі, а наш прэзідэнт усё ніяк не вызначыцца: куды ж нам плыць — назад, у Расію, у хамут, альбо наперад — у Еўропу, на волю. Такое ўражанне, што ягонае сэрца за першы варыянт, розум — за другі. Беларусь чакае — што возьме верх.***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Дэлегацыя Беларусі на чале з прэзідэнтам краіны А. Лукашэнкам пабывала ў Кіеве на ўрачыстасцях, прысвечаных 50-годдзю вызвалення Украіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Наш прэзідэнт меў шмат важных сустрэч і быў шчодрым на інтэрв'ю і каментарыі. Ён прызнаў памылку, што Беларусь мала ўвагі ўдзялала развіццю ўзаемаадносін з Украінай, спрабуючы «знайсці шчасце ў яднанні толькі Беларусі і Расіі». Сёння, па яго словах, трэба наладжваць больш цесныя кантакты паміж трыма славянскімі дзяржавамі. Здаецца, ніхто і не супраць гэтага, ёсць толькі тыя, каму не падабаецца ідэя «ўз'яднання».

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«А. Р. Лукашэнка адыходзіць ад сваіх ранейшых рамантычных ілюзій, у ім бачна жаданне зрабіць нешта важнае, неабходнае для рэспублікі», — адзначыў на прэзентацыі аналітычнага даклада «Першыя прэзідэнцкія выбары ў Рэспубліцы Беларусь: асноўныя вынікі» дырэктар інстытута незалежных даследаванняў Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход — Захад» Л. Ф. Заіка. На думку аўтараў даклада, у сённяшніх крызісных умовах адсутнасць рэформаў больш небяспечная для далейшага лёсу А. Лукашэнкі, чым іх паслядоўнае ажыццяўленне. Аднак аўтары лічаць, што, паколькі перадвыбарныя абяцанні Прэзідэнта даваліся з улікам супярэчнасці паміж стаячымі перад краінай задачамі і архаічнай масавай свядомасцю, нізкай палітычнай культурай насельніцтва, то Прэзідэнт трапляе ў складаную сітуацыю з адказнасцю перад выбаршчыкамі. Таму сёння адна з галоўных праблем, якая паўстала перад ім, заключаецца ў тым, як далікатна растлумачыць выбаршчыкам, што яго перадвыбарныя абяцанні немагчыма выканаць. У любым разе Беларусь чакае непазбежнае абвастрэнне крызісу з няпэўнымі перспектывамі выхаду з яго».

*(Паводле паведамлення агенцтва РІД).*

## НАВІНА ТЫДНЯ

Сваю першую «палучку», нарэшце, атрымалі супрацоўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі. Прычына двухмесячнай затрымкі — нявызначанасць крыніц фінансавання і памераў акладаў. Дарэчы, сумы акладаў, названыя ў друку, пэўна, мала ў каго выклікалі зайздрасць. Часцей — крывую ўсмешку: ведама, бюджэтнікі... Між тым з урадавых структур даходзяць звесткі, што павышэнне мінімальнай заработнай платы можа адбыцца не раней, чым у снежні. Хоць адно са сваіх абяцанняў А. Лукашэнка стрымаў: заробак бюджэтнікаў (у адрозненне ад усіх астатніх катэгорый працаўнікоў) замарозіў намёртва.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

700 тысяч жыхароў Беларусі стаяць на ўліку на атрыманне жылля. Але рэальна сёння ва ўмовах «планавага рынку» палепшыць умовы свайго жыцця могуць не больш за 2,5 працэнта сем'яў. Што рабіць астатнім? Пра гэта ў прэзідэнцкай праграме выхаду з крызісу не гаворыцца нічога. Там жыллёвая праблема не разглядаецца зусім. А памятаецца, што падчас перадвыбарнай гонкі А. Лукашэнка абяцаў даць кватэру кожнай маладой сям'і, каб у першую шлюбную ноч маладым не заміналі бацькі.

## ЗАСПАКАЕННЕ ТЫДНЯ

Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, у сувязі са шматлікімі зваротамі ветэранаў вайны і працы, было вымушана выступіць з заявай, што Адміністрацыя і Кабінет міністраў не распрацоўваюць ніякіх заканадаўчых актаў аб адмене альбо абмежаванні льгот ветэранаў. Але — «пытанне аб упарадкаванні льгот для ўсіх катэгорый насельніцтва будзе разгледжана комплексна, з улікам фінансавых магчымасцей дзяржавы...» І не дзіўна: кожны другі жыхар Беларусі на сёння — льготнік.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ

Выдавецка-паліграфічнае прадпрыемства «Полифакт», якое ўзначальвае пісьменнік Яўген Будзінас, на мінулым тыдні ўрачыста адзначыла выхад першай кнігі серыі «Итоги века. Взгляд из России». На прэзентацыю, што адбывалася не толькі ў Мінску, але і ў маёнтку Будзінаса «Дудуткі», былі запрошаны маскоўскія знакамітасці — А. Вазнясенскі, А. Стрэляны, Л. Піяшава, Э. Успенскі, В. Доліна і інш. Ад Беларусі на прэзентацыі былі фальклор і трошкі этнаграфіі. І за тое дзякуй.

## АБВАЛ ТЫДНЯ

У Расіі здарылася чаканая нечаканасць: за адзін дзень 11 кастрычніка кошт долара вырас на 845 пунктаў і склаў 3926 рублёў. Банкіры, палітыкі і фінансісты, што спрабуюць растлумачыць прычыну абвалу, толькі яшчэ больш заблытваюць просты люд. На Беларусі, між тым, «упаў» расійскі рубель. На вуліцы мянялы яго не хацелі браць нават за 0,8 «зайца».

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

Напярэдадні гульні нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе з камандай Люксембурга з машыны другога трэнера нашай зборнай А. Башмакова ўкрадзены рэчы на суму каля 2 тысяч долараў. Але асноўная страта — канспекты галоўнага трэнера зборнай Сяргея Бароўскага з планамі на гульню і відэазапіс гульні супернікаў нашай каманды з галандцамі. Злодзеі, пэўна, былі не заўзятарамі, бо, нягледзячы на шматлікія звароты ў друку і па тэлебачанні, канспектаў так і не вярнулі. Але, тым не менш, нашая зборная атрымала першую ў сваёй гісторыі перамогу. Вынік гульні — 2:0 на нашую карысць. І гэта, без перабольшання, можна назваць ПАДЗЕЯЙ тыдня.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

13 кастрычніка «Народная газета» надрукавала адкрыты ліст выбаршчыка з Берасця Мікалая Ярмашэвіча да прэзідэнта Беларусі. А. Фядута ў інтэрв'ю «Беларускай маладзёжнай» сказаў, што кладзе Прэзідэнту на стол для прачытання кожны нумар «Белорусской деловой газеты». Разумеем, што прэзідэнт дужа заняты чалавек, але ўсё ж хай бы патрапіў на яго стол і гэты нумар «Народнай газеты» з лістом выбаршчыка, «Гонар і годнасць Прэзідэнта — у руках самога Прэзідэнта», у якім што ні думка — то слушная.

# МАЛАДОЕ ВІНО Ў СТАРЫЯ МЯХІ?

Чарговая «ўрадавая» прэс-канферэнцыя, што адбылася ў мінулы панядзелак, была прысвечана своеасаблівай прэзентацыі прэзідэнцкай антыкрызіснай праграмы, якая нядаўна была абмеркавана ў Вярхоўным Савеце і атрымала там «зялёнае святло». І сама праграма, і нялёгкае яе праходжанне ў парламенце былі досыць шырока асветлены ў сродках масавай інфармацыі і таму сам факт спробы яшчэ раз прыцягнуць увагу журналістаў да гэтага дакумента падаўся мне, прызнацца, не вельмі зразумелым. Мільганула нават думка, што самі яе стваральнікі не вельмі ўпэўненыя ў перавагах праграмы і маюць пільную патрэбу ў максімальнай падтрымцы грамадскай думкі.

На прэс-канферэнцыі аўтараў антыкрызіснай праграмы прадстаўляў віцэ-прэм'ер Кабінета міністраў С. Лінг разам з в. а. міністра фінансаў М. Кузьмічом, дырэктарам НДІ эканомікі Міністэрства эканомікі Л. Крукавым і яшчэ некалькімі асобамі з вышэйшага ўрадавага эшалона. Усяго ж, па словах віцэ-прэм'ера, над дакументам працавала больш, як 70 спецыялістаў у розных галінах эканомікі, фінансавай дзейнасці, юрыспрудэнцыі і г. д.

Антыкрызісных праграм у нас за апошнія гады стварылася нямала. Гэтая ж яшчэ да яе «апрабацыі» ў Вярхоўным Савеце прыцягнула да сябе ўвагу заявамі Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі аб тым, што пад дакументам стаяць подпісы ўсіх яго складальнікаў, якія і будуць несці за ўсё персанальную адказнасць.

Да гэтых абставін, дарэчы, на працягу прэс-канферэнцыі некалькі разоў вяртаўся С. Лінг, з чаго можна было зразумець, што тая «персанальная адказнасць» распрацоўшчыкаў праграмы была ўспрынята і самім віцэ-прэзідэнтам і яго калегамі неадназначна. Урэшце, пад заслону прэс-канферэнцыі, гэта засведчыў і сам віцэ-прэм'ер, расказаўшы пра размову з прэзідэнтам, у час якой выказаў сваю нязгоду з такім аднабаковым размеркаваннем адказнасці за ажыццяўленне антыкрызіснай праграмы, бо вельмі многае будзе залежаць ад непасрэдных яе выканаўцаў — усіх «паверхаў» улады, працоўных калектываў і г. д.

На пытанне карэспандэнта «ЛіМа», як на гэтую ўвогуле справядлівую заўвагу зрэагаваў прэзідэнт, віцэ-прэм'ер, тонка ўсміхнуўшыся, адказаў, што Аляксандр Рыгоравіч з ім пагадзіўся...

Цяпер аб некаторых аспектах самой праграмы, на якіх засяродзілі ўвагу журналістаў арганізатары прэс-канферэнцыі. Настойлівая думка, якая імі выказвалася, — дакументу гэтаму няма альтэрнатывы, бо ў нас ёсць шмат людзей, якія ведаюць, што нам трэба мець, але не ведаюць, як гэтага дасягнуць». Таму ўсе спрэчкі трэба цяпер адкінуць прэч, пра ўсе палітычныя рознагалоссі забыцца і скансалідавацца вакол праграмы, каб агульнымі намаганнямі выводзіць краіну з крызісу.

Разам з тым С. Лінг вымушаны быў прызнаць, што дакумент не пазбаўлены ўнутраных супярэчнасцей, якія абумоўлены, у прыватнасці, манаполіяй дзяржаўнага сектара эканомімі, а адсюль — адсутнасцю канкурэнтнай барацьбы вытворцаў.

І хоць стратэгічны накірунак антыкрызіснай праграмы — стварэнне сацыяльна-арыентаванай рыначнай эканомікі, што неаднойчы падкрэслівалі на прэс-канферэнцыі прадстаўнікі Кабінета міністраў, нельга было пазбавіцца думкі, што слова «рыначная» носіць чыста дэкларатыўны характар. Віцэ-прэм'ер вымушаны быў канстатаваць, што працэс прыватызацыі ў краіне знаходзіцца ў зачаткавым стане (у адрозненне ад той жа Расійскай Федэрацыі). Вінаваты ў гэтым, як можна было яго зразумець, многія людзі, надзеленыя ўладнымі паўнамоцтвамі, якія спадзяваліся, што праблема прыватызацыі з цягам часу сама сабой «рассасецца», знікне і ўсё застанецца па-ранейшаму. Змяненне форм уласнасці — покліч часу, які перажывае краіна, справядліва заўважыў С. Лінг, але тут жа заклікаў да асцярожнасці ў прыватызацыі прамысловых аб'ектаў — тыпу мінскіх «Атланта», гадзіннікавага завода і іншых, якія сёння пачуваюць сябе добра і даюць прыбытак. Яны, маўляў, павінны заставацца дзяржаўнай уласнасцю. Іншая справа — розныя там цырульні, майстэрні па рамонце абутку, бытавой тэхнікі і да т. п. Ну што ж, і за тое дзякуй, але ж і ў іх масавую прыватызацыю слаба верыцца, бо гаворка пра гэта вядзецца не першы год.

На прэс-канферэнцыі гучала нямала лічбаў, якія ілюстравалі пэўныя аспекты антыкрызіснай праграмы. Некаторыя з іх выклікалі, мякка кажучы, недаўменне. Гаворачы пра актуальнейшую з сённяшніх праблем — барацьбу з інфляцыяй, віцэ-прэм'ер аперыраваў дадзенымі, якія ўразілі неадпаведнасцю таму, з чым мы штодня сустракаемся ў паўсядзённым жыцці. У прыватнасці, С. Лінг узяў на сябе смеласць сцвярджаць, што за апошнія паўгода ўзровень інфляцыі па месяцах не перавышаў 27 працэнтаў. (Дзіўна, але ў перадвыбарчых прамовах кандыдата ў прэзідэнты А. Лукашэнкі гучалі іншыя лічбы інфляцыі — менавіта 45—50 працэнтаў у месяц). І гэта пры абвальным росце цэн на прадукты харчавання, камунальныя і транспартныя паслугі, пры фактычным замарожванні заработнай платы і пенсій. Паводле праграмы, у снежні ўзровень інфляцыі не перавысіць 10—11 працэнтаў, а ў будучым годзе павінен скласці не больш 5—7 працэнтаў. На жаль, ніхто з арганізатараў прэс-канферэнцыі не раскрыў методыку вызначэння ўзроўню інфляцыі, якой карыстаюцца ўрадавыя эканамісты. І ці не атрымаецца, у рэшце рэшт, так, што па афіцыйных звестках інфляцыя ў краіне будзе зведзена амаль да нуля і амаль да такой жа адзнакі ўпадзе жыццёвы ўзровень пераважнай большасці насельніцтва?

Варта адзначыць і інфармацыю, якая прагучала з вуснаў в. а. міністра фінансаў М. Кузьміча — маю на ўвазе пералік мер па стабілізацыі фінансавага становішча краіны. Сярод іх — і амаль сенсацыйнае амніставанне валютных укладаў у замежныя банкі грамадзян рэспублікі, і адмена абавязковых раней дэкларацый аб прыбытках кліентаў нашых ашчадных і камерцыйных банкаў. І хоць, як заўважыў М. Кузьміч, гэта не спадабалася праваахоўным органам, на сучасным этапе нам трэба ўсімі спосабамі прыпыніць адток грашовых сродкаў за мяжу.

І яшчэ пра адно меркаванне, якое прагучала на прэс-канферэнцыі і падалося мне досыць знамянальным. Гаворка зайшла пра энергетыку краіны, галіну, якая перажывае нялёгкія часы. Не сакрэт, што ў забеспячэнні энергарэсурсамі (у тым ліку і электраэнергіяй) мы сёння амаль цалкам залежым ад Расіі. Адзначыўшы гэта, віцэ-прэм'ер выказаўся такім чынам: радыкальна выправіць становішча магло б толькі будаўніцтва на тэрыторыі рэспублікі атамнай электрастанцыі. Калі б гэта залежала асабіста ад яго, ён бы паставіў свой подпіс пад такім рашэннем адразу, разумеючы, праўда, што яно вельмі няпростае, што з-за чарнобыльскага сіндрому грамадская думка да такога кроку не падрыхтавана. Але ж у многіх краінах Еўропы, у той жа Францыі, напрыклад, на долю атамных станцый прыпадае львіная доля вытворчасці электраэнергіі. Галоўнае — гарантаваць поўную бяспекі функцыянавання АС.

Па нашай постчарнобыльскай псіхалогіі думка, быццам бы, кашчунная. А мо і не зусім?

**М. ЗАМСКІ**

# НЕБА ГАЙДАЕЦЦА, ЯК ВАСІЛЁК

## НАТАТКІ ПРАВІНЦЫЯЛА

### «ЧИЧО»

Са сваім даўнім знаёмым Алегам К. выбраліся па грыбы. На дызелі Глыбокае — Полацк даехалі да Баравой і сышлі ў шараватую вераснёўскую раніцу.

— Шкада, ліхтарыка не ўзялі, — жартуе Алег, — яшчэ не толькі грыба, пня не ўгледзіш.

Так-сяк уладкаваўшыся ў пачакальні станцыі, пачалі грэцца цыгарэтай і размовамі.

— Не тое творыцца ў дзяржаве, — пачаў Алег, — няма патрыятызму ў душах, родны край за долар прададуць. Хочаш, раскажу, якім патрыётам я рос? У школе мне вельмі запомніўся вершык Джані Радары, у якім ёсць такія радкі:

**Чичо в подвале живет у помойки,**
**Спит на скрипучей**
**расшатанной койке...**

Я і думаў, што ўсе на Захадзе так жывуць: у іх няма чаго есці, няма што адзяваць, няма дзе спаць. І так шкадаваў я Чыча! І, зразумела, ганарыўся, што жыву ў СССР, што я самы шчаслівы чалавек, што «другой такой страны не знаю», дзе так вольна дыхае чалавек.

А ў нас цяпер многія дзяржаўны сцяг, герб абражаюць. Я ж у свае колішнія адзінаццаць год таму, хто на сцяг плюнуў бы, морду пабіў бы. А сёння мой адзінаццацігадовы сын сам плюне. Хтось плюне, і ён плюне.

Ён змоўк, смачна зацягнуўся цыгарэтай.

Неўзабаве на дварэ развіднела. І мы пасунуліся ў незнаёмы нізкарослы сасняк па сваю грыбную ўдачу. Радкі ж пра Чыча не выходзілі ў мяне з галавы, толькі, у адрозненне ад Алега, я зусім не шкадаваў італьянца Чыча — я шкадаваў беларуса Янку, скажам, Янку-настаўніка, які за свой сённяшні заробак, даплюсаваўшы сюды заробак жонкі, нават матраца не купіць, не кажу ўжо пра ложак.

### СІФАНАФОРА

Перачытваю Караткевічавага «Хрыстоса». Багата думак, якія добра-такі кладуцца на наша сённяшняе нікчэмнае жыццё. А слова сіфанафора аж выпісаў.

Сіфанафора — гэта вальнаплаваючыя марскія жывёліны, жывуць калоніямі, часам да 20 метраў у даўжыню. Драпежнікі. Ловяць здабычу і ўжываюць усёй калоніяй.

На маю думку, КПСС-КПБ і была такой сіфанафорай, калі ж дакладней, то не ўся партыя, а вяршаліна яе, дзе гнездаваліся начальнікі — ад раённых і вышэй. На жыццё запомніў, як усё раённае начальства (сакратары райкама, члены выканкама) «чысцілі» мяне на сёмым паверсе раённага Белага дома нібыта за артыкул пра народную адукацыю ў мясцовай газеце. На справе ж самыя маральныя, самыя прыстойныя, самыя сумленныя людзі раёна білі мяне за ўсе грахі разам. І сутнасць нават не ў тым, што білі — грахоў у мяне стае, — а ў тым, што сямёра пляжылі (у літаральным сэнсе гэтага слова) аднаго: маўляў, так дадзім, каб не рыпаўся болей. І далі. А я ўсё роўна рыпаюся. Што ж зробіш, калі і ў самых сумленных падчас сумленнасці гэтай з макавае зерне. І камусьці ж трэба напамінаць ім пра гэта.

# ШЛЯХ НА ГРАБАРКУ



Легенда апавядае: у XVIII стагоддзі на землі Падляшша (усходняя частка Польшчы) прыйшла страшная чума. Людзі паміралі сотнямі. Апусцелі дамы, абязлюдзелі цэлыя сяленні.

І вось аднаму з прыхаджанаў царквы ў Сямяцічах прыснілася, што адзінае месца выратавання ад бяды-гора паблізу вёскі Грабарка. Тады прыходскі святар Павел Смаленскі заклікаў усіх ісці на гару Грабарку. Хто прыйшоў — уратаваўся ад чумы. Дабратворную сілу гэтай мясціны народ тлумачыў Боскай міласцю і вырашыў пабудаваць тут царкву.

З тых даўніх часоў на ўсе вялікія царкоўныя святы збіраецца сюды праваслаўны люд. Паломнікі з усяго свету прыходзяць на Грабарку і прыносяць з сабою вялікія і малыя крыжы, якія ўстанаўліваюць вакол царквы на схіле гары. Іх зараз тут тысячы. Прыходзяць паломнікі і з Беларусі. Пакуль іх няшмат — усяго трыццаць чалавек было сёлета. Але ўсё большую вядомасць набывае Святая гара Грабарка, і ўсё больш людзей ідзе пакланіцца святыні, абмыць твар вадой са Святой крыніцы і ўсхваліць Бога.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

Адгалоскі

# АСЦЯРОЖНА: ПАФАС!

Пра аднаго вядомага крытыка хадзіў некалі па тэатральнай Маскве такі вось анекдот:

— Добры вечар! — зманіў N.

Успомніў гэта, прачытаўшы ў мінулую суботу чарговую калонку Паўла Якубовіча ў «Народнай газеце» — «Унылый ветер веет над могилой в Глуше». Прачулае атрымалася выступленне, прасякнутае высакародным абурэннем чэрствасцю нашай творчай інтэлігенцыі, яе абыякавасцю і пошласцю, адсутнасцю грамадзянскіх памкненняў і ўчынкаў.

Жывапісуючы «сытае мурло інтэлігента», П.Якубовіч грувасціць адну на адну фантасмагарычныя карцінкі. Вось фабрыка па ўтылізацыі макулатуры на лапшу пасекла ці не ўсю беларускую літаратуру. Вось пісьменнікі сустракаюцца з прэм'ер-міністрам, просяць павысіць ганарары, «а в это время не выдерживает сердце Алеся Адамовича, которого при молчаливом одобрении «ведущих мастеров культуры Беларуси» в своё время безжалостно вытолкали в Москву бдительные цековские вертухаи». «...В Глуше над могилой Алеся Адамовича гуляет унылый осенний ветер. На могиле нет ни камня ни креста...» Міжволі падумаеш, што калі ўжо тыя сотні людзей, якія праводзілі пісьменніка ў апошні шлях, пакінулі безыменны магільны грудок у чыстым полі — значыць, сапраўды, дайшлі да ручкі. Як пяецца ў адной даўняй песні, «словно аспиды мы бусурманской крови».

Хочацца спадзявацца, што ў наступных сваіх калонках шаноўны публіцыст разгорне ўласны тэзіс: «Я жду от нашей культурной элиты чего-то особенного, каких-то проявлений высокой гражданственности». Вакол гэтых «чего-то» і «каких-то» варта было б паразважаць. Толькі без прыдыхання, манернага заломвання рук, празмернага пафасу, перапампаваных гіпербал ды іншай экзальтацыі. І, пажадана, з ужываннем нялішняга ў дадзеным выпадку займенніка «мы». Бо, як казаў Марк Твен, нельга ўпікаць іншых на той глебе, на якой сам стаіш не зусім вертыкальна.

**А.ГАНЧАРОЎ**

## ЗЯМЛЯК

Пасля абрання А. Лукашэнкі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь сябры, хоць ведалі, што гарой стаяў за Пазняка, усё ж пакеплівалі:

— Цяпер і ты шышка, такога земляка займеў! З'ездзі да яго, можа, пасаду якую дасць.

Тады я сціпла аджартоўваўся, цяпер жа, пасля першых крокаў Прэзідэнта, пасля ягоных шматлікіх інтэрв'ю, «момантаў ісціны» не да жартаў, тым больш што за Лукашэнку — яшчэ тады, калі праходзіў у народныя дэпутаты, — галасавала мая маці. Жыгунова Марыя Сямёнаўна, якой ужо няма, а ў час прэзідэнцкай кампаніі шчыра аддалі яму свае галасы мае цёткі, дзядзькі, мае вяскоўцы, трайчане, якіх вельмі шаную і люблю, у гонар якіх свой другі паэтычны зборнік і назваў «Мая Тройца».

Многае прымаю ў Лукашэнкі, акрамя аднаго: нацыянальнага нігілізму. І калі б мне выпала сустрэцца з ім (чаго ў жыцці не бывае?!), я сказаў бы свайму земляку-равесніку дватры словы.

Шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, пачаў бы я, Вы сумленны чалавек, але для маёй Бацькаўшчыны гэтага мала: у Вашых першых прэзідэнцкіх пачынаннях ні макавінкі беларускага, а Ваша ўлюбёная тэма — «пра старэйшага брата» — мяне проста здзіўляе. Вы ж гісторык, таму не можаце не ведаць, што першыя дзяржаўныя фарміраванні нашых продкаў узніклі намнога раней, чым расійскія. Хто ж тады старэйшы брат?

Зрэшты, не набіваюся на палеміку. Проста прашу Вас, Аляксандр Рыгоравіч, асцярожней, ашчадней са словамі пра беларускі нацыяналізм — дзе, у чым Вы яго бачыце? Асцярожней і пра маю родную мову, не кпіце, калі ласка, з мовы маёй маці, якая паверыла Вам, а сын якой пакуль Вам не верыць.

Не «воссоединения» з Расіяй хочуць мае землякі, а нармальнага, прыстойнага жыцця ў незалежнай Беларусі, прысягу ў вернасці якой Вы не так даўно давалі.

Я хацеў бы ганарыцца Вамі, як ганаруся сваімі славутымі землякамі — Пятром Алейнікавым, Сцяпанам Гаўрусёвым, Яўгенам Крупенькам, Анатолем Сербантовічам. Гэта ён, Анатоль, напісаў шчымлівыя радкі, якія ўспамінаюцца мне заўсёды, калі вяртаюся ў Тройцу, і якія, магчыма, крануць і Вас:

**Я дадому прыеду —**
**Смяюся і плачу.**
**Нават з самай няблізкай дарогі**
**Здалёк**
**Я над Шклоўшчынай**
**Неба сінюткае бачу,**
**Што пад ветрам гайдаецца,**
**Як васілёк.**

**Алесь ЖЫГУНОЎ**

*г. Глыбокае*

# ДЗЯРЖАЎНАМУ МУЖУ — ПА-ДЗЯРЖАЎНАМУ!

## Адкрыты ліст начальніку Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандру Фядуту

Скажу шчыра, уражаны ўзлётам вашай кар'еры. З гродзенскага настаўніка — імклівае ўваходжанне ў ЦК ЛКСМБ, на апошнім з'ездзе камсамола — першы сакратар ЦК СМБ, а нядаўна вось са звольненай пасады новай малавядомай газеты — адразу ў бліжэйшае прэзідэнцкае акружэнне.

Зрэшты, кар'ера многіх кіраўнікоў была і ёсць загадка і тайна. Зрэшты, я вас віншую і, як кажуць, жадаю поспехаў на гэтай ніве. А цяпер пра справу. Я ў пэўнай ступені таксама вылучэнец камсамола: на працу ў часопіс «Маладосць» мяне зацвярджалі ЦК ЛКСМБ і Саюз пісьменнікаў, дык мы з вамі не маглі не сустрэцца ў камсамольскіх калідорах і кабінетах. Праўда, калі вы ўзначалілі рэспубліканскую маладзёжную арганізацыю, дык перасталі запрашаць нас, галоўных рэдактараў выданняў былой камсамольскай сістэмы, на нарады, цікавіцца жыццём рэдакцый, а ў адзін час, як гром з яснага неба, аб'явілі, што СМБ не мае сродкаў утрымліваць часопіс «Маладосць» і «Бібліятэку часопіса «Маладосць», так што бывайце здаровы — гэта значыць, пайшлі вон!

Я напісаў вам абуральны ліст, што вы робіце? «Маладосць» — дзецішча камсамола, яе ў нялёгкім 1953 годзе засноўваў тагачасны камсамольскі важак П. Машэраў для рабочай, сялянскай і творчай моладзі рэспублікі, часопіс (а ён з 1957 г. стаў і органам Саюза пісьменнікаў Беларусі, «патаўсцеў» і змог, як і «Полымя», ужо друкаваць не толькі падборкі вершаў, нарысы і апавяданні, але і паэмы, аповесці ды раманы — тыя жанры, без якіх не бывае развітой ні адна літаратура) за дзесяцігоддзі шмат зрабіў для выхавання маладога пакалення, паставіў на ногі вялікую новую плеяду пісьменнікаў, журналістаў і дзеячаў мастацтва, тут змешчана многае з таго, што ўвайшло ў скарбонку беларускай і ўсёй тагачаснай савецкай літаратуры: выдатныя творы Куляшова, Панчанкі, Быкава, Брыля, Шамякіна, Караткевіча, Гілевіча, Барадуліна, Навуменкі, Чыгрынава, Зуёнка, Адамчыка, Сачанкі і г. д., і г. д.

Вы прыйшлі ў «Маладосць», цалкам пагадзіліся з маім лістом, але развялі рукамі: высока цэнім часопіс, але няма сродкаў на яго ўтрыманне. З дапамогай Н. С. Гілевіча, Саюза пісьменнікаў, тагачаснага Міністэрства інфармацыі (а гэта значыць і Саўміна) ды выдавецтва «Полымя» часопіс прадоўжыў жыццё, сваю адказную справу.

Калі вы трапілі на высокую цяперашнюю пасаду, многія калегі цікавіліся, як вы працавалі ў былым камсамоле. Я, зразумела, не мог не расказаць пра тую гісторыю з «Маладосцю», бо больш чым упэўнены, што сродкі на яе былі. «Ну, гэта было там, у камсамоле... — Адказвалі мне некаторыя. — Цяпер ён — дзяржаўны муж Рэспублікі Беларусь! Цяпер будуць іншае мысленне і іншыя адносіны да беларускага друку, да культуры!»

Ды вось зноў прыходзіцца пісаць вам, але ўжо не толькі з клопатам пра «Маладосць» і яе літдадатак. Цяпер якраз у адміністрацыі, якую вы ўзначальваеце, сканцэнтравана ўся ўлада над нашай прэсай, цяпер якраз вы наш Бог і начальнік. Нават больш — наколькі вядома з вашых інтэрв'ю, іменна вы вызначаеце, што чытаць ці не чытаць нашаму Прэзідэнту, як яму адносіцца да той ці іншай газеты, адным словам, ягоны палітінфарматар.

Што ж змушае пісаць вам другі ліст, на гэты раз ужо адкрыты? Занепакоенасць, нават глыбокая трывога за лёс усіх нашых перыядычных выданняў, найперш беларускамоўных, у тым ліку і літаратурна-мастацкіх.

Якія падставы турбавацца?

Нельга быць спакойным, калі, напрыклад, уведваеш, што ёсць ужо такі канкрэтны дакумент, як пісьмо ад 12 верасня г.г. в. а. міністра фінансаў РБ Румаса Н. Ф. міністэрствам і ведамствам, асацыяцыям, канцэрнам, саюзам, аб'яднанням і арганізацыям, дзе тлумачыцца парадак прадстаўлення прагназуемых разлікаў па даходах і выдатках да праекта бюджэту на 1995 г. Дык вось, там ёсць такі пункт: *«Міністэрству культуры і друку неабходна ажыццявіць у разліках да праекта бюджэту прадугледжанае скарачэнне на фінансаванне рэдакцый рэспубліканскіх газет і часопісаў з тым, каб на працягу 1995 года перавесці іх на самаакупнасць».*

Хіба можна быць спакойным, душой і розумам адчуваючы, што гэта за намер?

Але была кволая надзея, што гэта ўсяго толькі спроба Міністэрства фінансаў у нашых нялёгкіх умовах адшукаць сэканомленыя сродкі за кошт уразання іх друку, як і была кволая надзея, што ў вашай адміністрацыі мысленне іншае, вы расставіце правільны акцэнт з улікам таго, што для дзяржавы важныя як пытанні эканомікі, так і пытанні палітыкі ды культуры, а гэта значыць і друку, што вымагае не столькі ўразаць, колькі шукаць для гэтага дадатковыя сродкі.

Ды ўсякая надзея памірае, калі пазнаёмішся з вашай асабістай пазіцыяй па гэтых пытаннях. Так, у інтэрв'ю газеце «Беларуская маладзёжная» (N 15 за г.г.) вы з добра знаёмай мне інтанацыяй, зусім не двухсэнсоўна заяўляеце наконт нашага друку, што *«с 1 января никто дотироваться не будет. За исключением трех государственных газет».*

З гэтага можна зразумець, што з 1 студзеня 1995 г. апынуцца без дзяржаўнай падтрымкі і беларускамоўныя дзіцячыя выданні «Раніца» (былы «Піянер Беларусі»), «Вясёлка» і «Бярозка», і часопіс для моладзі «Маладосць» з літдадаткам, і акадэмічнае «Полымя» ды «Літаратура і мастацтва», «Беларусь», «Нёман» і г. д.?

Невядома, як у такіх умовах выжывуць названыя і іншыя газеты, а што да беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў, заснавальнікамі якіх з'яўляецца безграшовыя Саюз пісьменнікаў і працоўныя калектывы, то ім пагражае пагібель. А з гэтым пагражае і небяспека нашай літаратуры, усёй культуры.

Мы добра ведаем, што былыя БССР і СССР зведалі нямала катаклізмаў, апусташальную Вялікую Айчынную вайну, трэба было не толькі аднаўляцца, але і паспешна ладзіць атамныя бомбы і спутнікі, але і ў сталінскія, і ў брэжнеўскія часы не было такога, каб партыя і ўрад не падтрымлівалі беларускага друку: скажам, часопіс «Полымя» дзейнічае ажно з 1922 г., «ЛіМ» — з 1932, «Маладосць» — з 1953 і г. д. Як-ніяк адчувалі, цанілі, што гэтыя і іншыя выданні фармуюць не толькі беларускую літаратуру, культуру, але і нацыю. Да гэтага знаходзіліся (хоць і з астаткавага прынцыпу) сродкі і на выдавецтвы, кіно, музыку, мастацтва, тэатр, музеі. Ніхто вельмі не шыкаваў, але жылі.

У вышэйзгаданым інтэрв'ю вы заяўляеце: *«Если мы входим в рынок, если отменяем дотации на хлеб, признаем банкротство предприятий, почему не должны признать банкротство за газетами».* Выбачайце, не трэба прыкідвацца: у сённяшнім інфармацыйна-пацяшальным моры выданні выданням розніца, і ёсць на вашае «почему» слушнае «таму». Бясспрэчна, вы і самі добра разумееце: у нас ужо і зашмат газет і газетак тыпу «Двое», «Ха-ха» ці «Хі-хі» ды яны, бадай, не патрабуюць дзяржаўнай датацыі, маюць поспех за кошт рабавання з іншых выданняў пошлых анекдотаў, розных жудасных гісторый ці апісанняў, якім чынам ажыццяўляць палавы акт... Сур'ёзныя, з даўнімі традыцыямі выданні, што дбаюць пра сур'ёзнае, не могуць абраць такі шлях выжывання. Дык што — за гэта яны асуджаны на смерць суверэннай Рэспублікай Беларусь?

Цяпер, калі ёсць тыя ж «Полымя», «ЛіМ», «Беларусь», «Нёман», «Маладосць», «Раніца», «Вясёлка» і іншыя, дзе сур'ёзныя штаты супрацоўнікаў і здаровае кола таленавітых аўтараў, як ні цяжка, усё ж удаецца супрацьстаяць сённяшняй жахлівай хвалі сурагату і антымаральнасці. Але як толькі будуць знішчаны гэтыя бастыёны духоўнасці, дык тыя брудныя хвалі заллюць усё, так скалечаць душы і розумы нашага люду, найперш юнага, што ён урэшце будзе мала прыдатны і для эканомікі, якая, бясспрэчна, патрабуе агромністай увагі і велізарных сродкаў. Жыццёвы вопыт паказвае, што кожнаму з нас патрэбна ў роўнай ступені дбаць пра цела і душу, а вопыт развітых краін свету паказвае, што ўсё ў грамадстве належнае тады, калі там у роўнай ступені клопат як пра эканоміку, так і пра культуру, бо не вельмі грунтоўна, трывала і з любоўю твораць духоўна скалечаныя людзі. Больш — якраз на глебе апошняга шмат грубасці, насілля, хамства і злачынстваў.

Праўда, час ад часу знаходзяцца заблуджаныя ці незычліўцы беларускай літаратуры, якія не па разуменні ці наўмысна ганьбяць у ёй самае лепшае, падмяняюць яго ўяўным. Гэтым самым уводзіцца ў зман пэўнае асяроддзе, скажам, рускамоўнае, траўмуюцца тыя, хто ў творчым росквіце і працуе сумленна ды годна, адбіваецца ад святой справы частка моладзі, якая ці адыходзіць ад яе, ці кідаецца на вялікія заробкі любой цаной. Да слова, калі непадрыхтаванаму пачытаць артыкул «Унылый ветер веет над могилой в Глуше» П. Якубовіча ў «Народнай газеце» за 8—10 кастрычніка г.г., узяць усё на веру, дык можна зрабіць легкаважны вывад, што беларускія пісьменнікі не рабілі і не робяць нічога вартага (за выключэннем любімых аўтарам), іх хвалюе толькі адно: «Дай!»

Разумеем, добра разумеем, што злуе таго, хто раней задавольваўся футбольнымі рэпартажамі ці скандальнымі гісторыямі, а цяпер уявіў сябе «отцом демократии и гигантом мысли!» Сапраўды, не адзінкам, а многім беларускім пісьменнікам ад Скарыны да сённяшніх пачаткоўцаў шмат дадзена. Ад Бога, ад нашага працавітага, мужнага, таленавітага і, на вялікі жаль, змардаванага народа. Што ж датычыць таго, колькі і чаго мы адхапілі, дык не трэба зайздросціць і настройваць супраць нас грамадства: сярэдняя зарплата супрацоўнікаў той жа «Маладосці», да слова, не дасягае нават 60 тысяч у месяц. Мізэрныя і ганарары, за якія не могуць цяпер пражыць і класікі. Але і супрацоўнікі цярпліва і высакародна робяць сваё, і ўсё новыя аўтары прыходзяць з творамі — не кідкімі ці скандальнымі, а з высокамастацкімі і духоўнымі, і ніхто з нас, чуеце, не лямантуе: «Дайце!», «Дайце!», «Дайце!». Але «даць» беларускаму народу яго родную мову, культуру, друк, духоўнасць усё ж прыйдзецца, бо, несумненна, адваротнага не прыме не толькі народ, але і чалавечая супольнасць, найперш нашы суседзі і браты Расія, Украіна, Польшча, Літва і іншыя, дзе ў адносінах да нацыянальнага разумныя падыходы на самым высокім дзяржаўным узроўні.

Заканчваючы свой ліст, хочацца ўсё ж паверыць, што дзяржаўны муж Фядута А. І. будзе мысліць і дзейнічаць сапраўды па-дзяржаўнаму, на гэты раз павіншуе калектыў часопіса «Маладосць» і іншыя нашы салідныя выданні з упэўненым Новым годам, зробіць усё магчымае, каб не перапыніліся іх плённыя традыцыі. У інтарэсах Рэспублікі Беларусь, яе народа.

Друкуючы гэты ліст, маю адну адкрытую мэту: звярнуць самую зацікаўленую ўвагу нашых вядомых і маладых пісьменнікаў, вучоных, дзеячаў мастацтва і культуры, народных дэпутатаў, усёй грамадскасці на праблему, што мае для Беларусі асноватворны змест і сэнс. Пададзім свой голас, уратуем тое, што мы абавязаны захоўваць і развіваць!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», старшыня Рады галоўных рэдактараў выданняў пры Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

## АБАРАНІ, «МІКОЛА-ЗАСТУПНІК»



**У Веткаўскім музеі народнай творчасці адкрыта выстаўка старадаўніх абразоў, якая носіць назву «Мікалай». У яе экспазіцыі сабраны абразы, якія адлюстроўваюць аблічча святога Мікалая.**

**З веку ў век вялося ў праваслаўных, што калі ў доме ёсць абраз «Мікола-заступнік», значыць, абараняе святы сям'ю і дом ад усіх бедаў, гора і напасці. А калі пазбаўлялася сям'я гаспадара, то абавязкова павінен быў з'явіцца ў доме абразок з выявай гэтага святога — абаронцы ўдоў і сірот. А былі яшчэ «Мікола-спагаднік», «Мікола-цудатворац»...**

**Веткаўскі музей — унікальнае ў рэспубліцы сховішча старажытных работ, у тым ліку і вядомай стараабрадавай школы іканапісу. Шкада толькі, што ў апошні час унікальны для рэспублікі музей перажывае не лепшыя часы. Трапіўшы ў зону радыеактыўнага забруджання, ён страціў цікавасць не толькі публікі, але і людзей ва ўладзе. На кепскі стан будынка і фондаў музея мала ўвагі надаюць і Міністэрства культуры і друку, і мясцовыя органы кіравання, якраз і закліканыя берагчы дзяржаўнае багацце.**

**А як патрэбны сёння іх клопат.**

Сяргей **ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ**



*На здымках: будынак музея ў Ветцы; адзін з вядомых абразоў святога Міколы-цудатворца — «Мікола-заступнік»*

*Фота аўтара*

Меркаванне

# БЕЛАРУСЬ: TERRA REGIONIS

У айчынны лексікон слова «рэгіён» увялі географы. Менавіта геаграфія аперыруе рознымі відамі тэрыторый, гэтак званымі тэрытарыяльнымі таксанамічнымі адзінкамі ці, скарочана, таксонамі. З іх найчасцей выкарыстоўваюць такія паняцці, як арэал, зона, раён і рэгіён. Тэрмін «рэгіён» у гэтым шэрагу з'явіўся пазней другіх. Немагчымасць адэкватнай перадачы сэнсу прымусіла карыстацца прамой калькай пры перакладзе англійскіх і французскіх тэкстаў і такім чынам слова «рэгіён» увайшло ў навуковы ўжытак. Прычым спачатку ў якасці прыметніка «рэгіянальны»: яно ёсць у «Слоўніку замежных слоў» выдання 1939 г., хоць тэрміна «рэгіён» там няма. Няма яго і ў Малой Савецкай Энцыклапедыі 1959 г., хоць «рэгіянальныя пагадненні» маюцца.

У 60-я і асабліва ў 70-я гады паняцці «рэгіён» і «рэгіянальны» сталі звыклым слоўным выразам. Асабліва ахвотна ім карысталіся і карыстаюцца людзі, што клічуць сябе палітолагамі. Між іншым, увесь паняційны апарат вынайдзенай імі дысцыпліны — паліталогіі — не што іншае, як набор запазычаных навуковых тэрмінаў. Як гэта часта здаралася ў савецкай краіне, новае паняцце набывала правы грамадзянства тады, калі яго сэнс у свеце кардынальна мяняўся: мы пачыналі карыстацца ім са старым сэнсам, а свет жыў у новым вымярэнні. Не стала выключэннем з гэтага шэрагу і паняцце «рэгіён».

У XX ст. «рэгіён» у значнай ступені згубіў сваю «тэрытарыяльнасць» як асноўнае сэнсавае значэнне. Само паняцце тэрыторыі змянілася са з'яўленнем новых способаў перадачы інфармацыі. Інфармацыйныя сеткі розных відаў і накіраванасці напоўнілі свет. Абмяркоўваючы сёння тэрмін «рэгіён», паняцце «тэрыторыя», як гэта ні парадаксальна, можна ўвогуле вывесці за дужкі. Для нас яно перстала быць істотным.

Тым не менш, сам тэрмін «рэгіён» прадаўжае выкарыстоўвацца досыць шырока, і гэта знамянальна. У чым тут справа? Апроч «тэрытарыяльнасці», мы маем рэгіён не толькі як вымерную прастору, але і як прастору, якая ПРАДУМВАЕЦЦА. Прычым параметры ёй мы задаём самі. Ціхаакіянскі рэгіён, рэгіянальная бяспека, Трэці свет — вось прыклады таго. Яшчэ больш яскравыя прыклады прастораў-рэгіёнаў, якія прадумваюцца, — паняцці-дыхатаміі — Поўнач-Поўдзень, Захад-Усход і інш...

Ці з'яўляецца гэткае напаўненне паняцця рэгіён чымсьці прынцыпова новым? Не, і за гэта сведчыць навука гісторыя. Менавіта ў ёй рэгіён выкарыстоўваецца як прастора, што прадумваецца. Гісторыя даўно «прадумвае» рэгіёны, калі карыстацца такімі фразеалагічнымі выразамі, як Антычны свет ці Старажытны Усход, разумеючы пад імі не столькі тэрытарыяльныя, колькі культурна-гістарычныя супольнасці. Апошні фразеалагізм падобнага кшталту — устойлівае словазлучэнне «былы Савецкі Саюз». Тэрыторыя выпарылася, а рэгіён — жыве...

Цяпер задамося пытаннем: «Навошта нам паняцце рэгіён з такім абкарнаным зместам?» Адказ на гэтае пытанне просты: «Дзеля арганізацыі нашага мыслення». Мы хочам нешта зразумець у свеце, у якім жывём і які называем Беларуссю. І хочацца верыць, што рухаемся ад няведання да ведаў, ад неразумення — да разумення. Дык вось, «рэгіянальнае мысленне» дазваляе зусім інакш ацаніць некаторыя працэсы на Зямлі. Гэтак, паводле такога мыслення, вайна ў Босніі выглядае не як сутыкненне рэшткаў Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі і не як плён імкнення стварыць Вялікую Сербію, і не як вяртанне чалавецтва на новым крузе гісторыі да процістаяння хрысціянскага і мусульманскага светаў. Не, гэтая вайна — тлеючыя вуглі агромністай прасторы колішняй Аўстра-Венгерскай імперыі, што знікла з карты яшчэ ў 1918 годзе, але працягвае існаваць як рэгіён. Менавіта гэтай акалічнасцю, на мой погляд, можна растлумачыць уцягванне ў гэты канфлікт сусветнага супольніцтва. З гэтага ж шэрагу — распад Чэхаславакіі на Чэхію і Славакію, скіданне Чаушэску ў Румыніі і праблема русінаў на Украіне. Прычым палітыка — гэта толькі тое, што лягчэй заўважыць на паверхні, на чым лягчэй прасачыць хаду падзей. Аўстра-Венгерскі рэгіён выяўляў і выяўляе свой «нораў» і ў больш глыбокіх праявах цывілізацыі і культуры: пабудовах Зігмунда Фройда і месіянстве Адольфа Гітлера, «таямнічым свеце» гандлю і грошай Фрыдрыха Аўгуста фон Хаека і «адкрытым грамадстве» Карла Попера, логіцы Людвіга Вітгенштэйна і анталогіі Дз'ердзя Лукача, творчасці Франца Кафкі і самазабойстве Стэфана Цвейга, тэорыі стрэсу Ганса Селье і плакатах Альфонса Мухі, «экзестэнцыйным вакууме» Віктара Франкла і філантропіі Джорджа Сораса... Яны былі, калі Аўстра-Венгрыі ўжо не існавала — не існавала як палітычна-дзяржаўнай адзінкі, — але яна была ў іх і разам з імі ў Вене, Празе, Берліне, Парыжы, Манрэале, Нью-Йорку, Лондане...

«Ну і што з таго? — скажа чытач. — Дзе тут месца Беларусі?» Менавіта дзеля высвятлення апошняга і зроблены гэткі ўступ.

Перыяд падзелу і «пражывання» савецкай сацыялістычнай спадчыны на Беларусі, як і на ўсёй постсавецкай прасторы СССРаўскай, канчаецца. Далей давядзецца жыць на свае сілы і сваім розумам. Жыць у незалежнай краіне мусяць вучыцца ўсе — прэзідэнт і хатняя гаспадыня. Перакананы, што зараз асноўным інтэгратарам грамадства робіцца праблема якасці жыцця (гэта таксама патрабуе апоры на ўласныя сілы). Жыццё зробіцца больш строгім і «прафесіянальным»: кожны будзе вымушаны займацца сваёй справай...

А дзе ў такім выпадку будзе месца інтэлектуала? Ён павінен будзе працаваць над стварэннем (а, калі заўгодна, і аднаўленнем) Беларускага Рэгіёна — вытрымліваючы пры гэтым пэўную разумовую адлегласць да таго, што адбываецца навакол, і не ўлучаючыся ў бясплённыя палітычныя баталіі з іх нулявым вынікам. Часавы чыннік робіць безнадзейнай рэалізацыю і самых выдатных палітычных дактрын.

Тэрыторыя — ёсць мёртвая, рэгіён — бессмяротны. Ён напаўняе тэрыторыю жыццём. Адзначым, што краіны Балтыі хутка ідуць шляхам асэнсавання свайго рэгіёна, прытым «прыпісваючы» не толькі яго, але і «ўпісваючы» сябе ў рэгіён Паўночнай Еўропы. Мы таксама (бадай, бессвядома) адчуваем не йнакш імкненне да рэгіянальнага мыслення, калі выклікаем здані Вялікага княства Літоўскага і спрабуем вызначыць сваё месца ў арыйскім свеце... Увядзенне паняцця рэгіён запатрабуе ад гуманітарыяў адказаў на шэраг пытанняў. Іх накід: 1. Як адбываецца канструяванне рэгіёна? 2. У якія рэгіёны ўпісана Беларусь і ў якія рэгіёны яе магчыма ўпісаць? 3. Ці магчымы аўтаматычны запіс у рэгіён? 4. Як узаемадзейнічаюць рэгіёны?.. Няцяжка заўважыць, што менавіта ў гэтых рамках вядзецца сёння абмеркаванне Беларускага Шляху (у тым ліку і на старонках «ЛіМа»). Плёнам гэтае дыскусіі можа якраз і стацца паняцце «Беларускі Рэгіён».

Напрыканцы след нагадаць пра тонкасць, абавязковую для зносін з мысліцельнымі прасторамі. Яны ўводзяцца дзеля таго, каб на іх забыцца, як толькі яны выконваюць сваё прызначэнне. І пра гэта «забыцца» трэба памятаць.

**Андрэй КІШТЫМАЎ**

## ВЕСТКІ З МАЛАДЗЁЖНАГА

**4 кастрычніка адкрыў свой новы сезон Дзяржаўны маладзёжны тэатр. Адкрыў, дарэчы, своеасаблівай прэм'ерай — новым фірменным знакам, які прыдумаў і распрацаваў галоўны мастак тэатра Зіновій Марголін. У аснову эмблематыкі тэатра пакладзена мастацкая цытата — фрагмент фрэскі «Стварэнне свету» з роспісаў Сіксцінскай капэлы Мікеланджэла. Той, дзе Саваоф у палёце дакранаецца рукой да пальцаў паўляжачага чалавека, абуджаючы ў ім жыццё. «Мастацтва — гэта заўсёды перадача энергіі, акт тварэння новага жыцця», — гаворыць З. Марголін. Гэтая думка, «убачаная» ім у творы італьянскага гуманіста, і стала зыходнай для тэатра, які занатаваў на сваёй эмблеме момант «чакання цуду» — рух абедзвюх рук.**

**А якую энергію нясе тэатр і якая сіла яе прыцягнення — меркаваць ужо гледачам.**

**У кастрычніку тэатр запрашае мінчан на свае новыя пастаноўкі. Гэта спектакль-фантазія «Яго сны», прыдуманы рэжысёрам В. Катавіцкім і сцэнографам З. Марголіным паводле дзённікаў і жывапісных вобразаў мастака-сюррэаліста Сальвадора Далі (у галоўнай ролі — С. Журавель). Прэм'ера гэтага сезона, мюзікл для дзяцей «Забыты Дзень Нараджэння», — адкрыццё дзівоснага свету смешных і добрых казак англійскага пісьменніка Дональда Бісета. П'есу па матывах твораў і музыку да спектакля напісаў А. Еранькоў, пастаноўку ажыццявіў рэжысёр В. Еранькоў, афарміла мастачка Л. Рулева, танцы прыдумаў балетмайстар А. Кастрыцкі. Да канца гэтага года тэатр спадзяецца паказаць яшчэ і «Танга» С. Мрожака. На «Танга» трупа ангажыравала рэжысёра Тэатра-студыі «Абзац» А. Маркевіча.**

**Запрашаем у наша энергетычнае поле.**

**У. МАЛЬЦАЎ,**
**загадчык літаратурнай часткі Маладзёжнага тэатра**

Пошта

# СУСТРЭЧА З РАДАСЦЮ

Наўкол амаль на ўсіх перакрыжаваннях постсавецкага жыцця вельмі часта можна чуць ужо традыцыйнае: «У наш нялёгкі, складаны час...».

Далей, вядома, ідзе тое, што вынікае з такіх пасылаў. Але ж давайце запытаемся ў сябе, а калі і дзе час быў надта ўжо просты і лёгкі? Прынамсі, у нас яго, часу такога, амаль ніколі і не было. Таму хай хоць абмежаваных, дэфармаваных, як сёння, а ўсё ж не было ў нас і ў зусім недалёкім мінулым і мажлівасцей, каб штосьці запаветнае выказаць ці то словам, ці то пэндзлем, ці то яшчэ як. І, відавочна, яшчэ і з гэтай прычыны ў нашай не такой ужо вясёлай рэчаіснасці можна сустрэцца з радасцю, больш таго — нават і са шчасцем. Асабліва тычыцца яно дзялянкі духоўнага і культурнага жыцця.

Менавіта з такога гатунку радасцю, калі не болей, сустрэўся я 29 верасня гэтага года ў Беларускім нацыянальным музеі гісторыі і культуры на прэзентацыі карціны Генрыха Ціхановіча «Бітва пад Оршай». Атмасфера, у якой праходзіла культурная акцыя, была святочная і ўзнёслая, нягледзячы на тое, што не было там вялікай колькасці людзей. Але сярод дарослых прыхільнікаў таленту мастака, музейных супрацоўнікаў, вучняў беларускага ліцэя была векаватая чародка вучняў пачатковых класаў адной са школ Мінска. Будучы на экскурсіі ў музеі, яны разам са сваёй настаўніцай выпадкова зазірнулі на названую прэзентацыю. Амаль усе дзеці вельмі ўважліва слухалі пранікнёныя словы вядучага спецыяліста музея Ірыны Зварыкі. З не меншым зацікаўленнем імі ўспрымаліся словы загадчыка кафедры беларускай гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата гістарычных навук, аўтара шматлікіх кніг па айчыннай гісторыі Паўла Лойкі пра тыя далёкія падзеі, калі воі нашай зямлі ўшчэнт разбілі маскоўскае войска, што прыйшло ваяваць наш край, свабоду нашых продкаў (8 верасня 1514 г.). Ну а паслухаць самога мастака, які цэлы год працаваў над сваім творам, было асабліва цікава. Аўтар паведаміў, як ён здабываў гістарычны матэрыял, як вывучаў тую далёкую мінуўшчыну дома, у Польшчы, у Летуве. Усё гэта, натуральна, сведчыла, што ў мастака атрымаўся строга дакументаваны мастацкі твор. І таму такія яго дэталі, як бел-чырвона-белыя сцяжкі на дзідах нашых коннікаў і пяхотных, будуць сведчыць сучасным нацыянал-нігілістам аб тым, што дзяржаўная сімволіка беларусаў ідзе з глыбіні стагоддзяў.

Незвычайным бачыцца кампазіцыйнае вырашэнне мастаком пярэдняга плана карціны і адпаведна падзей на ёй. Справа ў тым, што плана гэтага тут няма; ствараецца ўражанне, што глядач сам — нібы на пярэднім плане. Такім прыёмам мастака сённяшні сучаснік як бы ўцягваецца ў тыя далёкія трагічна-гераічныя падзеі.

Безумоўна, у палатна гэтага будзе многа і прыхільнікаў, і, вядома, знойдуцца і няўдзячныя гледачы. Але гэта, на жаль, ужо выдаткі гістарычнай адукацыі і ў нейкай ступені — выхавання.

Паступіўшы ў музей, твор «Бітва пад Оршай» ужо пачаў працаваць, як, к прыкладу, працуюць творы Яна Матэйкі ў Польшчы, Васіля Сурыкава ў Расіі, — працаваць на карысць аднаўлення нашай памяці, набыцця нацыянальнай самасвядомасці.

Колькі слоў пра мастака. Генрых Ціхановіч — унук знакамітага Уладзіслава Галубка, сын мастака і мемуарыста Яўгена Ціхановіча, пляменнік мастака і аўтара паляўнічай прозы Валянціна Ціхановіча. Неабходна яшчэ дадаць, што пры стварэнні батальнага палатна «Бітва пад Оршай» Генрыху Ціхановічу дапамагаў яго сын Ян Ціхановіч — навучэнец Беларускай акадэміі мастацтваў.

Але ж вернемся і да нашых дзяцей. Увесь час яны, як адзначалася вышэй, былі ўважлівыя і зацікаўленыя. І калі апошні выступоўца з дарослых закончыў сваё слова заклікам: «Жыве Беларусь!», двое хлопчыкаў з той чародкі сваімі бадзёрымі галасамі падтрымалі гэты заклік: «Жыве!». Такое — радуе.

**Яўген ГУЧОК**

# «НЕЛЬГА БЫЦЬ ТРОШКІ ЦЯЖАРНАЙ...»

## КАРЭСПАНДЭНТ «ЛІМА» М. ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕРАМ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У. ГАРКУНОМ

**М. ЗАМСКІ: — Уладзімір Гіляравіч, наколькі я ведаю, па адукацыі вы аграном, але ваша працоўная дзейнасць была больш звязана з партыйнымі і дзяржаўнымі органамі. На працягу сямі гадоў вы — першы сакратар Дзяржынскага райкома партыі КП Беларусі, а пасля скасавання партыі — у тым жа раёне — старшыня гарвыканкама. Праўда, у Вярхоўным Савеце вы займаліся, так бы мовіць, прафесійнай справай — узначальвалі камісію па аграрных пытаннях. І ўсё-такі, з'яўленне вашага імя сярод ключавых фігур у новым Кабінеце міністраў для многіх, я ведаю, было нечаканым. Ці трэба гэта зразумець так, што прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка запрасіў вас у сваю, як цяпер прынята гаварыць, каманду, каб вы дапамаглі яму хутчэй зламаць старую сістэму кіравання аграрным сектарам эканомікі? Вам імпануе гэтая роля?**

У. ГАРКУН: — Давайце адразу паставім усе кропкі над «і». Не чакайце ад мяне, што я зараз пачну бэсціць былых кіраўнікоў сельскай гаспадаркі рэспублікі. Я заўсёды ставіўся і стаўлюся цяпер да іх з павагай. Ва ўмовах, у якіх ім даводзілася працаваць, яны зрабілі нямала. Іншая справа, што ў мяне асабіста было іншае бачанне шляхоў вываду нашага аграрнага сектара з крызіснага стану. У гэтым мае з прэзідэнтам погляды маюць шмат агульнага, і таму я і апынуўся на пасадзе віцэ-прэм'ера, які курыруе сельскую гаспадарку.

**— Што сабой уяўляе выпрацаваная ўрадам, вядома ж, з вашым удзелам, новая канцэпцыя аграрнай палітыкі?**

— Яе, калі можна так сказаць, краевугольны камень — нармальнае цэнаўтварэнне, дасягненне парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. Ну куды гэта было варта, калі гаспадарцы, каб купіць літр бензіну, трэба было прадаць чатыры літры малака, або пяць кілаграмаў збожжа, або каля кіло мяса. Першыя крокі ў пераадоленні гэтых «нажніц», як вы ведаеце, ужо зроблены.

**— Вы маеце на ўвазе павышэнне ў дзесяць-пятнаццаць разоў рознічных цэн на хлеб, мяса, малочныя прадукты? Дык гэта мы, спажыўцы, вінаваты ў тых «нажніцах»?**

— Не будзем шукаць вінаватых. Як бы там ні было, а павышэнне рознічных цэн дало першыя станоўчыя вынікі. На паліцах магазінаў пабольшала прадуктаў — таго ж малака, мяса, кілбас. Зніклі чэргі.

**— Якія могуць быць чэргі за кілбасой коштам у паўтары мінімальныя зарплаты за кіло? Ну, а мяса сапраўды на паліцах пабольшала. Дык мо таму, што з-за бяскорміцы пачаўся масавы забой скаціны?**

— Ніякага масавага забою ў нас не назіраецца. А прадуктаў стала болей таму, што новая цэнавая палітыка спыніла бессістэмны, спекулятыўны вываз сельскагаспадарчай прадукцыі за межы рэспублікі.

**— Няўжо яе столькі вывозілася, што гэта магло паўплываць на забеспячэнне прадуктамі харчавання насельніцтва цэлай краіны?**

— Вы б жахнуліся, калі б я назваў вам сякія-такія лічбы... Мы падкармлівалі і Польшчу, і Літву, ну, а апошнім часам — Расію-матухну. Вывозілі ўсё — ад печанага хлеба да смятаны. І яшчэ адзін аспект гэтай з'явы — фінансавы. Рознічныя цэны на прадукты харчавання не пакрывалі і дзесятай часткі выдаткаў на іх вытворчасць. Каб падтрымаць насельніцтва, дзяржава частку свайго бюджэту вымушана была накіроўваць на даціраванне амаль усіх прадуктаў харчавання. Калі гэтыя хлеб ці малако спажываліся жыхарамі Беларусі, дык, як кажуць, на здароўе. А калі адносна танныя за кошт дзяржаўнай казны прадукты вывозіліся за мяжу краіны і мы, адрываючы ад сябе, кармілі сотні тысяч чалавек на Смаленшчыне, Браншчыне, нарэшце, у Маскве? Хіба можна было з гэтым мірыцца?

**— Цяпер не вязуць?**

— Амаль не вязуць. Самы дзейсны, эфектыўны інструмент усякай забароны — эканамічны. Можна стварыць немаведама якую мытную службу, умацаваць граніцы, але спекуляцыю гэтым не спыніш, дзялкі заўсёды знойдуць самую непрыкметную шчыліну, каб абысці закон.

**— Але ж не сакрэт, Уладзімір Гіляравіч, што тысячы тон печанага хлеба ў асабістых сялянскіх гаспадарках скармліваліся свінням.**

— Пасля падаражання хлеба рабіць гэта стала нявыгадна. Каб было чым карміць скаціну на асабістым падвор'і, прэзідэнт, як вы, відаць, чулі, распарадзіўся пашырыць продаж вяскоўцам камбікармоў.

**— Як я разумею, «сэканомленыя» ад спынення датавання рознічных цэн сродкі павінны былі быць накіраваны ў сельскую гаспадарку?**

— Так, былі рэзка павышаны нарыхтоўчыя цэны амаль на ўсе віды сельскагаспадарчай прадукцыі.

**— І цяпер, трэба меркаваць, жывёлагадоўля ў калгасах і саўгасах перастане быць стратнай?**

— Ва ўсякім выпадку цяпер ёсць стымул яе развіваць. Але тым не менш, фарміраванне закупачных цэн яшчэ не завершана. Трэба зрабіць іх свабоднымі, з такім разлікам, каб яны адлюстроўвалі сабекошту прадукцыі.

**— Літаральна днямі мне давялося пачуць па радыё інтэрв'ю са старшынёй калгаса аднаго з раёнаў рэспублікі, які на пытанне карэспандэнта, як ім цяпер жывецца пасля павышэння закупачных цэн, адказаў літаральна так: «Нам гэта на адзін зуб». Растлумачыўшы, што цэны на электрычнасць, паліва выраслі ў шмат разоў болей, чым закупачныя цэны. Атрымліваецца, што парытэт цэн, пра які столькі гаворыцца, як той краявід: ідзеш да яго, а ён усё адсоўваецца далей.**

— Я не казаў, што парытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю зніме ўсе нашы праблемы. Патрэбны цэлы комплекс мер, у прыватнасці, стабілізацыя рубля, утаймаванне інфляцыі і г. д. Але ў адным я ўпэўнены — вёску сёння трэба ратаваць не крэдытамі, а, паўтараю, належным цэнаўтварэннем. Крэдыты, да якіх гэтак ахвочыя многія кіраўнікі гаспадарак, гэта самападман. Крэдыты трэба вяртаць, ды яшчэ з працэнтамі.

**— Не мне вам расказваць, на колькі дзесяткаў мільярдаў рублёў, яшчэ па старых, даперабудовачных цэнах, было тых крэдытаў нашай сацыялістычнай сельскай гаспадарцы дзяржавай спісана. Так што, бадай, кожны, хто просіць крэдыт, спадзяецца, што спішуць яго і на гэты раз.**

— Вы памыляецеся, далёка не ўсё спісвалася.

**— Але пагадзіцеся, Уладзімір Гіляравіч, аддача ад тых крэдытаў была мінімальнай. У дзіравы мех колькі ні сып...**

— Справа не ў гэтым. Клопаты аб вёсцы заўсёды былі ў дзяржавы на другім месцы. Па якасці, па заможнасці жыцця горад заўсёды апярэджваў вёску.

**— І цяпер таксама? Калі ўспомніць, колькі сёння каштуе ў магазіне кіло бульбы ці літр малака, перастаеш у тую перавагу гарадскога жыцця над вясковым верыць. Але не будзем на гэты конт спрачацца. Я б хацеў папытацца ў вас, спадар віцэ-прэм'ер, пра рэчы, якія сёння вельмі хвалююць дэмакратычную грамадскасць нашай краіны. Гэта пытанне аб зямлі, аб тым, каму яна павінна належаць.**

— Я адкажу на гэтае пытанне так: яна павінна належаць тым, хто хоча і ўмее на ёй працаваць. Падкрэсліваю — умее! У нас жа многія гэтую ўмову лічаць не вартай увагі.

**— Як гэтае «ўменне» вызначыць? Экзамен рабіць, ці што?**

— Павінна вызначыць само жыццё. Зямлю не падманеш, яна як лакмусавая паперка — адразу пакажа, чаго варты яе ўласнік. Дзе сапраўдны гаспадар, а дзе гультай, абібок. Нават у адной вёсцы, па тым, у якім стане знаходзіцца прысядзібная гаспадарка, можна мець уяўленне аб чалавеку, якому яна належыць. Вяскоўцу, у якога агарод зарос пустазеллем, я б, напрыклад, ніколі не даў зямлі. А наогул, тут павінен дзейнічаць адзін, самы галоўны, як я лічу, стымул — эканамічны. Чалавек павінен быць зацікаўлены ў тым, каб як мага эфектыўней выкарыстаць зямлю, якую ён прыдбаў. А для гэтага трэба яшчэ, каб зямля не была таннай, што прымусіла б уласніка імкнуцца хутчэй вярнуць заплачаныя за яе грошы, ды яшчэ і застацца з прыбыткам.

**— Я нядаўна чуў па тэлебачанні выступленне вялікага знаўцы вёскі, вядомага рускага пісьменніка Барыса Мажаева, які прывёў адзін цікавы факт: кошт курыных яек, знесеных за тры месяцы ў Злучаных Штатах Амерыкі, перавышае кошт прадукцыі, атрыманай за такі ж час звышсучаснымі галінамі прамысловасці, як камп'ютэрная і аэракасмічная. Вось што значыць высокая эфектыўнасць сельскай гаспадаркі, вось што значыць прыватная ініцыятыва!**

— У рэспубліцы дзве з паловай тысячы фермераў з іх прыватнай ініцыятывай, але вынікі ў іх куды горшыя, чым у калгасах і саўгасах.

**— Мы з вамі, Уладзімір Гіляравіч, прысутнічалі ў гэтым годзе на з'ездзе фермераў Беларусі і чулі, у якіх умовах даводзіцца ім працаваць, якія перашкоды і цяжкасці пераадольваць. Асабліва ў набыцці зямлі. Да мяне ў рэдакцыю часта заходзіць старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Міхайлавіч Лугін, які неаднойчы расказваў пра сваю адысею з набыццём зямлі для стварэння фермерскай гаспадаркі. Так нічога ў яго і не выйшла, не хапіла сіл пераадолець супраціўленне мясцовых улад. У такую ж сітуацыю трапляюць дзесяткі, а мо і сотні людзей.**

— Ведаю я Лугіна. Можаце перадаць яму ад мяне прывітанне і сказаць, што я хоць заўтра гатоў пасадзейнічаць, каб яму выдзелілі зямлю ў Дзяржынскім раёне, дзе я да апошняга часу працаваў. Але ж ён яе не возьме.

**— Чаму?**

— Таму што на ёй трэба з раніцы да вечара, без выхадных працаваць.

**— Вы, Уладзімір Гіляравіч, мабыць, чулі анекдот пра кітайца, які прыйшоў выбіраць бульбу на сваім полі праз два дні пасля таго, як кінуў яе ў зямлю. Калі ў яго спыталі, навошта ён гэта робіць, бедалага кітаец адказаў: «Оцэн кусац хоцца». Але, мяркуючы па тым, што адбываецца зараз у Кітаі, анекдот гэты моцна састарэў — там, фактычна, за апошнія гады, вырашылі праблему з вытворчасцю прадуктаў харчавання. Для дзяржавы з амаль паўтарамільярдным насельніцтвам — поспех незвычайны. Феномен гэты тлумачыцца, аказваецца, досыць проста — тут распусцілі кааператывы - кітайскі варыянт нашых калгасаў, а зямлю раздалі ва ўласнасць сялянам. Зрабілі тое, што ніяк не наважацца зрабіць у нас.**

— Я быў летась у Кітаі. Ніякіх кааператываў там не распускалі. Але тое, што ў Кітаі ў аграрным сектары эканомікі адбыліся вялікія зрухі, гэта праўда. Зрухі гэтыя — вынік прадастаўлення сялянам свабоды ў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. А наогул, калі мне пачынаюць расказваць, як там за морам-акіянам умеюць жыць і што нам трэба неадкладна скапіраваць іх «вопыт», мною авалодвае пачуццё прыкрасці. Ды пачакайце вы з гэтымі прыкладамі. Я, вядома, не супраць таго, каб пераймаць карысны для нас вопыт. Але ж трэба помніць, што няма ў свеце дзвюх краін, аднолькавых па прыродных і кліматычных умовах, а, галоўнае, па менталітэце народа, выпрацаваных стагоддзямі традыцыях.

**— Ці не хочаце вы гэтым сказаць, што калгасна-саўгасная сістэма найбольш адпавядае характару беларускага селяніна? Вунь колькі размоў зараз вядзецца на старонках газет пэўнага палітычнага накірунку аб нежаданні сялян браць зямлю ў прыватную ўласнасць, выходзіць з калгасаў, бо толькі тут, маўляў, ім могуць быць забяспечаны сацыяльныя гарантыі.**



*Фота С.БРУШКО*

— Не трэба мне прыпісваць слоў, якіх я не казаў. Нашы людзі прызвычаены да калектыўнай формы гаспадарання, у тым ліку, і да сацыяльнай абароны ў гэтых гаспадарках. Эканамічна моцным гаспадаркам сёння нічога не пагражае, а тым, хто ледзь трывае, не можа звесці канцы з канцамі, трэба задумацца над сваёй будучыняй.

Але ўвогуле калгасы і саўгасы адпавядалі мінулай каманднa-адміністрацыйнай сістэме. Сёння мы жывём, фактычна, пры другім ладзе, і ўсе мы, у тым ліку і кіраўнікі большасці грамадскіх гаспадарак, прыйшлі да высновы, што наспела неабходнасць рэфармавання нашага аграрнага сектара. Які характар павінны насіць гэтыя рэформы? Не думаю, што трэба іх слепа пераносіць з якой-небудзь з краін СНД. Нам неабходна шукаць нешта сваё, адметнае.

**— Як вы ставіцеся да ніжагародскага вопыту ў Расійскай Федэрацыі, дзе па схеме, распрацаванай Р. Яўлінскім і ажыццёўленай пры садзеянні тамашняга губернатара Б. Нямцова, калгасы раздалі сваім членам зямельныя і маёмасныя паі з наступным правам іх продажу?**

— Як на эксперымент — станоўча. Скажу больш, нешта падобнае мы пачалі практыкаваць у некаторых нашых гаспадарках.

**— Нешта падобнае?**

— Так, раздалі паі, умоўна падзяліўшы зямлю.

**— Як гэта — умоўна?**

— Калгаснік ведае, што яго пай складае, напрыклад, тры або пяць гектараў зямлі, якія ён можа забраць у любы момант і рабіць з імі, што пажадае.

(Працяг на стар. 12)

## ГАНАРОВЫ СЯБРА МАБ

**Ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў стаў доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага універсітэта культуры Валерый Няфёдаў. Дыплом аб гэтым яму нядаўна ўручыў кіраўнік Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс.**

**Валерый Няфёдаў шмат робіць па ўмацаванні культурных стасункаў паміж беларускім і індыйскім народамі. Будучы прафесарам вядучага універсітэта Індыі імя Д. Неру, ён нямала зрабіў па прапагандзе беларускай літаратуры. У прыватнасці, у Дэлі была выдадзена «Анталогія беларускай сучаснай паэзіі ў перакладах В. Сінгха» на хіндзі, арганізаваны альманах «Беларуская літаратура», клуб аматараў рускай і беларускай славеснасці.**

**Цяпер В. Няфёдаў з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь—Індыя», прызначанага Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь для індыйскіх чытачоў.**

## ГОДНА Ў СУСЕДСТВЕ

**на старонках дзевятага нумара часопіса «Першацвет» адчуваюць сябе самыя розныя аўтары. Для прыкладу, у раздзеле «Спадчына» А. Пашкевіч («Жадаў быць братам ветру...») прадстаўляе маладога пачаткоўца нашаніўскай пары Альфонса Петрашкевіча. Публікуюцца некалькі вершаў гэтага аўтара. «Гасцёўня» «запрасіла» з вершамі А. Каско і з апавяданнем «Тройка за сонца» Г. Багданаву.**

**Але, як і звычайна, у нумары асноўнае месца займаюць раздзелы «Паэзія» і «Проза». Гэтым разам іх адметнасць у тым, што поруч з маладымі беларускімі аўтарамі выступае і амерыканская паэтэса Донна Маркантонія. Некалькі яе вершаў-песень з англійскай мовы пераклаў М. Сяднёў.**

**Ну, а ў «Крытыцы» — рэцэнзіі К. Сухоцкі («Жыць жыццём народа») дзеліцца ўражаннямі ад кнігі паэзіі П. Панчанкі «Высокі бераг». А. Петрушкевіч («Спазнаць гармонію быцця») знаходзіцца пад уражаннем вершаў, перакладаў і драматычнай паэмы «Барбара Радзівіл», аб'яднаных Р. Баравіковай у зборнік «Люстэрка для самотнай». С. Патаранскі («Светла, адкрыта, росна мне...») разважае над зборнікам Л. Паўлікавай «Купанне ў росах». Тут жа артыкул І. Шауляковай «Гладыятары плагіяту» — пра тых прадстаўнікоў творчай моладзі, хто чужыя творы выдае за свае.**

**У «Жароўні» выступаюць М. Скобла, Е. Акулін, П. Марціновіч.**

## БЕЗ СКАРГАЎ НА НЕДАХОП П'ЕС

**працуе рэдакцыя часопіса «Тэатральная Беларусь». Пацвярджэнне таму і пяты нумар, у якім прадстаўлены самыя розныя жанры — маленькая антыўтопія А. Асташонка «Ахвяра», драма-маналог Х. Жычкі «Аўтабіяграфія», фантастычная п'еса З. Дудзюк «Канікулы на астэроідзе» і інсцэніроўка В. Жуковіча паводле беларускіх народных казак «Дзедава дачка і бабіна ўнучка».**

**«Тэатр у сістэме нацыянальнай культуры» — тэма разваг В. Салеева. В. Козел («Новае гучанне паэмы») дзеліцца ўражаннямі ад пастаноўкі «Песні пра зубра» М. Гусоўскага ў тэатры юнага гледача. «Кароль Лір» на коласаўскай сцэне» — падзагаловак артыкула Т. Гаробчанкі «Трагізм прасвятлення». В. Грыбайла («Рэпетыцыя... Канцэрт... Імправізацыя... Спектакль... Прэзентацыя») запрашае наведаць клас-школу студэнтаў тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры. Назва артыкула А. Шнэйдара сама гаворыць за сябе — «Талачынскі народны».**

**«Бы кветкі... цягнемся да сонца» — Б. Бур'ян пра С. Станюту. І. Курбека («Дзядзька Юзік») згадвае Іосіфа Міхайлавіча Міцкевіча. «І ўсё ж я ўдзячны Макаёнку» — успаміны Л. Левановіча. Н. Швяцова («Богападобны біблейскі старац, або Прароцтва Макаёнка Андрэя» прачытвае п'есу «Святая прастата» з пазіцыі сённяшняга дня. «Як я паступаў у тэатр» — вяртанне П. Пруднікава ў гады творчай маладосці. Вопытам уласных мастакоўскіх памкненняў дзеліцца М. Макарцоў («Рэжысура свят»). І. Стадольнік гутарыць з каардынатарам праграм Фонду Сораса—Беларусь А. Анціпенкам («Можна спадзявацца»).**

**Ёсць раздзелы «Летапіс», «У друку», «Пасля спектакля».**

З пошты аддзела крытыкі

# ТВАЁ НЕБА, МЕТАФАРА

Сама сабе паўтараю радкі з верша Рыгора Барадуліна «Апакаліпсіс», які быў надрукаваны ў нізцы «Пад засенню нябачнага крыла» («ЛіМ», 1993):

**Бог пройдзе басанож**
**Нябесным поплавам.**
**Пярун прытоіцца за хмарным**
**тынам.**
**Планета галаву пасыпле**
**попелам**
**Радыеактыўным...**

Гэтыя радкі адразу запалі ў душу, скаланулі яе да донца сваёй нечаканасцю і таемным зместам. Быццам абвастраецца ў мяне зрок і слых, і я пачынаю разумець, што перанеслася ў свет, створаны паэтам, дзе сваё неба і сцежкі, па якіх ступае басанож Ён. І неба тое высокае і светлае, хмарнае і... радыеактыўнае, а пад ім і радасць, і боль, і смутак, — усё, што можа змясціцца ў сэрцы паэта, якое чуйна адкрыта жыццю.

Такі свет, адначасова рэальны і нерэальны, а дакладней — мастацкі, адкрывае мне барадулінская метафара. Яна здольная пераўтвараць тое, што вакол нас, у цуд, прычым такі, які не парушае логікі быцця. Яна толькі рэзка выводзіць нас за межы аўтаматычнага ўспрымання рэчаіснасці, якое складваецца ў аднамернай і адналінейнай плыні жыцця.

Здзіўляе гнуткасць метафары ў вершы, яна вынікае з умення паэта выявіць самыя аддаленыя рысы падабенства з'яў нябесных і зямных. Перачытаем яшчэ раз, удумаемся, узважым словы. Так, як Рыгор Барадулін, пра чарнобыльскую бяду, якая абрынулася на нас, ніхто не сказаў. Паэт праяўляе неверагодную здольнасць пераасэнсаваць прывычнае, каб у кантэксце даць яму новае жыццё.

Я даўно захапляюся творчасцю Рыгора Барадуліна. Лічу (без перабольшання), што гэта майстар першай велічыні. На самым пачатку свайго творчага шляху ён выявіў бясспрэчны дар валодання словам вобразным, яркім, выразным.

**Не плакаў я — усім на злосць.**
**Бо ў хаце быў адзін мужчына.**
**Не йшоў ты...**
**Маці маладосць**
**Глыбей заворвалі маршчыны, —**

такія радкі, прысвечаныя бацьку, які не вярнуўся з вайны, знаходзім у першым яго ным зборніку «Маладзік над стэпам». Іх мог сказаць чалавек, які па-свойму бачыць тое, што акружае нас, здольны звыклае, будзённае перадаць своеасабліва, адкрыць яго ў нейкіх незвычайных праявах. Аказваецца, словы, якімі карыстаемся штодня ў побыце, маюць цудоўную якасць — раскрываць свой другі ці трэці план, што ляжыць у іх глыбокіх сховах.

Удумаемся: заворваюць маладосць маршчыны. Без плуга, без раллі... Але за слоўным выразам бачу цэлы малюнак ваеннай пары. Абагулены, сінтэзаваны, які з'яднаў мастацкія дэталі. Тут і вобраз вайны, і маці, і сына-падлетка.

Без метафары я не ўяўляю ні аднаго добрага паэтычнага твора. Без яе паэзія сляпая, як камяніца без вокнаў. А яшчэ, як мне бачыцца, метафара — гэта брама ў паэзію. Зачыні тую браму — і паэтычны радок паблякне, як кветка, пазбаўленая сонечных промняў. Дарэчы тут успомніць Арыстоцеля, які казаў, што «метафара... такая прыемная і прыгожая, што ў пекным маўленні свеціць уласным святлом».

Калі чытаеш творы Рыгора Барадуліна, ствараецца ўражанне: ды ён знарок насычае іх метафарай. Больш таго, на мой погляд, метафарычнасць — гэта галоўная рыса, мажліва нават — фундамент яго паэзіі. Прычым метафара ў яго часцей за ўсё індывідуальная. З яе дапамогай на аснове супастаўлення або збліжэння з'яў і прадметаў канструюецца новая рэчаіснасць. Зразумела, пабудаваная па законах мастацтва. Часам, здаецца, больш дасканалая, чым тая, што акаляе нас.

Метафара ў Рыгора Барадуліна адкрывае новыя праявы нашага быцця з таго боку, які звычайна схаваны самой прыродай. Яго трэба адкрыць, і тады будзённае ўспрымаецца ў незвычайных фарбах, гуках і колерах. Паэт як бы разбурае логіку прадметаў і з'яў у жыцці. Затое творчай фантазіяй, заключанай у слове, ствараецца той свет, у якім рэальнае бачыцца больш пуката і глыбока.

У зборніку «Лінія перамены дат» выдзяляецца сваёй метафарычнасцю нізка «Палескія ўражанні». Вельмі характэрны тут верш «Адвячорак», прысвечаны сябру. Чытаем:

**Нам цэлы луг паслалі**
**Гасцінныя дубы,**
**Хоць гавары з буслами —**
**У іх мудрэц любы.**

У спалучэнні з іншымі мастацкімі дэталямі — а імі шчодра перасыпаны ўвесь верш — вобраз дубоў ператвараецца ў метафару-сімвал. Выстройваецца сэнсавы рад, на яго нанізваюцца метафары, якія паслядоўна дапаўняюцца: рака мяняе берагі, нібы нудных кавалераў, вечар павольна едзе, як стомлены казак... Здаецца, межаў фантазіі паэта, якая сілкуецца метафарай, не існуе. Са словам, адкрываючы яго новыя і новыя грані, ён можа, як кажуць, забаўляцца бясконца. Метафара ператвараецца ў маленькі цуд, у своеасаблівае павелічальнае шкельца, праз якое ўсё іскрыцца ў непаўторных фарбах.

Рыгор Барадулін, можна сказаць, адчыніў у нашу паэзію дзверы для творчага скразняку. У яго творах — яркае спалучэнне арыгінальнасці ў выяўленчых сродках са сваім бачаннем свету, з імкненнем асэнсаваць яго па-філасофску. Характэрна, што паэт не толькі віртуозна, на мяжы незвычайнага валодае словам. Ён паядноўвае яго, свежае і непаўторнае, з глыбокай думкай.

З кожным новым творам паэт усё глыбей асэнсоўвае выяўленчыя сродкі, якія пад яго пяром набываюць дадатковыя магчымасці. Метафара ўсё больш робіцца асацыятыўнай, у яе арбіту ўцягваюцца ўсё новыя, часам самыя аддаленыя сувязі паміж з'явамі і прадметамі. Ідзе заглыбленне ў самыя вытокі слова, узнікаюць арыгінальныя наватворы. Узгадваецца верш «Хлеб з соллю еш...», прысвечаны Пімену Панчанку. Нядоўгі век няпраўды, з якое змагаецца яго старэйшы слынны майстар, паэт перадае своеасабліва: «спрадзецца й хлусні кудзеля»... Амаль парадаксальны выраз, але ж і арыгінальны. А за ім — глыбокая па сэнсе думка.

У зборніку «Абсяг» што ні верш — то вянок метафар, быццам рассыпаны яны рукой, якой уласціва адно — бязмежная шчодрасць.

**На досвітку абраць**
**Сабе сцяжыну дня,**
**Што падшукаць аброць**
**Для быстрага каня.**

Тут і свой гукапіс, і глыбокая рыфма. Паэт параўноўвае (а метафара — гэта заўсёды скрытае параўнанне) чалавека, які выбірае дарогу ў жыцці, з аратым, якому трэба засеяць сваё поле.

Сама назва зборніка «Абсяг» нясе ў сабе метафару. Абсяг тут я разумею як слова,

# «Я НАРАДЗІЛАСЯ Ў ГЛЫБІНЦЫ»

Шмат гадоў чакала свой першы паэтычны зборнік гэтая сціплая і здольная жанчына. Жывучы ў глыбінцы, ёй цяжкавата было выдаць яго ў Мінску, дзе ў выдавецтвах па некалькі гадоў ляжаць рукапісы нават масцітых літаратараў. Таму ёй, вясковай настаўніцы, адзінай радасцю і ўцехай было бачыць свае паэтычныя творы надрукаванымі ў раённай і абласной газетах ці часам у часопісах «Работніца і сялянка» і «Роднае слова». Ды ўсё ж гэтыя клопаты былі для Валянціны Ададуравай менш істотнымі, бо галоўнае — было натхненне, пісаліся і пісаліся новыя вершы.

Нарадзілася паэтка ў 1941 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Закончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве зараз і працуе настаўніцай у вёсцы Елка на Зэльвеншчыне. Дарэчы, ад роднае вёскі да Елкі нейкія тры кіламетры. Па дарозе дамоў стаіць велічная і неўміручая Сынковіцкая крэпасць — царква, пабудаваная яшчэ ў XV стагоддзі. Пра яе, як і пра вёскі Хадзявічы і Елка, у паэткі таксама ёсць верш, а ў ім радкі:

**Каторы век каштанаў свечкі**
**Цвітуць ля крапасной сцяны.**
**Што ж! Чалавек недаўгавечны,**
**А сцены — вунь стаяць яны.**

Гэтую страфу я працытаваў з першага зборніка вершаў Валянціны Ададуравай «Глыбінка», які зусім нядаўна накладам тры тысячы паасобнікаў аддрукаваны ў Слонімскай узбуйненай друкарні. Фундатарам выдання стала будаўніча-мантажнае прадпрыемства «Зэльваэнергабуд».

Любоў да роднай зямлі праходзіць праз усе вершы паэткі. Цэлая геаграфія Зэльвеншчыны і Слонімшчыны ў яе радках. Яны шчырыя і светлыя. Адразу адчуваеш, што пісаліся гэтыя творы на адным дыханні. І пісаліся яны менавіта тады, калі пульсавала натхненне:

**Паэзія — хранічная хвароба,**
**А рэцыдывы — ўвосень і вясной.**
**Калі наш край у лісцяной аздобе, —**
**Прыходзіць Муза, каб пабыць са мной.**
**Прыйдзе ўранку і падыме з ложка,**
**Або ў ціхі прадвячэрні час**
**Жар-птушкай прамільгне,**
**пакружыць трошкі,**
**Лаві яе, страчай і прывячай...**

Вобразы вёскі і землякоў для паэткі — нібы глыток чыстай, гаючай вады, якая лечыць, супакойвае і жывіць, надае сілы і бадзёрасці. Яна сама прызнаецца, што «не шукае далёкага раю» і што «мне мілей беларускі родны кут», дзе

**Хаты з крамяных смольных хваінак,**
**Вольхі за вёскай па грудзі ў вадзе.**
**Стукнеш у дзверы няўтульнай часінай —**
**Сэрцам сагрэешся тут у людзей.**

В. Ададурава ўсё жыццё працуе ў школе, усё жыццё сярод дзяцей. Таму дзіўна было б, каб пра школу ў яе не напісалася б вершаў. Праўда, не адна яна — большасць сучасных паэтаў пачыналі свой працоўны шлях настаўнікамі, а вось вершаў на гэтую тэму, на жаль, напісана зусім мала. У аўтаркі зборніка «Глыбінка» такія вершы ёсць, прычым добрыя вершы, якія так і просяцца на музыку:

**Ах, сто дарог! Да пабачэння, школа!**
**Ах, сто дарог! Вы сніліся даўно!**
**Але чаму сягоння невясёла**
**Звініць той самы школьны наш званок?..**

На апошніх старонках першай кніжкі В. Ададуравай надрукаваны побач два вершы «З думай пра музей Ларысы Геніюш» і «Памяці Ларысы Геніюш». Розныя яны па мастацкаму ўзроўню, але асобныя радкі нельга не працытаваць:

**Нахлынуць успаміны, думы, мроі —**
**І дапазна агеньчык у акне.**
**Чай для гасцей на чабары настоены,**
**А ўласны шлях — на горкім палыне.**

Ёсць у зборніку і лірычна-іранічныя вершы. Чытаючы іх, адчуваеш, што ў беларускай глыбінцы таксама ўмеюць жартаваць і смяяцца. Па адных назвах можна здагадацца, аб чым яны: «У паліклініцы», «Жанчыне цяжка дагадзіць», «Дэфіцыт», «Мой воз і лёс» апавядаюць аб тым, чым «хварэе» сёння вёска і райцэнтр.

Паэтцы ўласціва напружанае судакрананне думкі і пачуцця, гранічная шчырасць у лірычным самавыяўленні. Ёсць, праўда, і вершы, якія з гадамі страцілі сваю актуальнасць, састарэлі, але «Глыбінка» паэткі атрымалася як песня, а з песні слоў не выкінеш. Таму і надалей хочацца ёй пажадаць, каб гэтая творчая глыбіня доўга яшчэ жыла ў яе душы, для якой «няма глушы».

**Сяргей ЧЫГРЫН**

якое расхінаецца ўглыб і ўшыркі. Калі яго спазнаць, то адкрыецца новая далячынь. І творчасці. І натхнення.

Тое ж можна сказаць пра назвы зборнікаў «Белая яблыня грому», «Рунець, красавацьь, наліваецца», «Неруш», «Міласэрнасць плахі», «Самота паломніцтва». За кожнай бачацца лепшыя ўласцівасці барадулінскай паэзіі. Узяць хоць бы «Неруш». Гэта што-небудзь некранутае (нявораная зямля, дзікі лес, грыбное месца і г. д.). А мне перадусім уяўляецца неруш яго слова — чыстага, светлага, некранутага ніякай каламуццю. Як крынічная вада. Ці «Міласэрнасць плахі» — выраз, дзе кантраст паняццяў даведзены да парадаксальнасці.

Паэзія Рыгора Барадуліна актыўна адгукаецца на павевы часу, выяўляе незвычайную здольнасць да ўнутранага самаўдасканалення, закладзеную ў самой яе сутнасці. Сведчанне таму — апошнія творы. Філасофская думка ў іх зліта са словам. Скажам, такія нізкі вершаў, апублікаваныя ў перыядычным друку, як ужо згаданая «Пад засенню нябачнага крыла», «Палітлірыка», «Сэрца стане Віфліемам...» У іх розны тэматычны спектр, але адно нязменнае — своеасаблівая вобразнасць, заснаваная на індывідуальнай метафары, вострай і нечаканай, якая паварочвае з'явы і прадметы рэальнасці ўсё новымі гранямі.

**Піў з аднадумцамі з балеі**
**І з цэбра партадвар густы.**
**Камуністычныя ідэі**
**Выходзяць цяжка, як глісты, —**

піша паэт у вершы з нізкі «Палітлірыка». Тут ён не апускаецца да прымітыву, як некаторыя. Рыгор Барадулін, за якую б тэму ні браўся, — найперш мастак, які выяўляе думку вобразнымі сродкамі. Вось і тут. Параўнанне па прынцыпе кантрасту — рэзкае, але троп атрымаўся не штучны, ён вынікае з кантэксту, з сітуацыі.

Нарэшце, у часопісе «Полымя» (N 1, 1994 г.) новая нізка «Сэрца стане Віфліемам...» Сама назва — выдатная індывідуальная метафара. Яна абдымае ўсе вершы, злітаваныя і задумай, і тэмай, і выяўленчымі сродкамі. Сапраўды, Віфліемам, дзе нарадзілася святая і непераможная любоў да чалавека, можа стаць сэрца, якое выпраменьвае святло адухоўленасці. Метафара падымаецца тут да сімвала, як тая нязгасная зорка ў небе. І я бачу яго, высокае і светлае, а пад ім — чароўны свет паэзіі...

**Тут да Бога блізка як нідзе,**
**Аж чуваць,**
**Як немінучасць дыхае.**
**З вока яснага сляза ўпадзе —**
**Стане Віфліемам сэрца ціхае.**

**Наталля КУЗЬМІЧ,**
**студэнтка**

*г. Наваградак*

# НУЛЯВЫ ЦЫКЛ

«У беларусаў адзіны абаронца і прытулак — сама прырода» (Таццяна Шамякіна). І яна марна моліць нашу свядомасць: «Спыніся, перавядзі дух, зразумей мудрасць восені. Адчуй кончыкамі пальцаў першароднае — ДРЭВА». Мяккі дыван пад нагамі з дубовага лісця нашэптвае: «Наладжвай сувязь з душой, і толькі тады знойдзеш той стан, які больш прадуктыўны для нашых нашчадкаў, чым адно Слова».

Халодны восеньскі дождж дадае праз ваконную шыбу: «Няма бясчасся, а ёсць нежаданне будаваць час». Развітальны восеньскі ўзмах буслінага крыла патрабуе: «Чысціню думкі эстэтычна-філасофскай падслухай у прыродзе, у якой жывеш. Як яна цудоўна гучыць!» Мільгацяць думкі на прасторы, і рой жаданняў атакуе іх. Анатоль Баўэр канстатуе: «Калі ў сэрцы жыве жаданне, ці не значыць гэта, што існуе крыніца яго задавальнення?» Чым больш чалавецтва напрацоўвае табу, тым больш прысмакаў для душы ў вясну. Стамілася душа, якое стагоддзе ўжо чакаючы вясны. І ад стомленасці шмат чаго інтуітыўна-непрадказальнага. Катаклізмы ў душах — катаклізм у прасторы.

Глядзім на сонейка восенню і бачым у ім жыватворнае цяпло, а не кузню, дзе шугае полымя. Толькі бліжэй да старасці-восені мы знаходзім такі патрэбны цяпер нерв — узаемаразуменне. Можа, пагэтаму ў старасці вочы мокрыя, і, як вынік, — жыццё пражыта не так.

**Кожнае імгненне зыходзяць з твару**
**крупіцы прыгажосці,**
**І час усё глыбей і глыбей**
**запускае арала.**
**І кружацца, і мільгаюць**
**маленькія шчамяліцы.**
**І ловяць іх пчолы, і разносяць**
**па кветках.**
**І зіхацяць, і завуць, і моляць спыніцца.**
**А мы глядзімся ў люстэрка.**

Думка вясной акідвае позіркам усё навокал і не можа расшчапіць цэлае, спасцігнуць ядро, яна расцякаецца па прасторы і рэфлексуе. І так з пакалення ў пакаленне.

Толькі восенню кожны колер у прыродзе гарманіруе са сваім адлюстраваннем у свядомасці — гэта ёсць нармальнае светаўспрыманне, так званы нулявы цыкл для кожнай творчай душы, якой задае рытм прыродны рух падаючага лісціка. Спакой, філасофскі пачатак. Вясна марнатраўная.

**Яўген КРЫЦКІ**

*«Паважаная рэдакцыя. У сярэдзіне шасцідзесятых мне давялося нейкі час працаваць разам з пісьменнікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Яраславам Пархутам. Вельмі хочацца, каб ён ведаў, што мы, яго берасцейскія землякі, памятаем яго, чытаем, радуемся яго поспехам. Таму я і адважыўся напісаць у «ЛіМ», прапанаваць свае згадкі пра той час».*

***Аўтар***

# ПЕРАМЕЛЕЦЦА...

Пасля некаторых фармальнасцей Мікалай Рыгоравіч Салавей, рэдактар маларыцкай раённай газеты «Сельскае жыццё», увёў мяне ў кабінет аддзела сельскай гаспадаркі.

— Твой шэф, — сказаў ён, указаўшы позіркам на сядзеўшага ў адзіноце супрацоўніка. І тут жа да гаспадара кабінета:

— Прымай папаўненне. Уводзь у курс. Вучы. Рыхтуй сабе падмогу.

З-за стала падняўся вышэй сярэдняга росту белабрысы прыгажун.

— Яраслаў Сільвестравіч, загадчык аддзела, — адрэкамендаваўся ён і працягнуў руку.

З першых слоў я міжволі заўважыў асаблівасць вымаўлення, якое моцна адрознівалася ад нашага паўднёва-заходняга цвёрдагучча. У яго гаворцы вызначаліся шыпячыя гукі. Ва ўдалым спалучэнні з мяккімі яны надавалі вымаўленню асаблівы, я б сказаў — свой, непаўторна-беларускі смак. Я ўпершыню адчуў, як прыгожа можна размаўляць на нашай роднай мове.

Было тады Яраславу Пархуту мо крыху за трыццаць. Ён пасняхова друкаваў свае кароткія навелы ў беларускай перыёдыцы і нават некаторых цэнтральных выданнях (у той час саюзных). Паспеў выдаць дзіцячую кніжку. Усяго гэтага для нас, пачынаючых газетчыкаў, было дастаткова, каб лічыць яго сапраўдным мэтрам.

Не менш таленавітым аказаўся Яраслаў Сільвестравіч і як настаўнік. Яго ўважлівасць, бязмежная цярплівасць засланялі нас, маладых, ад тых горкіх і, як часта бывае, ракавых расчараванняў, якія здараюцца пры першых няўдачах.

Мы ва ўсім імкнуліся пераймаць яго. Нават почырк падстройвалі пад ягоны. Не ведаю як зараз, а тады пісаў ён толькі кітайскай чарнільнай аўтаручкай і літаркамі, бадай, не большымі за просавыя зярняткі.

Да свайго шэфа мяне прыцягвала і наша агульнае захапленне — рыбная лоўля. Кантакт з прыродай для Яраслава Сільвестравіча — гэта не проста збор грыбоў ці рыбацтва. Гэта — кожны раз свята, адзначанае амаль заўсёды нечым нечаканым. Пабываўшы з ім аднойчы з вудамі каля вады або ў лесе з кошыкам, абавязкова будзеш шукаць паўтору гэтай падзеі.

І ўсё ж адной справе ён мяне так і не здолеў навучыць: зімовай рыбалцы. Гэтаму захапленню мой шэф быў аддадзены да фанатызму. Ён ніколі не мудрыў з жыўцамі ці матылём. Зловіць першага акуньчыка, вока — на мармышку, і пайшла работа да самага вечара. У выніку — шчокі ад холаду сінія, рукі не згінаюцца, спіна, наадварот, не разгінаецца, а ў сумцы ў лепшым выпадку грамаў дзвесце калючай драбязы, затое душа — пяе.

Я не асуджаў гэтага занятку, аднак укеміць не мог: як можна атрымліваць асалоду ад справы, усе дзеянні ў якой абмежаваны холадам?

Яраслаў Сільвестравіч хутка заўважыў маю абыякавасць да падлёднага лову і перастаў прапаноўваць гэтую справу.

У хуткім часе пачаліся і прафесійныя «праколы». Набіў руку на кароткіх інфармацыях і захацелася нечага большага. Параіўся з загадчыкам аддзела і вырашыў напісаць аб адной сельскай настаўніцы. Немаладая жанчына ўсё сваё жыццё адпрацавала на сяле, карысталася вялікай павагай як сярод школьнікаў, так і сярод бацькоў. Хвалілі яе і ў аддзеле народнай адукацыі.

Паспрабаваў. Атрымаўся невялічкі, першы ў жыцці нарыс. Надрукавалі. Адразу ж пасля выхаду газеты — тэлефонны званок з аддзела прапаганды райкама: «Як вы маглі станоўча адзначыць на ўвесь раён гэтую жанчыну? Ці вядома вам, што яна трымае ўласную гаспадарку, у прыватнасці, карову? А раз чалавек займаецца гаспадаркай, ён не можа быць паўнавартасным настаўнікам».

Карацей — першая мая ўдача абярнулася начальству вялікай непрыемнасцю. Якраз тады па зямлі нашай знішчальным пажарам каціліся хрушчоўская рэформа па скарачэнні сялянскіх гаспадарак. Я на тое не зрабіў папраўку. Моцна перажываў. Яраслаў Сільвестравіч разумеў мяне, па-сяброўску супакойваў.

— Што зробіш, — гаварыў ён. — Папрацуеш, прытрэшся. Яны — там — арганізм. Мы ж усяго яго невялічкі орган. Што жадае арганізм, тое павінен выконваць орган.

Я вельмі блізка ўспрыняў іранічную заўвагу свайго настаўніка. Першы раз па-сапраўднаму задумаўся аб сваім месцы ў жыцці. Упершыню адчуў халадок — як некалі на зімовай рыбалцы. Але ж той, на возеры, скоўваў цела, а гэты — душу...

«Не, не мая гэта справа — ідэалогія, — падумаў тады я, па-юнацку невядома на каго пакрыўдзіўшыся, і цвёрда вырашыў: буду пісаць сабе пра сілас, малако, бульбу — так прасцей. І на табе — як прагаварыўся!

У адным з калгасаў упершыню ў нашым раёне выкарысталі электрапастуха. Трэба было тэрмінова арганізаваць матэрыял. Паслалі мяне.

Паехаў я. Бачу: частка поля, размешчанага ў маляўнічым месцы сярод лесу, агароджана тым самым электрапастухом — тоненькім дротам на металічных штырах. У агароджы спакойна пасвіліся пародзістыя чорна-пярэстыя цялушкі. А на ўзбоччы сабралася каля дзесятка людзей. Туды накіраваўся і я. З прысутных я нікога не ведаў. Назваўся. На мяне ніхто асабліва не зважаў. Толкам не разабраўшыся, хто ёсць хто, я проста да ўсіх звярнуўся з першымі стандартнымі пытаннямі. У адказ — хто паціскаў плячыма, хто наогул адварочваўся, дэманструючы абыякавасць да мясцовай прэсы. І толькі адна прыгожа апранутая, з намаляванымі вуснамі жанчына ахвотна рэагавала на кожнае пытанне. Пры гэтым яна неяк загадкава жмурылася, хоць сонца й не было, і пасля кожнага адказу ўсміхалася. Я вырашыў, што гэта калгасны заатэхнік, і ў зручны момант бясхітрасна запытаў: «Прабачце, вы працуеце заатэхнікам?»

Замест адказу жанчына яшчэ шырэй заўсміхалася, але не кіўнула. Сумнення не было — я зноў уліп. Запісаў у блакнот усё, што лічыў патрэбным, зрабіў некалькі здымкаў і вярнуўся ў рэдакцыю.

Не паспелі высахнуць мае здымкі, як з райкама званок.

— Што гэта такое? — лямантаваў чыноўнік з аддзела прапаганды. — Каб работнікі рэдакцыі ды не ведалі ў твар нашых супрацоўнікаў!?

«Заатэхнічка» тая аказалася інструктарам райкама. Во зняважыў вяльможную паненку!

Рэдактар надта не сварыўся. А Пархута, як зараз памятаю, паклаў руку на плячо і так вось цёпла, у жартаўліва-суцяшальнай форме сказаў: «Не сумуй. Перажывём і гэта. А ты таксама добры. У твае гады не адрозніць па губах сяла ад горада!» (У той час гэта было яшчэ магчымым).

Пакрыху мае ўяўленні аб свабоднай творчасці пачалі мяняцца. Неўзабаве Яраслаў Сільвестравіч заняў пасаду намесніка рэдактара. Уважлівы быў кіраўнік, прывабны, калі можна так сказаць — цёплы. Запраста ішлі да яго супрацоўнікі і з бедамі, і з радасцямі. Па-бацькоўску, з душэўным удзелам успрымаў ён усе нашы нягоды. Радаваўся поспехам. Адну з яго мудрых парад я і дасюль не забыў: «Галоўнае — цярплівасць. Не губляйцеся. Перамелецца — мука будзе».

Як і трэба было чакаць, Яраслаў Пархута вырас з раённай кашулі вельмі хутка. Пераехаў у сталіцу. Асабіста з мяне газетчыка так і не атрымалася. Верх узялі бацькоўскія гены — валтузіцца з жалязякамі. Аднак за творчасцю земляка сачыў і сачу ўважліва. Надта ж блізкія для мяне героі яго твораў. І не важна, простыя гэта сяляне ці прыгожыя лугі, палеткі, магутныя волаты-дубы — усім у творах Яраслава Пархуты адведзена асаблівае, ганаровае месца. Піша ён з вялікім веданнем справы. А інакш жа як? Яго творы — гэта вынік шматгадовых назіранняў, нястомных шматкіламетровых вандраванняў. Нездарма яго нястомная праца адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК**

*г. Брэст*

# НА РАДЫЙНЫХ ЗАДВОРКАХ?

Не скажу, што я ўвесь дзень ліпну да радыёпрыёмніка, слухаючы перадачы. Але, як пісаў, пра свайго героя К. Чорны, «павэдлуг халасцяцкага палажэння» ў вольныя часіны даводзіцца заставацца адзін на адзін са сваім суразмоўнікам — радыё. Усё-такі ёсць каго паслухаць, з нечым згаджацца, нейкім высновам і аргументам пярэчыць, — вядома, завочна.

Асабліва мне падабаліся літаратурныя перадачы, у якіх раніцай гучалі вершы, апавяданні, урыўкі з аповесцей і раманаў, нарысы і публіцыстычныя выступленні беларускіх пісьменнікаў. У іх кожны раз можна было пачуць нямала чаго цікавага, слушнага і патрэбнага. Радавала тая літаратурная мова, на якой гучалі перадачы, — чыстая, не засмечаная, далёкая ад той трасянкі і сечкі, што набіла аскоміну і настолькі абрыдзела, што падчас рука сама міжволі цягнецца да выключальніка. Напрыклад, журналісты самі гавораць на беларускай мове, а іх субяседнікі — на рускай, а здараецца і адразу на дзвюх, рускай і беларускай, у выніку чаго атрымліваецца проста бязглуздзіца.

З літаратурных перадач можна было даведацца, як і што робіцца ў рэспубліцы, чым жыве наш народ, якімі мастацкімі творамі парадуюць неўзабаве нашы празаікі і паэты. У дадатак гэтыя перадачы як бы рабілі і другую не менш важную і адказную справу: прапагандавалі роднае беларускае слова, паказвалі, якое яно меладычнае і дакладнае, прыгожае і абаяльнае, багатае і лаканічнае, здольнае перадаць любую складаную думку. Гэта, безумоўна, прыцягвала ўвагу, прымушала мяне аддаваць і ўдзяляць увагу літаратурным перадачам.

Апошнім часам, уключаючы радыё, я з трывогай і прыкрасцю стала заўважаць, што мне чагосьці не хапае. Што здарылася? Аказалася, што перасталі гучаць літаратурныя перадачы. Я пачала думаць, што, магчыма, узялі і разагналі літаратурную рэдакцыю, як гэта раней зрабілі з «маладзёжкай»? Пачала прыслухоўвацца і, во радасць! — адшукала, знайшла нарэшце свае перадачы. Але гэта не надта мяне ўсцешыла. Чаму? Гучаць яны занадта позна, недзе пасля 21 гадзіны, а то і пазней. У гэты час, калі чалавек напрацуецца за дзень, яму хочацца адпачыць — каму легчы спаць, каму паглядзець па тэлевізары кіно, паслухаць апошнія паведамленні з Масквы, Пецярбурга. Чаму ж для літаратурных перадач выбралі такі час, што яны як бы апынуліся на радыйных задворках? Чым літаратурная рэдакцыя правінілася і перад кім? Імкненне да абнаўлення можна вітаць, але, безумоўна, у тым выпадку, калі ад яго ёсць хоць якая-небудзь карысць. А што ж дала перастаноўка часу для літаратурных перадач? Анічога, апрача шкоды! Радыёслухачы фактычна перасталі чуць у поўным аб'ёме роднае мастацкае слова. А, можа, гэта нейчы злы намер, можа, гэта зроблена наўмысна, каб як найменш гучала беларускае літаратурна-мастацкае слова, каб яго менш чулі жыхары рэспублікі? Такія прыклады назіраліся і раней. У свой час «Сельскую газету» сталі выпускаць на рускай мове, хаця яна прызначалася для сельскіх працаўнікоў, дзе ў большасці размаўляюць на роднай мове. Хіба гэта было зроблена для карысці роднага слова? Вядома, не! Можа, і літаратурныя перадачы на радыё былі «дэпарціраваны» на самы краёк радыйнага часу з надзеяй, што іх ніхто не заўважыць і не стане слухаць? Калі гэта так, то гэтыя таварышы ў тым-сім не памыліліся.

Змену сеткі перадач трэба разглядаць як мядзведжую паслугу, якую аказалі радыйнікі сваім слухачам. Ці не разумней было б вярнуць літаратурныя перадачы на сваё законнае месца, на якім яны вытрымалі праверку часам, заслужылі любоў і павагу? І хаця вядомая прымаўка гаворыць, што хата багата не вугламі, а пірагамі, мы павінны разумець, што пірог заўсёды кладуць на стол, а не, прабачце, на лаву ці зэдлік.

**Марыя КАРАБЯНКОВА,**
**кандыдат біялагічных навук**

*г. Мінск*

# «КАЛІ СОРАМНА СПАЦЬ...»

**Верш М. Чарота «Звон», напісаны ў 1919 годзе, вынесены свайго роду эпіграфам да трэцяга нумара часопіса «Беларуская мінуўшчына»: «Прыйшоў час, калі сорамна спаць; ўсе так шчыра за працу ўзяліся, ўсе жыццё пачалі будаваць, а ты спіш ...Хоць ад звону прасніся!». «Прасніся!» — гэтае слова як нельга лепей стасуецца і да матэрыялаў «БМ», якія асвятляюць многія старонкі гісторыі нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны, а таксама падзеі дня сённяшняга суадносна розных аспектаў нацыянальнай гісторыі.**

**Галоўны спецыяліст па музеях Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь С. Маслоўскі ў артыкуле «Люстэрка мінулага» запыняе ўвагу над тым, як, нягледзячы на цяжкасці, справе нацыянальнага Адраджэння спрыяюць музеі нашай суверэннай дзяржавы. Узнімаюцца і надзённыя праблемы іх далейшага жыцця.**

**Споўнілася 60 гадоў гістарычнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Да гэтай даты прымеркаваны артыкул А. Яноўскага «Пачаткі гістарычнай адукацыі і фотарэпартаж «Прывітанне, альма-матэр!».**

**Як вядома, сесія ЦВК БССР, што праходзіла 15 ліпеня 1924 года, паклала пачатак планаваму ажыццяўленню беларусізацыі як дзяржаўнай палітыкі. Беларусізацыя праводзілася і ў часцях Чырвонай Арміі. Як адбывалася гэта, можна даведацца з архіўных матэрыялаў, прапанаваных пад загалоўкам «Як войска беларускім рабілі».**

**У. Аніскович і М. Дзелянкоўскі знаёмяць з Беларускім дзяржаўным архівам кінафотадакументаў («У доме нераскрытых таямніц»). Пад рубрыкай «Народы Беларусі» Э. Іофэ расказвае пра беларускае яўрэйства («Пра кагал, ваал і Шауля Валя»). «Геапалітычнае становішча Беларусі: учора і сёння» — артыкул У. Снапкоўскага. Яшчэ адзін зварот да гісторыі Арміі Краёвай — «Праз ісціну — да братэрства» Т. Стэмбаша і К. Ясевіча. Матэрыялы пра польскае ўзброенае падполле на Беларусі ў 1944—1951 г... «Не абуджаць пачуццё крыўды» падрыхтаваў С. Жумар.**

**Амаль усе матэрыялы выклікаюць зацікаўленне. Напрыклад, С. Асіноўскі («З «варагаў у грэкі»... праз Старую Перавалоку?» выказвае слушныя меркаванні наконт таго, якія водныя шляхі выкарыстоўвалі нашы продкі. Г. Прыбытка («На всемирную пользу...») прасочвае жыццё і лёс І. Капіевіча. У. Кананович («Клецкія Радзівілы») запрашае ў часы, калі тут правіла вядомая і на Беларусі і далёка за яе межамі дынастыя. А чарговыя старонкі «Гісторыя Беларусі: год за годам» — гэта расказ У. Арлова пра знакамітую бітву пад Оршай, выдавецкую дзейнасць Ф. Скарыны. А. Трусаў і І. Гаецкая («Менскія гандлёвыя рады») зазіраюць у мінуўшчыну нашай сталіцы.**

**Застаецца яшчэ дадаць, што змястоўным атрымаўся «Каляндар «Беларускай мінуўшчыны». Гэтым разам ён ахоплівае найбольш значныя падзеі кастрычніка, лістапада, снежня.**

# «ПОЛАЦАК» ЖЫВЕ

**Сталыя чытачы часопіса «Полацак» не маглі не заўважыць, што апошнім часам гэтае выданне беларускага замежжа не вытрымлівала перыядычнасць. Аказваецца, прычына была ў некаторых арганізацыйных момантах, звязаных з фінансаваннем «Полацака». Цяпер з рэдкалегіі выведзены М. Белямук, і клíўлендскі культурны цэнтр «Полацак» перавёў рэдакцыі часопіса грошы, якія прытрымліваў з пачатку сёлетняга года. Пасля гэтага і пабачыў свет чарговы, шосты нумар «Полацака». У ім — тэкст прывітання ўдзельнікам і гасцям XXI сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, падпісаны прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» Р. Гарэцкім і старшынёй рады ЗБС Г. Сурмач, а таксама віншаванні старшыні клуба «Спадчына» А. Белага, дырэктара Беларускага выдавецкага таварыства «Хата» В. Санько і іншых.**

**Змешчаны працяг артыкула У. Міхнюка і Я. Паўлава «Як знішчалі генафонд беларускай нацыі»; матэрыялаў, звязаных з арыштам А. Смоліча; рамана М. Кавыля «З агню ды ў полымя»; вершы Я. Юхнаўца і С. Сачанкі, артыкул С. Тарасава «Асноўныя этапы і заканамернасці тапографа-дэмаграфічнай структуры феадальных гарадоў Беларусі», «Мае ўспаміны» Ю. Найдзюк, чарговыя раздзелы кнігі С. Белай «Максімава Яраславія», нарыс С. Менскай «Адкуль пайшлі асіны ў Беларусі», згадкі А. Адамовіча пра М. Равенскага «Лірнік краіны ветлай», «Песня сялян» (тэкст Н. Арсенневай, музыка М. Шчаглова), іншыя матэрыялы.**

Паэзія

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# КРЫЖЫ І СКРЫЖАВАННІ

## ВЯНОК САНЕТАЎ

*Міхасю КЛЕБАНОВІЧУ*

### Ключ

**У сэрцы — воля! Рабства ў коле дзён,
Як намі правіць лёс альбо выпадак.
Надзея марная зрабіць парадак
Там, дзе не зорак скопішча — імён.**

**І вось прыдуманы быў п'едэстал.
З яго вышчае чалавек і д'ябал,
Дарма, што сонца, зорачкі абапал,
У сэрцы многіх памятка Хрыста.**

**І маем тое, што хацелі мець:
Раздрай, разбой, разгрыз,
размежаванне, —
Усё для большага для выжывання,**

**Нягледзячы на кроў і смерць.
Што за кавалак мяса на аркане?
Адна спадзеўка — толькі не каханне...**

### 1

**У сэрцы воля! Рабства ў коле дзён...
Яно цяпер нікога не бянтэжыць.
Вятры жыцця царкоў
прыносяць свежых,
Ды ад улады іхняй той жа плён.**

**Так, ёсць дазволы на царкоўны звон,
І языкі даўжэзныя не рэжуць,
Ва ўсе бакі адкрыты сёння межы,
А большасць выбірае — пад адхон...**

**І пра былое усё болей згадак,
Хаця пакінулі мы не Эдэм...
І ёсць на свеце многа лепшых тэм,**

**Чым быць шчаслівымі нам па загаду.
Краіна так нагадвае гарэм,
Як намі правіць лёс альбо выпадак.**

### 2

**Як намі правіць лёс альбо выпадак,
Чаму ж разбою не расквашваць
І з лапікаў дзяржаўкі не сшываць,
Калі аж сніцца па начах улада.**

**Дарма, што раздушыць захоча ботам
Дзяржавачку памерам ў галёш
Дыктатар большы, хоць такая ж вош,
Што ўздумала народа стаць аплотам.**

**І ўсё ж мы паперамен рады.
Круціся, з новай змазкай калаўрот.
Па ўласным па дакладзе з садакладам**

**Наватар выступіў праз дзесяць год.
Глядзеў у рот і развяжаў народ:
«Надзея марная зрабіць парадак...»**

### 3

**Надзея марная зрабіць парадак
Не тое што ў дзяржаве — у сям'і.
У сэрцы разабрацца як сваім,
Калі жаночыя усоды звады.**

**Згадзіся, дружа, мы з табой не мёд
І не заўсёды праведным паглядам
(Павінен быць жа у сям'і парадак)
Каханай часта затыкаем рот.**

**Адбіцца можна ад любых папрокаў
Альбо ўцячы ад іх, набраць разгон
Убок развагі самай аднабокай —**

**Душою ты яшчэ ўсё маладзён
І не збіраешся быць сляпавокім
Там, дзе не зорак скопішча — імён.**

### 4

**Там, дзе не зорак скопішча — імён,
Так часта гучных і так рэдка вартых
Зямной вядомасці і зорнай карты,
Бароніць нас і ніштчыць нас закон.**

**Ужо даўно не ўсмешку за мільён
Купляюць, а жыццё за сотню.
Расплачваюцца ў падваротні.
Забойцам толькі маці шле праклён...**

**Цяпер сцвярджаюць: ад жыцця адстаў
Народ — спрадвечная жыцця крыніца,
І ён павінен на таго маліцца,**

**Хто працу за кавалак хлеба даў.
Калі напіцца, дзе найлепш зваліцца?
І вось прыдуманы быў п'едэстал.**

### 5

**І вось прыдуманы быў п'едэстал...
Паставіць лепш бы на яго жанчыну:
Яна ж каханне, маці і Айчына,
З ёй з нябыцця род чалавечы ўстаў.**

**Гэй, нелюдзь, не прымай гэта за жарт!
Бо не жанчынаў ведаў ты — падсцілкі,
Заезджаныя, быццам грампласцінкі,
Зашмальцаваныя, нібы калода карт.**

**Далей жа мы пра гэта памаўчым...
Шалёны век і так душу зашкрабаў.
І бацька ён адразу і айчым**

**З пукатымі вачыма, як у краба —
Знамнога бачыў... І зусім не слаба
З яго вышчае чалавек і д'ябал.**

### 6

**З яго вышчае чалавек і д'ябал,
І чым заглушыш гэты грамафон...
Вядома, ён не ўсюды Цыцэрон,
Але ж і грэх назваць балотнай жабай.**

**І не таму, што ўвесь ён у асфальце,
Адпрасаваны, нібы макінтош.
Зямля пры ім даўно не проста кош
У зорным небе з латкамі на лаце.**

**Не спіць мядзведзем, не сасе ён лапу,
Хаця скрозь пальцы часта ён глядзіць
На чалавечы рух сярод ільдзін**

**І калі б мог — усё б сабе зацапаў,
Маладзічок бы ў клетку пасадзіў;
Дарма, што сонца, зорачкі абапал...**

### 7

**Дарма, што сонца, зорачкі абапал...
Распуста распаўзаецца, як спрут.
Як бусел, на адной назе мой кут
Малітву слухае на мовах свету папы.**

**Ускінутыя ў неба рукі,
У бога просяць людзям памагчы:
Малітвай застаецца снід лячыць,
Хто возьме, апроч бога, на парукі.**

**Цяпер ужо не ўчуеш больш: «Адстань!
Цалуйся сам начамі з абразамі...»
Ужо згадзіліся — адзін над намі,**

**Хто крылы-рукі ў небе распластаў.
Узорны снег рыпіць пад пalaзамі.
У сэрцы многіх памятка Хрыста.**

### 8

**У сэрцы многіх памятка Хрыста
Пры «не забі...», «не сатвары куміра...»
Дачушка Данка, мой анёлак шчыры,
Не я... Дык ты хоць пражыві да ста.**

**У далеч тут жа позірк зазірнуў.
Не часты шанец жыць у двух стагоддзях
Майму дзіцяці... Хай жа
шлях свой пройдзе
Праз шчасце, боль...
адно не праз вайну.**

**Зямля, ты паварочваешся ледзь,
А мне яшчэ хацелася б спяшацца
І не згубіць апошняга мо шанца —**

**Ля сэрца сваё сэрца абагрэць
І часам разам з ім павыхваляцца:
«І маем тое, што хацелі мець!»**

### 9

**І маем тое, што хацелі мець!
Якія душы скажуць так ці пожні,
Калі у века хутка год апошні,
А ён не паспявае ўсіх адпець...**

**Наструньвай біятокі, экстрасэнс.
У нас без вестак гэтулькі прапаўшых!
Перасалілі не з багацця пашы.
Воўк у піліпаўку забыў пра секс.**

**Пытанне ставіцца даўно рабром:
Якога ж мы чакаем ратавання,
Калі мінуў сезон для палявання,**

**А нас палюе бліскавіца, гром...
Для д'ябальскага перайманні
Раздрай, разбой, разгрыз,
размежаванне...**

### 10

**Раздрай, разбой, разгрыз, размежаванне
Без будучыні для душы.
Блізняты-словы, думкі-спарышы —
І хопіць для народнага прызнання.**

**Няўжо вярнуцца трэба да пачатку,
Каўчэг у бога выпрасіць, патоп,
Каб за «прарокам» не хадзіў натоўп,
Бо той на дзень прыкінуўся загадкай.**

**Мяняюцца не людзі, а рэжым.
На лёс, на час, на ўладу нараканне.
Як сімвалу дзяржаўнага яднання,**

**Чакаем прэзідэнцкага рыкання:
Мы без яго ніяк не можам жыць...
Усё для большага для выжывання.**

### 11

**Усё для большага для выжывання!
Паклонімся ж уладарам:
За іх здароўе палічь свечкі храм
У час хвалюючы самапазнання.**

**Схавайма скепсіс, дарагі Міхась.
Мы тут не ўладарам, а храму верым.
Адсюль не пасылаюць на галеры
І тут хоць не утоптваюць у гразь.**

**Не цела, а душу каб адагрэць,
Памарым, паўздыхаем, пастаім.
Спявалі ж некалі мы дружна гімн**

**І ў пекле не баяліся гарэць.
Прыглядзься — кожны ў храме
трошкі мім,
Нягледзячы на кроў і смерць.**

### 12

**Нягледзячы на кроў і смерць,
У часе неспакойнае пары
Мы комікі і ліхвяры,
Бо радасць і заначку хочам мець.**

**У чорны дзень не беленькі сухар
У думках я не раз ужо разгрыз:
Калі з гары ляціць дзяржава ўніз,
Не да зямных, не да нябесных кар.**

**Як вам жылося, людзі, пры падмане? —
Нашчадкі не спытаюць нас,
Бо плаваць ім у тым жа акіяне**

**Да новых зорак і да новых рас...
А покуль дэтэктыўнае пытанне:
Што за кавалак мяса на аркане?**

### 13

**Што за кавалак мяса на аркане?
Магчыма, я... А, можа, нейчы сын...
І танк у сорак тысяч конскіх сіл
Яго каханай шле, як прывітанне...**

**Ау, прагрэс! Цывільны чалавек,
Я у такіх атаках мала петру,
Ды чалавечы тлен прыходзіць з ветрам,
Падобны так на тлен малочных рэк...**

**Сягоння смерць у модзе на экране,
Нібы рыхтуюць для вайны салдат
Сумленнейшыя грамадзяне.**

**Вы не фашысты? Дык і я не кат!
І не арканілі людзей славяне.
Адна спадзеўка — толькі не каханне...**

### 14

**Адна спадзеўка — толькі не каханне...
Бо з ім адно адродзіцца наш род.
Бо вечны ў закаханых кожны год
Шчаслівага зямнога мілавання.**

**Сцяленне душ як не абкручвай
дротам —
Не вязні ў ім яны, а матылі.
Сустрэчы дзень іх цела акрыліў,
Каб адлятаць і прылятаць употай.**

**Не трэба... Не пішыце з іх ікон...
Каб закаханых у царкве не кралі,
Не валаклі, як танк той... у вагон,**

**Святыя за святых каб не каралі,
Калі не можа пакараць закон...
У сэрцы — воля! Рабства ў коле дзён.**

# ДВА АПАВЯДАННІ

Іван НАВУМЕНКА



## ВЫПАДАК НА АЎТОБУСНЫМ ПРЫПЫНКУ

Князі былі разумныя людзі, з добрым густам, адчуваннем прыгажосці. У гэтым я пераканаўся даўно. Удзельнічаў у многіх раскопках, каля розных гарадоў, княжацкіх пасадаў. Для жытла князі выбіралі прыгожае месца. На гары альбо сярод балота — каб было зручна абараняцца ад ворагаў. Але абавязкова з прыгожым навакольным краявідам.

Некалі я стаяў у Кіеве, на Уладзімірскай горцы, глядзеў на Дняпро, на асмужаныя зарэчныя далі. У той жа год выпала пабываць і ва Уладзіміры. Божа мой! Такая самая горка, амаль такі самы краявід, толькі не дняпроўскія, а другія зарэчныя далі адкрываліся позірку.

Люблю княжацкія сталіцы, хоць сёння многія з іх толькі раённыя цэнтры. Напрыклад, Лагойск, Наваградак, Слуцк. А старажытны Тураў і Заслаўе нават гэтых не надта вялікіх тытулаў не маюць.

Я грыбнік, пагэтаму вандроўнік. Блукаў па лагойскіх, стаўбцоўскіх, пухавіцкіх, слуцкіх, заслаўскіх і іншых лясах. Прыгожая наша Беларусь! Асабліва цэнтральная, сэрцавінная частка. Пакатыя, ахутаныя наміткай смугі, пакрытыя лясамі пагоркі таяць пад сабой цэлае мора лячэбнай, на любы густ вады, нібы чакаючы, калі ў гэтых мясцінах паўстануць курорты і санаторыі. Швейцарыя...

Я марыў пад старасць пабудаваць дачны домік дзе-небудзь у лясной, грыбной мясціне, якая ў дадатак яшчэ і гістарычная. Я люблю адзін такі, размешчаны на чыгунцы гарадок з яго нізкімі дамкамі, напаўразбуранымі старажытнымі мурамі, пясчаным валам.

Там і цяпер яшчэ захоўваецца прыстойны лес. Гонкія сосны высока ўзносяць купчастыя верхавіны, сонца адбіваецца на гладкіх, меднага колеру ствалах. Пад нагамі шасціць мяккі мох або ружова-сіні верас. Па-над балотцамі п'яніць голаў багун. Шустрыя вавёркі спускаюцца на самы нізкі сук сасны, цікаўна сочачы, хто ходзіць па іхніх баравінах.

У гэтым баравым лесе мяне заўсёды ахоплівае асаблівы настрой. З думак знікае звычайнае, будзённае, душа настройваецца на высокі лад. Бор нібы дыхае вечнасцю. Можна легчы на мяккі імшасты дол і глядзець у неба і яго бяздонную сінечу, на чародкі белых аблачынак, на птушак, якія то мільгаюць, то кружаць у вышыні.

Той лес, паблізу якога я марыў пабудаваць домік, меў у маім жыцці асаблівае значэнне. Колькі разоў у гадзіны неспакою, душэўных згрызот я ехаў туды, вандраваў між сосен, бяроз, асін і — маўкліва, без слоў — нібы распавядаў ім пра сваё гора. Нават у змрочныя асеннія дні, калі зямля рыхтуецца да сустрэчы з зімой, я стараўся выбрацца ў лес. Раскладваў цяпельца, слухаў шум сосен — то аднастайна-зацяты, то нібы з цяжкім перарывістым уздыханнем, — глядзеў, як спадае з бяроз і асін жоўтае і барвовае лісце.

Аднойчы ў такім лістападаўскім лесе напаткала мяне незвычайная грыбная ўдача. Я выбраўся на верасовую паляну, густа засеяную апалым лісцем, але штосьці пацягнула мяне на бліжні ўзгорак. На ім расце некалькі высокіх гонкіх сосен. Дол голы, толькі ў асобных мясцінах пакрыты жорсткім наздраватым лішайнікам. І вось на гэтым ужо авеяным халоднымі асеннімі вятрамі голым пятачку я бачу вялікую сям'ю баравікоў. Застываю ў здзіўленні і радасці. Ёсць у грыбной сям'і патрыярх — вялізны баравік з шырокім, нібы парасон, медна-барвовым каптуром, за ім трохі меншы, але таксама прыкметны, астатнія прыкладна адной велічыні. Нібы генерал, палкоўнік у акружэнні маёраў і капітанаў.

Усе баравікі на тоўстых крамяных ножках, моцныя, пруткія. Дзевятнаццаць штук і ніводнага чарвівага.

Чалавеку, дзе б ён ні жыў, трэба сустракацца з зямлёй, вадой, травой, лесам. І хоць раз у жыцці з такімі, як я знайшоў, баравікамі.

Жаданы, выпеставаны ў марах дамок я нарэшце будую. І там, дзе хацеў — паблізу заняпалай княжацкай сталіцы, у якой, аднак, можна купіць хлеба, малака, часам нават страшэнна дарагой на сённяшні дзень каўбасы і селядца.

З вакна майго дамка відаць два пакатыя пагоркі, на кожным з якіх высіцца пабіты маланкамі, з вышаленым пастухамі тулавішчам дуб, а далей мысок сасняку і бярэзніку.

Вечарам я прымашчваюся ля вакна і чытаю. Паступова, не спяшаючыся асенні дзень пераходзіць у ноч. Спачатку зямлю ахутвае толькі лёгкая шэрань, потым яна пераходзіць у светлую сінечу. Я ўключаю электрычнае святло. Сінь згушчаецца ўсё болей і болей. Нейкі час яшчэ можна адрозніць галіны яблыні, якая расце пад вакном, іх спляценне, перакрыжаванне. Потым усё паглынае цёмная, як дзёгаць, ноч.

На зломе лета і восені над галавой асабліва зорнае неба. Трохі зорак, сузор'яў я ведаю. Свяцілі яны да мяне і пасля мяне будуць свяціць. Але ад гэтага не знікае ў душы ўрачыстасць, якую выклікае велічнае, бясконца зорнае неба.

У апошні час робіцца штосьці дзіўнае. Невялікія, накшталт майго, дамкі пераважна летняга тыпу, як стаялі так і стаяць. Але ў найбольш прыгожай мясціне, каля вадасховішча, на самым яго беразе вырастаюць двух- і нават трохпавярховыя катэджы з белай або чырвонай цэглы, з узорнымі вастраверхімі мезанінамі, балконамі, крытыя чарапіцай або бляхай. Мне здаецца, што нават княжацкія палацы горш выглядалі. Пасёлкі-шанхаі з дамкамі-сотамі здаюцца ў параўнанні з гэтай пышнай, магутнай забудовай звычайнымі мурашнікамі.

Гэтай восенню ў мяне вынікае непрыемная сустрэча з жанчынамі старажытнага гарадка. Я прыйшоў на аўтобусны прыпынак, а яны ўжо сядзелі на лаўках, абцяжараныя сумкамі з буракамі, капустай. На бліжнім полі, за сценкай нізкарослых елак буракі нядаўна выбіралі студэнты. Але так выбіралі, што палавіна ці нават болей засталася ў зямлі. Вось жанкі і дабіралі саўгасныя буракі. Вядома, дзеля ўласнага спажывання.

Калі я падышоў, яны мяне ўважліва агледзелі. Пераканаўшыся, што баяцца мяне нечага, жанкі працягвалі шастаць адна за другой праз шасейку і на капуснае поле. Капусту яшчэ ніхто не зразаў, яна чакала гаспадара. Жанкі яе проста кралі.

Нарэшце адна найбольш шустрая, з мігатлівымі, цёмнымі вочкамі, якая ўвесь час з падазрэннем на мяне пазірала, спытала, адкуль я з'явіўся.

— З дачы, — адказаў я. — Хачу аўтобусам дабрацца да чыгункі.

Што тут пачалося! Жанкі крычалі, лямантавалі, гатовы былі разарваць мяне на кавалкі.

— Зладзеі бессаромныя! Народ абіраеце. За чэсную зарплату такія харомы не пабудуеш!..

У тлуме, мітусні я ніяк не мог давесці раззлаваным жанкам, што прыйшоў са звычайных дач, з шанхаяў, дамкі ў якіх пабудаваны людзьмі з невялікай зарплатай.

— Буржуі праклятыя! Ніяк нажэрціся не можаце. Паглядзіце, як народ жыве...

— Вылезуць вам бокам палацы! Трэба дынамітам іх узрываць!..

Падыходзіць аўтобус. Жанкі напорна ў яго лезуць. Жаночы натоўп з сумкамі буракоў, накрадзенай капусты настолькі раз'ятраны, ашалелы, што я не адважваюся ўціскацца ў аўтобус.

Саджуся на лавачку, чакаю наступнага.

## ЗЯЗЮЛІ Ў РОДНЫМ ЛЕСЕ

Напярэдадні Дня Перамогі пісьменнік Кулінковіч не вытрымаў: нягледзячы на тое, што трэба капаць агарод, адвезці на садова-агародны ўчастак мяшок насеннай бульбы дый на ўрачыстым сходзе ветэранаў пасядзець, ён, не раячыся з жонкай, раптам рушыў на станцыю, пастаяў у чарзе і купіў білет да гарадка, куды даўно запрашае яго знаёмы настаўнік.

Апошні год Кулінковіч усё часцей успамінае родны лес, дзяцінства, разлівы верасоў на пясчаных выгарах і лясныя партызанскія сцежкі.

Ён хоча пабачыць партызанскую штабную хату ў вёсцы Гагалі, якая ўсімі сваімі вокнамі звернута на вуліцу. У гэтай хаце яго прымалі ў партызаны. На ўсход ад вёскі высілася града дубоў, кранутых першай асенняй пазалотай. У вячэрні час над дубамі гулі савецкія самалёты. Яны ляцелі на захад бамбіць немцаў.

Даўно напісаў пра ўсё гэта Кулінковіч. Але на схіле жыцця хочацца пабачыць знаёмыя мясціны. Можа, нават развітацца з імі.

Гарадок, у які прыехаў Кулінковіч, суседнічае з родным мястэчкам, дзе не засталося радні, а гасцініца такая малая, што ўбіцца ў яе немагчыма.

У знаёмага настаўніка ёсць машына. Выпіўшы ў святочны дзень па чарцы, яны рушылі ў дарогу. Настаўнік здаў, пастарэў, даўно на пенсіі, машыну сам даўно не водзіць. Дзеля гэтай мэты ён запрасіў пляменніка, шустрага, белабрысага хлопца, здаецца, навучэнца рамесніцкага вучылішча.

І вось яны едуць. У Кулінковіча заўсёды ўзмоцнена б'ецца сэрца, калі ён бачыць знаёмыя мясціны, паселішчы, якіх даўно не бачыў. Новае ёсць: лепшыя, сям-там нават заасфальтаваныя дарогі, каменныя будынкі, наогул увесь кругагляд, які прыкметна перамяніўся. Але яшчэ больш ранейшага, знаёмага. Марудна расце вёска. Многа, вельмі многа трапляецца старасвецкіх хат, з падслепаватымі акенцамі, гнілымі, пакрытымі зялёным мохам гонтавымі дахамі. Калі сказаць агулам, вёска па-ранейшаму старэе, пусцее.

А ў Гагалях штабной хаты няма. Два разы праехалі ўздоўж шэрай, якая пачынае аздабляцца зелянінай нешматлікіх садоў, палісаднікаў, лавы хат і ніводнага магутнага, як памятае Кулінковіч, будынка, звернутага ўсімі вокнамі на вуліцу, не ўбачылі.

Яны прыпыніліся каля гурта жанок і даведаліся аб прычыне знікнення, можа быць, самага прыгожага будынка ў Гагалях.

— Груздзіха хату прадала, — перабіваючы адна другую, паведамілі жанкі. — На знос. І сама даўно выехала...

Кулінковіч здагадваецца, у чым справа. Штабная хата належала паліцэйскаму, які служыў у раённым гарнізоне. У канцы сорак трэцяга года партызаны нічога не баяліся і маглі заняць нават будыніну, якая б належала хоць сваяку Гітлера, каб такі ў гэтай балотнай, глухой мясціне знайшоўся. Той памятнай восенню партызан адчайна ганялі ўласаўцы, але і ўласаўцаў яны не баяліся.

Грады высокіх стромкіх дубоў на ўсходняй ускраіне вёскі таксама няма. Іх спілавалі, і нават пнёў ад гэтых прыгажуноў не засталося. Не любяць людзі нічога высокага.

Кулінковіч прыехаў дарма. Тое, аб чым марыў столькі бяссонных начэй, не здзейснілася. Настаўнік, які возіць Кулінковіча, нічога не разумее. Ну, няма хаты, дубоў, якія запомніліся з юнацтва, дык бог з імі. Можна на другія хаты і дубы паглядзець. Ці не ўсё роўна.

Кулінковічу тым часам не ўсё роўна. Гэта была ягоная хата, а стромкія дубы даўно сталі як бы часцінкай душы. Цяпер душа нібы збяднела. Ён, напрыклад, ездзіў у дом творчасці, размешчаны не гэтак далёка ад Мінска. Вечарамі выходзіў на шасейку, глядзеў на начны лес. На ўскрайку бору высіліся тры вялізныя, купчастыя сасны, якія неяк асабліва выдзяляліся на фоне цёмнага неба. Спілавалі гэтыя тры сасны, і Кулінковіч перастаў ездзіць у дом творчасці.

Заставаўся яшчэ бор дзяцінства, юнацтва. Ён нашаптаў уражліваму хлопцу столькі зваблівых казак, накалыхаў такіх мараў-летуценняў, што, можа, праз гэта Кулінковіч і пісьменнікам стаў. Блукаючы па неабсяжных ружова-сініх дыванах верасоў, гледзячы на бясхмарнае сіняе неба, ён, малады падлетак-юнак, лічыў, што большай прыгажосці не свеце няма. Ён яе больш і не пабачыў, бо гэтак, як родны лес, не зачаравалі яго ні мора, ні горы, ні нават чужаземныя краіны з іх цудоўнымі, дзівоснымі далягладамі.

Але і памятнага лесу, разліву верасоў, якімі трызніў Кулінковіч, таксама няма. Паўвека — вялікі час. На пясчаных выгарах, дзе рассціләліся чырвона-блакітныя азяркі верасоў, стаіць хмуры, густы сасоннік. У ім чамусьці зусім не звіняць птушыныя галасы. Толькі куванне зязюлі, аднастайна-шчымлівае, бясконцае даносіцца аднекуль з ускрайку лесу.

Магчыма, Чарнобыль і на птушак уплывае. Ён ад гэтага лесу, нацяньксі, крыху болей за сотню кіламетраў.

Кулінковіч пазнае мясціну, на якой яны садзяцца палуднаваць. Яна якраз на мяжы Галістрай лужы — вузкай і доўгай балацянкі, якая высахла і таксама густа зарасла сасоннікам. На груду, на якім яны ляжаць, густа растуць, пачынаючы распускаць суквецці, ландышы. Ландышы і ландышы, куды ні кінь вокам...

Кулінковіч памятае: у гэтым месцы былі акопы першай германскай, затым польскай вайны. Ён у іх знаходзіў баравікі, высокія, крывыя, белагаловыя, бо з акопнага паўзмроку яны цягнуліся да святла.

Тыя акопы даўно аселі, зараслі травой, зраўняліся з зямлёй. Але яшчэ можна адрозніць абрысы акопаў, траншэяў апошняй Айчыннай вайны.

Выгнаныя з мястэчка арміяй і партызанамі, немцы яшчэ доўга, тыдзень ці болей, агрызаліся. Яны заселі якраз у гэтым лесе і адсюль абстрэльвалі мястэчка.

Цярпець такое было немагчыма. Яны, мясцовыя хлопцы-партызаны і ў іх ліку Кулінковіч, узяліся дапамагаць байцам. Свой лес яны ведалі як належыць. Яны падводзілі байцоў-мінамётчыкаў у тыл нямецкіх пазіцый, абстрэльвалі з ротных мінамётаў, а часам гранатамі закідвалі.

Вось гэты грудок, дзе Кулінковіч з сябрам палуднуюць, асцярожна беручы па чарцы (абое носяць у верхніх кішэньках пінжакоў валідол), здаецца, адна з такіх мясцін. Адсюль павінна праглядвацца вёска Макаў. Яна сапраўды праглядваецца крайняй чародкай шэрых хатак.

Зрэшты, адзначыў Кулінковіч гадавіну Перамогі. Дай бог дажыць да наступнай. Усё жыццё ён піша пра пакаленне юнакоў, дзяўчат, якія ў гадзіну ліхалецця ішлі з цёплых хат, з вёсак, гарадоў у халодны асенні ці зімовы лес, гінулі ў засадах, нямецкіх засценках, прагна лавілі радыёхвалю Масквы, разносячы па вёсках ці перадаючы блізкім людзям лістоўкі.

Хутчэй за ўсё ў сваім пісанні Кулінковіч паўтараецца, піша горш, чым раней. Але сядзяць у памяці, у сэрцы выпадкі, эпізоды, а, галоўнае, настрой самай вялікай вайны, якую ён прайшоў, і выбавіцца ад гэтага велічна-шчымлівага настрою ён проста не можа.

# ...І РУКАПІСНЫ «АПОСТАЛ»



Унікальную выстаўку старадаўніх кніг падрыхтавалі Брэсцкі краязнаўчы музей і абласная бібліятэка. Экспазіцыя адкрылася ў музейнай гасцёўні. Хоць над Брэстам прашумела нямала навальніц гісторыі, многія каштоўныя экземпляры рэдкіх кніг здолелі захавацца.

Адзін з самых старадаўніх фаліянтаў — Царкоўнік трэбнік, выдадзены ў Брэсце ў 1646 годзе. У мінулым ён належаў адной з брэсцкіх цэркваў, цяпер — уласнасць музея. Сярод асабліва цікавых экспанатаў і рукапісны «Апостал», датаваны XVI—XVII стст.

Цікавасць да выстаўкі вялікая. Штодня яе залы наведваюць да тысячы чалавек — студэнты, школьнікі і проста аматары і калекцыянеры старажытных фаліянтаў.

*На здымку: у зале выстаўкі.*

*Фота Рамана КАБЯКА*
*БЕЛІНФАРМ*

# ЛОЖКІ РУСКАЙ СЦЭНЫ

«Вольным шлюбам» перакінецца традыцыйны шлюб Мужа і Жонкі на прэм'еры Рускага тэатра Беларусі 11, 15, 22 і 29 кастрычніка. Драматургічны матэрыял Дарыё Фо і Франкі Рамы, дарэчы, таксама мужа і жонкі, зрабіўся падставаю для рэжысёрскіх спроб і пошукаў Барыса Луцэнкі ды акцёрскіх вышукаў-вынаходніцтваў Святланы Кузьміной і Аляксандра Брухацкага. У рэкламнай улётцы тэатр нават папярэджвае, што мужам і жонкам, якія ніколі не здраджвалі адно аднаму, глядзець гэты спектакль сама менш небяспечна. І радком ніжэй абяцае нейкі нечуваны сервіс фірмы «Якаў і К», вабячы і іншымі сюрпрызамі...

... А ўсяго тых падзей, што Жонка, ратуючы шлюб, мяркуе зрабіць агульным здабыткам, грамадскім здабыткам шлюбны ложак... Пагодзімся, што цікава прасачыць пераўвасабленні шлюбных і іншых ложкаў на вялікай і малой сцэнах Рускага тэатра (згадаем спектаклі «Салодкагалосая птушка юнацтва», «Макбет», «Амфітрыён», «Хрыстос і Антыхрыст», «Метэор», напераменкі з «Аркестрам», «Хто там?», а таксама вечарыну італьянскай драматургіі з увасобленымі «Шасцю персанажамі ў пошуках аўтара» і так далей. Але перадусім углезімся ў ложак «Вольнага шлюбу» і вызначым, ці дастаткова выставіць яго на сцэну, каб ўратаваць шлюб, або — папулярнасць тэатра?

# ПРА БЕЛАРУСАЎ СМАЛЕНШЧЫНЫ

Неўзабаве ў Смаленску пабачыць свет зборнік дакументаў і матэрыялаў пад назвай «Судьбы национальных меньшинств на Смоленщине», падрыхтаваны супрацоўнікамі абласнога архіва. У кнігу аб'ёмам 20 друкаваных аркушаў увайшлі дакументы з фондаў абласнога архіва і Цэнтра дакументацыі навейшай гісторыі Смаленскай вобласці, газетныя і часопісныя матэрыялы пра культурнае жыццё беларусаў, палякаў, латышоў, габрэяў ды інш. у 20—30-х гадах нашага стагоддзя на Смаленшчыне.

Чытачы Рэспублікі Беларусь знойдуць у зборніку унікальныя дакументы пра адраджэнне й заняпад беларускіх школ, клубаў, гурткоў ды ўрэшце ўсяго беларускага этнасу на Смаленшчыне. Каб набыць зборнік трэба папярэдне даслаць пісьмовы заказ на наступны адрас:

214000, Расія, Смаленск, Саборны двор, д. 5. Дырэктару Дзяржаўнага архіва Смаленскай вобласці.

Ю. В.

Выставы

# ДЗЕВА, ШТО ПЛЫВЕ ПА ВОДАХ...

Імя Алены Кіш не назавеш невядомым. Не толькі таму, што Уладзімір Ягоўдзік прысвяціў ёй кніжку, якая склалася з успамінаў ды разважанняў мастакоў. Для многіх з іх творчасць гэтай вясковай жанчыны стала сімвалам сапраўднага прыгожага народнага мастацтва, крыніцай шчырасці, з якой жывілася схільная ў 70—80-х гадах да нацыянальных пошукаў моладзь. Імя Алены Кіш — у Сусветнай энцыклапедыі прымітыўнага мастацтва, выдадзенай у Будапешце, і гэта прызнанне яе як мастачкі.

Алена была спрадвечнай вандроўніцай, «дурніцай», як называлі такіх на вёсцы, гэтаксама як Драздовіч, які прыняў за сапраўдную рэлігію народнага мастацтва, і мноства іншых цяпер невядомых «хадакоў». З хаты ў хату, за нейкі кавалак палатна, за пуд збожжа ці бульбы, за тое, чым багаты былі сяляне, пакідала Алена на ўспамін ім яркі, дзівосны і фантастычны свет сваіх маляваных дыванкоў. Гэта быў чысты блакітны колер, белы, чырвоны, многа ззяючага жоўтага, што і ўтвараў ураджанне сакавітасці і нейкай невядомай у тым працоўным вясковым жыцці прыгажосці. Відаць, гэта моцна ўражвала чалавека, які, зайшоўшы ў цёмную хату з сонечнага дня, бачыў дыванок, што сам здаваўся сонейкам.



*Мастак У. Басалыга.*

Апошнія гады ў нас зацікавіліся такім мастацтвам, яго класіфікуюць як мастацкую з'яву — інсіт. Яго збіраюць, навукова вывучаюць, ладзяць экспазіцыі, канферэнцыі, друкуюць артыкулы. У спрэчных момантах звяртаюцца да Захада, дзе інсіт даўно папулярны і даследаваны. Некалькі месяцаў таму ў Мінску ў Мастацкім музеі прайшла выстава інсітнага мастацтва і канферэнцыя вакол гэтай праблемы і самой назвы, прапанаванай свету венгерскім навукоўцам для азначэння прымітыўнага, народнага, самабытнага мастацтва. І, здаецца, Алена Кіш — адна з цікавейшых сярод кагорты беларускіх мастакоў-прымітывістаў. Самавук, натхнёная прыродай і сваімі фантазіямі, яна стварыла напаўрэалістычны свет з фантастычнымі істотамі і ўлюбёнай ёй, знаёмай прыродай. Часта пабудова кампазіцыі яе дыванкоў недалёка была ад выцінанкі, надзвычай распаўсюджанай у народнай творчасці. Яна малявала з такой чысцінёй, што, здаецца, і цяпер ад яе работ зыходзяць задавальненне і радасць. Дванаццаць яе дыванкоў сабралі ў вандроўках мастакі Уладзімір Басалыга і Алесь Марачкін, імі яны літаральна былі выцягнуты з небыцця.

Распавядае Уладзімір Басалыга:

—«Пасля заканчэння акадэміі мастацтваў я ўзначаліў у Саюзе мастакоў камісію па рабоце з народнымі мастакамі. І тады памяць сіганула да дзіцячых гадоў. Я ж памятаў тыя дыванкі Кіш, сярод іх вырас, праўда, не ведаючы імя мастачкі. Дык у план гэтай камісіі, не зважаючы на прынятае тады шматслоўе, я ўпісаў адзін пункт: знайсці і адрадзіць творы мастачкі са Случчыны. Зрабілі некалькі вандровак, вядома, за свае грошы, сустракаліся з людзьмі. Але падказала адпраўныя дадзеныя мне мая цётка: брат Алены працаваў у Слуцкай царкве. На мой ліст адпісаў пра ўсіх родных Алены Кіш слуцкі святар Мар'янскі.



*У. Ламейка. Леў.*

Пачаліся падарожжы: на Старобіншчыну, у Красны Двор, адтуль — у Грозава, бо туды выйшла замуж адна з яе родных, у Раманава, адкуль пачыналася гісторыя Кіш. Марачкін са мной ездзіў. Урэшце, знайшлася малодшая сястра Алены — Ніна, паказалі магілу чатырох жанчын, сярод якіх і Алена, распавялі пра яе лёс.

Малявала Алена пры немцах, да вайны таксама. Брала з сабою фарбы, звычайна гуаш, хімічны аловак, ехала ў вёску, хадзіла па хатах. Было так: я ў цябе жыву, ты мяне корміш, я малюю табе дыван. Яна сшывала тры палотнішчы, раскладвала на падлозе і прыбівала цвікамі. Абводзіла малюнак хімічным алоўкам і замацоўвала вадою. Потым пела песні і малявала. Цікава, што найбольш любіла яна маляваць жывёлін, іх яна заўсёды бараніла, размаўляла з катамі ды сабакамі. У іх была для яе душа божая. Для людзей, што працавалі на ніве, ткалі, гэта было незразумела. На Алену глядзелі з нейкім «прыжмурэннем вока». Як дыванкі былі гатовы, за ёй прыязджалі сваякі, забіралі плату натурай і перавозілі мастачку ў наступную вёску.

Тады заказвала дыванкі кожная хата. Але прыйшоў час «мануфактурны», сталі саромецца, мяшкі з іх шыць, класці анучамі ў сенцах. А ў адной хаце дыван вісеў паміж каровай ды свіннёй для супакаення першай. Можа, таму і знайшлося ўсяго дванаццаць Аленіных твораў за пяць год вандровак.

Найперш зрабілі мы выставу Кіш у Палацы мастацтваў, пасля мяне знайшоў Ягоўдзік, з'явілася кніжка. Калі ж да мяне звярнуўся Заслаўскі гісторыка-культурны запаведнік, я доўга вагаўся, было шкада, пасля аддаў за намінальную цану. Пяць дыванкоў я рэстаўраваў, астатнія былі ў неблагім стане. Здаецца, цяпер яны такія ж, як я іх памятаю з дзяцінства: яркія, бліскучыя...»

Алена не карысталася складанымі колерамі, матывы работ лёгка прачытваліся. Ёй ніколі не ўдаваліся выявы людзей. Калі дыван называўся, напрыклад, «Ліст да каханага», выявы саміх закаханых былі другараднымі. Гэта падкрэслівалася кампазіцыяй, дзе асноўнае месца займалі жывёлы ды прырода, намнога большыя па памерах за людзей. Непрафесійная мастачка, яна інтуітыўна выкарыстоўвала многія мастацкія прыёмы: малявала не проста лісце дрэў, а складанае перапляценне голых галінак. Яна выкрунтасіста абводзіла сам сюжэт карцінкі, пакідаючы з вуглоў выступы для працягу гэтага сюжэта. Значыць, думала, шукала, прыглядалася да прыроды. Яна не прэтэндавала на прафесійнае мастацтва, яна проста спявала сваім голасам, спявала, як магла. Яна выкрышталізавала свой сусвет, напоўніла яго фантастычнымі русалкамі, ільвамі, ружамі, птушкамі. Сусвет са сваімі правіламі і сваім жыццём. Алену не цікавіла, што многае не спалучалася ў перспектыве, кампазіцыі з рэальным жыццём. Гэта нашы праблемы, неўразуменне чалавека, выхаванага на рэалістычным мастацтве — чаму так? Проста трэба давесці сабе, што такіх пытанняў не існуе. Табе падабаецца? Ты ўражаны? Дык прымай усё, як ёсць. Паспрабуй проста зазірнуць у свет Алены Кіш, сесці сярод яе «райскага сада» і паўзірацца ў квецень, птушак, залатых ільвоў...

Даўно варта было б зрабіць выставу мастачкі. І вось, на жаль ці на шчасце, за яе ўзялася не дзяржаўная ўстанова, не Міністэрства культуры, а Заслаўскі гісторыка-культурны запаведнік. Ён сам па сабе — з'ява. Створаны пастановай у 1988 г., стала працаваць пачаў у 1989 г., калі склаўся калектыў, з'явіўся дырэктар — кандыдат гістарычных навук Алесь Каўбаска і пачалася распрацоўка ідэі жывога экамузея. На 110 гектарах мяркуецца зрабіць музей часу, з помнікамі гісторыі Заслаўя; музей прасторы — уся ландшафтная структура, паркавая сістэма; музеі дзейнасці — працуючых комплексаў (млын працуе ўжо, сюды два разы на тыдзень прыязджаюць завознікі, працуе і кузня, у будучым з'явяцца ткацкі комплекс, ганчарня; музей духу, па сутнасці існуючая выставачная зала, пласт высокай, элітарнай культуры, якую таксама трэба аднаўляць). Тут, у будучым музеі духу, і адкрылася выстава «Алена Кіш. Яна і пра яе».

Гэта выстава проста павінна была быць неардынарнай, каб пазбегнуць сентыментальнасці, этнаграфічнасці, прамалінейнасці. Час падштурхоўвае да пошукаў больш складаных форм экспазіцыйнай ідэі. І трэба аддаць належнае работнікам Заслаўя, экспазіцыя атрымалася. Бо тут былі ззяючыя дываны народнай мастачкі, тут быў цыкл твораў маладога прафесійнага скульптара Уладзіміра Ламейкі, уражанага яе творчасцю. Ён надзіва арганічна дапоўніў яе творы. Яго дыпломныя работы — як адбітак Алены ў кераміцы, габелене, графіцы, скульптуры, жывапісе. Нездарма ж ён зрабіў надмагілле мастачцы, устаноўленае ўжо ў Грозаве: ладдзя, у якой з белымі лілеямі плыве жанчына (матыў дыванка «Дзева на водах»). Уладзімір паспрабаваў, абсалютна безадносна да сваёй асноўнай творчасці, увайсці і пасядзець у райскім садзе. Адтуль з'явіўся леў, драўляны, з жанчынай на спіне, а ў жанчыны два твары: адзін — мара прыгажосці, другі — шэрая будзённасць. Адтуль — дзяўчына ў расчыненым акне, драўляны барэльеф. Адтуль уся такая пазнавальная і такая жывая сімволіка Аленінага мастацтва.

Гэту выставу можна лічыць спробай паяднання самабытнага народнага мастацтва з фантазіямі паводле яго сучасных мастакоў. Ёсць творы, навеяныя творчасцю Кіш, у мастакоў У. Тоўсціка, Я. Куліка, У. Ламейкі, але гэтага мала. Іх павінна быць сотня на дванаццаць дываноў Алены. Тады атрымаецца цікавая, арыгінальная і, галоўнае, нацыянальная выстава, якая мела б поспех і выдатна прадставіла б нашу рэспубліку ў любой краіне свету. А дываны Алены Кіш, ледзь не зніклыя ў віхуры часу і непавагі і нарэшце знайшоўшыя прытулак у майстэрні мастака і ў Заслаўскім запаведніку, варты, як і раней, заставацца заўсёды на вачах у людзей.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**



*Дыван Алены Кіш «Дзева на водах»*





# НЕ КЛАСІКА... АЛЕ — ПРЫГОЖА!

*(Пачатак на стар. 1)*

— А што: яно — ёсць?

— Ды вось не магу сказаць пэўна. Падалося, што намёк на «сур'ёзны падтэкст» зроблены: калі ў класічных аперэтах канфлікт нараджаецца з непаразумеласцей паміж чыстымі, высакароднымі героямі ў выніку наіўных інтрыг ды хітрыкаў «зладзеяў», дык тут... Тут жа ўсе персанажы настолькі дурнаватыя ды падлаватыя, што ў фінале замест трыумфу маладога кахання гучыць амаль... абвінавачванне распуснаму жыццю і пошасці. Але, як у гэтых выпадках кажуць, «акцэнты расстаўлены не надта выразна», таму і не бяруся рабіць пэўных высноў.

— Ну, а яшчэ што?

— А яшчэ — на дзіва прыгожае, густоўнае афармленне. Мастак Барыс Герлаван «апрануў» спектакль цалкам: сцэнаграфія, касцюмы... Што тут казаць: нават чорна-белыя фотаздымкі са спектакля могуць раздражніць глядацкую цікаўнасць. А калі дадаць, што герцагіня Мальбара (адзіная і непераймальная выканаўца — Наталля Гайда!) некалькі разоў мяняе шыкоўныя строі, дык...

— Не сумняваюся, гераіня Наталлі Гайды трымае ўвесь спектакль, і прычына не адно ў шыкоўных сукнях!

— Так. Але ж і партнёры ў яе цудоўныя: Арнольд Ранцанц (таксама ў гэтым спектаклі — незаменны), Валянціна Пятліцкая, Святлана Якавец, Васіль Мінгалёў ды іншыя... І дырыжор шчыруе: Аляксандр Сасноўскі...

— Хацелася б дазнацца, што вы мелі на ўвазе, калі сказалі: «пры ўсіх «але»...

— Ведаеце, нават няёмка... Вы маглі падумаць, што гэтую банальную агаворку я ўставіў «дзеля адчэпнага», — дык не. Сапраўды: падзея, калі на сцэне, ды яшчэ ў такі неспрыяльны для мастацтва час, з'яўляецца новы твор беларускага кампазітара. Толькі вось я міжволі параўноўваю прэм'еру Уладзіміра Кандрусевіча, якая адбылася нейкі час таму, з новым творам і думаю сабе, як тая гогалеўская нявеста: вось калі б да музычнай драматургіі першага мюзікла, створанага паводле «Тэатра» Самерсета Моэма і названага «Джулія», дадаць сцэнаграфічнае мастацтва, якое з лёгкай таленавітай рукі Барыса Герлавана набыла цяперашняя прэм'ера, — вось тады б... Зрэшты, спектаклі розныя бываюць.

— Розныя, так... Хутчэй бы сярод гэтых «розных» пабачыць сапраўды адметнае. Можа, такую адметнасць мае «Шклянка вады»? Схаджу, гляну. Здымкі са спектакля й сапраўды прыгожыя. Але, як той казаў, калі ўжо мы зможам пабачыць гэткія ж файныя здымкі з прэм'еры Голандавай «Агаткі», якую, здаецца, збіраўся ставіць Беларускі тэатр музычнай камедыі? Што замінае менавіта гэтаму тэатру ў добрым сэнсе прысабечыць камічную оперу, якая 210 гадоў таму пабачыла жыццё ў Радзівілавым Нясвіжы? Зрэшты, гэта я так, між іншым. Дзякуй за інфармацыю да роздуму. На прэм'еру пайду абавязкова!

**Размову не зусім аперэтачных персанажаў занатавала С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Здымкі са спектакля «Шклянка вады» зрабіў В. СТРАЛКОЎСКІ*







ЛіМ
ЧАСАПІС

## ЕЎРОПА ГЛЯДЗІЦЬ БЕЛАРУСКІ БАЛЕТ

**Летам 1994 года беларускі балет з поспехам гастраляваў у Іспаніі. Гэта ўжо трэцяя па ліку вандроўка нашай харэаграфічнай трупы на Пірынейскі паўвостраў. Першая адбылася ў верасні 1985 года, другая — у 1990 годзе.**

**Сёлета вазілі класічны рэпертуар — «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага і «Жызэль» А. Адана. Спектаклі прайшлі ў Мадрыдзе, Барселоне, шэрагу старажытных іспанскіх гарадоў, размешчаных на ўзбярэжжы акіяна. Многія паказы адбываліся ў межах праграм міжнародных летніх фестываляў, якія збіраюць шматтысячныя залы. Беларускае мастацтва прадстаўлялі іспанскаму гледачу вядучыя салісты трупы І. Душкевіч, Т. Яршова, К. Фадзеева, Н. Дадзішкіліяні, Т. Шаметавец, С. Гарбунова, У. Камкоў, В. Захараў, У. Далгіх, А. Фурман і інш.**

**Уплывовая мадрыдская газета «Эль Паіс» назвала «Жызэль» з І. Душкевіч у галоўнай партыі «Лепшым балетным спектаклем гэтага года ў Мадрыдзе».**

**У лістападзе і снежні беларускі балет ізноў выпраўляецца на Пірынейскі паўвостраў. Зараз дакладна вядома, што ізноў будзе паказана «Лебядзінае возера». Наконт другога спектакля пэўнасці пакуль няма: гэта будзе альбо «Спячая красуня» П. Чайкоўскага, альбо «Спартак» А. Хачатурана. Шэраг вядучых партый у апошнім балеце будуць танцаваць новыя выканаўцы — В. Захараў (Спартак), К. Фадзеева (Фрыгія), А. Фурман і Я. Мінін (Крас).**

**Пачатак наступнага, 1995 года абяцае таксама прайсці пад знакам гастроляў. З 10 студзеня па 5 лютага, а потым з 10 лютага па 10 сакавіка павінны адбыцца дзве гастрольныя вандроўкі ў Бельгію, Швейцарыю, Францыю. Паказы балета «Спартак» адбудуцца ў межах праграмы «Гіганты танца». Беларуская трупа запрошана фірмай «A Grand spectacle» («Вялікія спектаклі») і будзе выступаць у Парыжы, Жэневе, Бруселі, Марселі, Булоні, Канах і шэрагу іншых гарадоў.**

**Т. ФЁДАРАВА**

## НОВЫ СЕЗОН ГАРАДЗЕНЦАЎ



**Мастацкія запатрабаванні трупы Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра (і ў пэўным сэнсе — аблічча) разам з Мікалаем Емяльянавым, вядучым акцёрам і дырэктарам, будзе вызначаць цяпер і Генадзь Мушперт. З сёлетняга сезона ён выконвае абавязкі галоўнага рэжысёра тэатра, распачаўшы гэты самы сезон спектаклем «Дарагая Памэла» Д. Патрыка. Спадзяецца на глядацкую зацікаўленасць і рэжысёр Аляксандр Смелякоў, прапанаваўшы гарадзенцам сваю версію класічнага твора А. Астроўскага «Апошняя ахвяра». У бліжэйшых планах Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра — «Камедыя...» У. Рудава паводле Ф. Аляхновіча і К. Марашэўскага: відавочна, у гэтага абаяльнага твора, чыёй асновай зрабіліся драматычныя павароткі, гартаваныя не адным дзесяцігоддзем (а ў выпадку з К. Марашэўскім — стагоддзем) тэатральнага досведу, — нечаканае сцэнічнае жыццё. З падмосткаў Навучальнага тэатра Беларускай акадэміі мастацтваў ён з дапамогаю рэжысёраў У. Рудава і А. Андросіка апынуўся ў Альтэрнатыўным тэатры; праз колькі часу А. Андросік ставіў «Камедыю...» у Маладзечанскім драматычным тэатры. Названыя рэжысёры паспрыяюць таму, каб гісторыя пра селяніна Дзёмку, ягоную жонку Маланку і пра Чорта, які згубіў сэнс жыцця, зрабілася набыткам гарадзенскай сцэны. Пакуль жа на ёй працягваюцца рэпетыцыі «Здурнелага Журдэна» М. Булгакава пад кіраўніцтвам Мадэста Абрамава (першым на Беларусі за яго браўся Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа). У цэнтральных ролях заняты Мікалай Емяльянаў і Альберт Акчурын.**

*На здымку: Людміла Волкава і Сяргей Курыленка ў спектаклі «Нора» паводле Г. Ібсена, адным з апошніх прэм'ерных спектакляў тэатра.*

Фота А. КАСАРСКАГА

Віншуем!

# Зіновію ПРЫГОДЗІЧУ — 50



Вядомасць Зіновію Прыгодзічу прынесла, бадай, аповесць «Ноч перад нядзеляю», у цэнтры якой вобраз вясковай жанчыны Марылі Палескай, чалавека складанага, драматычнага лёсу. Нямала пражыта ёю на роднай зямлі і не менш перажыта. За хуткаплыннасцю гадоў не было магчымасці азірнуцца назад, узважыць, што і да чаго. А тут востры сардэчны прыступ і адна ў апусцелай хаце. Хочаш таго ці не, а мусіш разгортваць клубок памяці. Згадаліся і даўнія падзеі, якія было забыліся, і тыя, што, здаецца, нядаўна прайшлі, але і іх пакрысе пачала пакрываць павалока часу. Аповесць прывабіла не проста псіхалагізмам, а правільней сказаць псіхалагізмам праблемным, таму што ў творы праз вобраз Марылі Палескай (як тут не задумацца над сэнсам яе прозвішча!) паўсталі і лёсы іншых беларускіх жанок-пакутніц з роднага аўтару Палесся.

Нарадзіўся З. Прыгодзіч у вёсцы Лышча Пінскага раёна. Пасля заканчэння мясцовай школы працаваў у тагачаснай Лагішынскай раённай газеце «Калгасная праўда», а затым карэспандэнтам-арганізатарам мясцовага радыёвяшчання. У 1967 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. А далей — журналісцкая праца, партыйная работа, аспірантура Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, абарона кандыдацкай дысертацыі. З. Прыгодзіч быў галоўным рэдактарам газеты «Советская Белоруссия», а цяпер, з часу заснавання, рэдагуе часопіс «Гаспадыня».

З першым апавяданнем выступіў у 1963 годзе. Выдаў некалькі кніг нарысаў і публіц-ыстыкі — «На палях рэспублікі» (1968), «Дзень добры, сад!» (1974), «На сельскіх прасторах» (1976), «Жменя зярнят» (1979), дакументальныя аповесці «Строгая дабрата» (1976) і «Крылы дужэюць у палёце» (1977). Аповесць «Ноч перад нядзеляй» дала назву кнізе прозы З. Прыгодзіча, у якую таксама ўвайшлі лірычныя замалёўкі.

Гэтыя і іншыя творы засведчылі, што З. Прыгодзіч належыць да пісьменнікаў, якія ў сваёй творчасці ідуць ад жыцця, бачаць праблемы паўсядзённасці.

Віншуем Зіновія Кірылавіча з поўднем веку, зычым яму новых твораў, доўгіх год жыцця!

Рэпліка

# НЕЗАЛЕЖНАЯ... АД БЕЛАРУСІ?

«Вы, шаноўны чытач, трымаеце ў руках першы нумар новага незалежнага выдання — «Гандлёвай газеты» — так звяртаецца да чытачоў рэдакцыя сапраўды новай газеты, заснавальнікам якой з'яўляецца ЗАТ «Белбізнеспрэс», а выдаўцом — аб'яднаная рэдакцыя часопіса «Чалавек і эканоміка» і «Нацыянальнай эканамічнай газеты». Тут жа ўдакладняецца: «Гэта выданне, свабоднае ад палітычнай кан'юнктуры, насычана цікавай прафесійнай і дзелавой інфармацыяй, разлічанай, у першую чаргу, на работнікаў прылаўка. Газета будзе імкнуцца стаць дзелавым партнёрам арганізатараў і спецыялістаў гандлю, усіх, хто пастаянна ўдзельнічае ў працэсе «куплі—продажу».

Што ж, вітаць бы новага сабрата, з нараджэннем і пачаткам шляху, ды, на жаль, аказваецца, што шлях гэты скіраваны ў бок, далекаваты ад суверэннай Беларусі.

Кажам так, бо новая газета не выконвае, так бы мовіць, адзін з важнейшых законаў суверэннай Беларусі — Закон аб мовах. У рэдакцыі, бадай, пра яго і не чулі. А калі і чулі, дык прапусцілі міма вушэй.

Аказваецца, «Гандлёвая газета» — ніякая і не «Гандлёвая...», — «Торговая газета». «Гандлёвая...» яна толькі па загалоўку (зрэшты, і тут слова «Торговая...» стаіць ці не першым) ды яшчэ тым, што на кожнай старонцы ўверсе загаловак вынесены па-беларуску. Па-беларуску пададзены яшчэ і выхадныя дадзеныя. А ўсё іншае дарэшты ў новым выданні — на «великом и могучем». А ўсяго ж у газеце — 12 старонак лімаўскага фармату!

Дык ад каго ж незалежная «Гандлёвая...», прабачце, «Торговая газета»? Выходзіць, што ад суверэннай Беларусі...

**Н. К.**

# «НЕЛЬГА БЫЦЬ ТРОШКІ ЦЯЖАРНАЙ...»

*(Пачатак на стар. 5)*

**— І прадаць?**

— І прадаць у межах Закона аб уласнасці на зямлю. Само ўсведамленне ўсяго гэтага з'яўляецца значным маральным фактарам.

**— Вы чамусьці нічога не гаворыце пра навацыі, што адбыліся ў некалі славутым у рэспубліцы калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага. Яго старшыня, або больш правільна, былы старшыня, двойчы Герой Сацыялістычнай працы В. Старавойтаў на ўвесь свет заявіў, што расчараваўся ў калгасным ладзе і ператварыў гаспадарку ў акцыянернае таварыства.**

— Не хачу каменціраваць ні заяў Старавойтава, ні таго, што адбылося ў калгасе. Адзначу толькі, што такіх гаспадарак, як «Рассвет», было ў рэспубліцы адна-дзве і ўсё.

**— Вы маеце на ўвазе яе эканамічныя паказчыкі?**

— Не гэта. У «Рассвеце» была свая асаблівая інфраструктура — тут налічвалася да шасцідзесяці розных падсобных прадпрыемстваў, якія зручна акцыянаваць, прыватызаваць.

Што датычыць ніжагародскага вопыту, дык тут сапраўды стварылі рэальны рынак зямлі.

**— Яна там прадаецца нават праз аўкцыёны. Вы, Уладзімір Гіляравіч, наколькі я чуў, прынцыповы праціўнік ператварэння зямлі ў прадмет куплі-продажу.**

— Не ўсё так проста. Які рынак зямлі вы маеце на ўвазе — унутраны ці знешні?

**— Баюся, што калі я скажу — знешні, дык адразу пачую знаёмыя, ужо набіўшыя аскоміну пярэчанні, накшталт таго, што зямля належыць усяму народу, ці яшчэ «мацнейшы» аргумент — радзіму ў распродаж не пусцім. Я вось чытаю, што, напрыклад, японцам належаць у Злучаных Шматах Амерыкі тысяча гектараў зямлі.**

— Не трэба мне пра японцаў...

**— Добра, тады пагаворым аб рынку зямлі ўнутраным. Для сваіх.**

— Унутраны я падтрымліваю. Але са строгім абмежаваннем у памерах — не больш аднаго гектара. Дарэчы, такі рынак у нас існуе.

**— Вы хочаце сказаць, што сёння я магу паехаць у вёску і купіць там гектар зямлі?**

— Вам мала?

**— Мне асабіста хапае маіх трох з паловай дачных сотак. Але ж цяжка верыцца ў тое, што калгас ці саўгас знойдуць мне для продажу гектар зямлі, хіба што няўдобіцы якой?**

— Чаму абавязкова калгас? Купляйце ў вяскоўца яго прыватызаваны прысядзібны ўчастак. Па існуючым зямельным заканадаўстве ён вольны рабіць з ім што захоча.

**— Застаецца толькі спытаць, які гэта дурань захоча застацца без прысядзібнага ўчастка. Хіба толькі калі ён задумаў пераехаць на пастаяннае жыхарства ў горад. Я — у вёску, ён — у горад?**

— Вы спыталі ў мяне, ці можа сёння гараджанін купіць сабе зямлю. Адказваю — можа, калі яна некаму належыць на правах прыватнай уласнасці. Іншая справа, што працэс прыватызацыі ў вёсцы ідзе вельмі марудна. На гэта ёсць свае, у тым ліку і чыста псіхалагічныя прычыны. Не так лёгка чалавеку з прывітай яму на працягу многіх дзесяцігоддзяў, так сказаць, калектыўнай свядомасцю прызвычаіцца да таго, што зямля можа ператварыцца ў тавар, які можна прадаць або купіць.

**— Тым больш, прадаць іншаземцу. Вы, Уладзімір Гіляравіч, супраць усяго знешняга рынку зямлі? Нават абумоўленага строгімі заканадаўчымі рамкамі? Але ж прэзідэнт не так даўно заявіў, што каб прыцягнуць замежных інвестараў, у асобных выпадках зямля ім прадавацца будзе.**

— Лічу, што гэта разумны падыход. Сапраўды, які замежны капіталіст захоча будаваць, скажам, завод на ўчастку, які яму не належыць на правах уласнасці? Трэба зямлю яму ў гэтым выпадку прадаць, але абумовіць такі продаж цэлым шэрагам умоў. Напрыклад, экалагічнага плану.

**— Калі гавораць пра замежныя інвестыцыі ў народную гаспадарку, дык звычайна маюць на ўвазе прамысловасць, гандаль, сферу паслуг. У наш аграрны сектар жадаючых укладаць грошы, я маю на ўвазе замежных інвестараў, мабыць, няма?**

— Ёсць. Некаторыя замежныя кампаніі цікавяцца нашымі прадпрыемствамі па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. Так, напрыклад, пэўны інтарэс выказваюць немцы да гродзенскай фірмы па вытворчасці цукру «Надзея». Перамовы паміж імі, праўда, пакуль што ідуць цяжка, але будзем спадзявацца на станоўчы вынік. Робяцца намі спробы прыцягнуць грошы замежных інвестараў да вырошчвання каштоўнай алейнай культуры — рапса з наступнай яе перапрацоўкай. Можна назваць некалькі іншых падобных прыкладаў. Што ж тычыцца замежных інвестыцый у нашы калгасы і саўгасы, дык тут нейкіх зрухаў пакуль што не бачна. Трэба прызнаць, што замежныя фірмы адчуваюць у адносінах да іх пэўны недавер.

Падсумоўваючы сказанае, хачу падкрэсліць, што я за ўсебаковае прыцягненне ў рэспубліку замежных інвестараў. Для гэтага, вядома, патрэбна адпаведная падаткавая палітыка, увогуле, заканадаўчая база, каб, як ва ўсім цывілізаваным свеце, уладальнік маёмасці быў упэўнены, што яна ні пры якіх абставінах не будзе экспрапрыіравана дзяржавай.

**— Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка неаднойчы ўжо дэклараваў сваю прыхільнасць да рыначнай эканомікі. Праўда, заўсёды дадаючы, што не выключае пры гэтым пэўнага кантролю з боку дзяржавы. Але ж нельга быць трошкі цяжарнай. Або-або. Або рынак, або дзяржаўнае рэгуляраванне з усімі належачымі наступствамі.**

— Абсалютна з вамі не згодны. Рыначныя адносіны — гэта не абсалютная свабода: што хачу, тое і раблю. Гэта, па-першае. Па-другое, да рынка мы яшчэ нават не падышлі. Бо тое, што мы сёння маем, — не рынак. І, разам з тым, хачу падкрэсліць, што з усіх галін народнай гаспадаркі найбольш сёння падрыхтавана да пераходу да рыначных адносін сельская гаспадарка.

**— У сённяшнім яе выглядзе?**

— Не, разумна рэфармаваная. І на гэтым давайце сёння паставім кропку.

# СВЕТ РОДНАЙ ХАТЫ

## СПРОБА ЛІРЫЧНА-ЭТНАГРАФІЧНАГА НАРЫСА

*Дык во, знайце ж маю хатку,*
*Родную маю! —*
*У ёй цэлы век жыву я, —*
*Ем, працую, сплю.*
*. . . . . . . . . . . . .*
*Не аддам яе нікому,*
*Бо яна мая!*

*Янка КУПАЛА*

Палямі ды лясамі раскінулася Літва — Беларусь. З веку ў век на яе абсягах вялі нягромкую гаворку хвоі і бярозы, навальнічнымі дажджамі амываліся летам лугі, засыналі пад мяккай снегавой коўдрай густы гаі. І сярод гэтай маляўнічай, дзікай прыроды, як з-пад зямлі, выраслі маленькія вёсачкі з драўлянымі сялянскімі хаткамі, небагатымі, ды ўсё роўна дарагімі людзям, што жылі ў іх. Бо для селяніна гэта была ягоная абжытая прастора на вялікай зямлі, яго свет, дзе праходзіла ўсё жыццё — тут ён нараджаўся, тут і паміраў.

### НАРАДЖЭННЕ

Надышоў час і з'явіўся на свет новы чалавек у той самай хаце, дзе нарадзіўся бацька, у хаце, што збудаваў яшчэ дзед. Курчыцца ад родавых схватак будучая маці, а каля яе пасцелі стаіць з запаленай васковай свечкай знахарка, грукае доўгай мятлою ў столь, дзе на гарышчы жывуць душы памерлых продкаў — «бацькоў». Яны адны здольны дапамагчы парадзісе, не дацк памерці дзіцятку. Так, яшчэ не нарадзіўшыся, чалавечак уцягваецца ў таямнічы свет хаты, у адносіны з яе «насельнікамі», якія існавалі ва ўяўленнях не раз рэальных жыхароў.

Але вось змрочная прастора старой хаты напоўнілася пераможным крыкам новага чалавека, хлопчыка, будучага гаспадара... Назвалі яго... ну хоць бы Янка. Пасля хрышчэння ў царкве на руках у хроснай маці малы вяртаецца дадому. Аднак перад тым, як унесці дзіця ў хату, яго кладуць на ганак, каб «асвяціць цераз парог», увесці раўнапраўным насельнікам ва ўсталяваны свет старой хаты.

Прывязаная да бэлькі, вісіць побач з печчу калыска. У ёй мірна пасопвае Янка. З глыбіні калыскі бачыць ён чорную, пакрытую сажай столь, бо хата курная — печ без коміна. Не здагадваецца ён, што вышэй столі, вышэй даха — неабдымны небасхіл. Але ўсё роўна дах дома на ўсё жыццё застанецца для яго купалам утульнага хатняга свету, ахоўнай мяжой між небяспечным знешнім светам і надзейным светам яго жылля.

### ДЗЯЦІНСТВА

Прайшоў час, малы стаў на ножкі і пайшоў пазнаваць свет хаты. Але пакуль яго вандраванні ніжэй той прасторы жылля, якую вучоныя называюць у наш час «культурны гарызонт» (ад узроўню вачэй чалавека да паверхні сядзення). У распараджэнні Янкі — падлога, дзе ён цешыцца ў сваіх дзіцячых гульнях.

Першая няўдалая спроба ўварвацца ў прастору, дзе непадзельна пануюць дарослыя. Маці, заўважыўшы на стале малога, хутка спускае яго на падлогу і строга-настрога наказвае больш так не рабіць. Стол свяшчэнны, бо на яго кладуць дар божы — хлеб ды соль. Гэта для Янкі першы ўрок: ёсць, аказваецца, пэўныя правілы паводзін у хаце, якія нельга парушаць нікому.

Знаёміцца ён з іншымі правіламі. Першым заўсёды за стол есці сядае бацька — на покуці, усе астатнія — на лаўкі ўкруг стала. Бацька першы чэрпае з агульнай міскі, за ім дарослыя, апошнія — дзеці. Ніякага балаўства не дапускаецца.

За дысцыплінай у хаце, як выявілася, назірае і печ. Неяк у нядзелю зайшоў сусед, будучы з прычыны свята нападпітку. Ён гучна размаўляў, смяяўся, а потым і лаянку пусціў. Бацька прысаромеў яго, сказаўшы: «Глядзі, печ у хаце!» І стала Янку зразумела, што ў прысутнасці глінянага асілка паводзіць сябе трэба сціпла і прыстойна.

З гэтай пары Янка стаў пабойвацца печы. Ён не ведаў яшчэ, што яна, па традыцыйным сялянскім уяўленні, у процілегласць чырвонаму (божаму) куту, з'яўляецца паганскім асяродкам, і калі з покуцю звязвалася ўсё ўзнёслае, светлае, то з печчу — таямнічае, жудаснае. Але хлопчык інтуітыўна адчуваў, што дзейнічаюць тут нейкія невядомыя сілы. Тым больш, ад маці ведаў, што за печчу жыве дамавік, сярдзіты дзед з вялікай барадою, у падлечку ж хаваюцца кікімары — душы заўчасна загінуўшых маленькіх дзяўчынак. Яны нябачна прысутнічаюць у хаце, назіраючы за гульнямі дзяцей.

Адбываліся ў хаце і зусім цікавыя рэчы. Вось аднойчы на калядах, пасля традыцыйнай вячэры, калі ўсё было прыбрана са стала, бацька доўгай вяроўкай звязаў сталу яго дубовыя ножкі, быццам каня стрыножыў. Дзіва ды і толькі! Але потым растлумачыў: «Каб жывёла ў будучым годзе не пераскаквала праз платы, каб не сыходзілі пчолы». Запомнілася Янку таксама, што пад абрус паклалі пласток саломы, каб на будучы год быў ураджай. Але больш за ўсё яму спадабалася, што перад калядамі над сталом у покуці павесілі сплецenага з саломы «павука», падобнага на той казачны палац, які ён бачыў у каляровай кніжцы, што прывёз з кірмашу бацька. Потым павука ўпрыгожвалі папяровымі кветкамі, абрэзкамі тканіны, гарохам, нават рыбіным пер'ем. І ўдзень, і пры няркім святле свечкі, быццам сонца, пабліскваў саламяны «павук» пад столлю. Гэты сімвал сялянскай земляробчай абраднасці, у хаце, якая старажытнай традыцыяй разумелася як мініяцюрны сусвет, сапраўды выконваў ролю нябеснага свяціла, нязгаснага сонейка.

### ПЕРШЫЯ ВЫПРАБАВАННІ

Вось і вырас наш Янка, прайшло бясклапотнае дзяцінства, юнацтва ж сялянскага хлапчука напоўнілася цяжкой працай у полі з бацькам ці дома па гаспадарцы. Жыццё пад дахам роднай хаты стала цяпер прыносіць трывогу, смутак, гора.

Аднойчы Янка падслухаў, як маці ціха гаварыла суседцы, што чула трэск у напаленай печы з левага боку — па прыкмеце, хутка павінна памерці гаспадыня. (Па тым жа паver'і, трэск з правага боку азначаў смерць гаспадара.) Хлапчук усхваляваўся, асабліва калі маці ў тую восень, вяртаючыся з лесу, прамокла і цяжка захварэла. Яна ляжала на печы, пакрытая старым кажухом, а каля яе варажыла знахарка, клікаючы хатніх духаў. Знахарка некалькі разоў хадзіла ў «важужнік» — кут у печы, дзе стаялі качарга, мятла, вілы і іншае хатняе начынне, дзе звычайна тварыліся ўсялякія заклiццi, варажба. У хуткім часе маці папраўлялася.

Але трашчала ў печы ўсё ж нездарма — неўзабаве памерла старая бабуля. Труну паставілі ў чырвоным куце на стары стол. Менавіта на гэтай свяшчэннай паверхні клалі нябожчыка, бо ён хутка павінен быў сустрэцца з богам. Пасля памінак стол засцялілі белым абрусам, паставілі на яго ваду і паклалі ручнік — каб нябожчыца магла ўмыцца. Цэлы тыдзень стол так і стаяў, пакрыты абрусам, ніхто да яго не дакранаўся.

Запомнілася Янку і тое, што ў час памінальнай вячэры першы кілішак і першую лыжку стравы вылівалі ў кут, як растлумачыла маці, для памерлай бабулі. Значыцца, яна тут, у хаце? Аб гэтым Янка пасля шмат разважаў і потым пераканаўся, што людзі пасля смерці сапраўды не знікаюць, а нябачныя для жывых насельнікаў застаюцца побач з імі.

### ВЯСЕЛЛЕ

Жыццё працягвалася, за журбой ішлі радасці, за напружанай працай — нячастыя святы. Аднойчы ўвечары адкрыліся дзверы, і на парозе з'явілася вясёлая кампанія дзядзькоў, за імі ж — Лявон, высокі, прыгожы хлопец з суседняй вёскі, які ўжо даўно паглядаў на Янкаву сястру Алесю. Вось яно, прыйшлі сваты! Госці перш за ўсё накіроўваюцца ў покуць, дзе на стале ставяць барылку з гарэлкай і скрыню з закускай. Жаніх жа стаіць ля парога, пакуль сваты не пагутараць з бацькамі маладой, — ён яшчэ не прыняты як суджаны. Але вось згода атрымана — цяпер хлопец свой у гэтай хаце і можа прайсці ў пакой. Бацька, зняўшы са сцяны ікону, разам з маці блаславіляе маладых. Зараз нявеста павінна аддаць даніну павагі сваёй хаце, яе галоўнай свяшчэннай рэчы — са сватамі яна тры разы абыходзіць вакол стала. «Абыдзі, Ганулька, вакол стала, упадзі маценцы на белыя ножкі...» — пелася ў вясельнай песні.

І, здаецца, устрапянулася ўся хата. Адкрылі свае вялікія раты куфры, з іх на свет божы вымаецца святочнае адзенне, вышываныя ручнікі, рэчы, што даўно рыхтаваліся для пасагу і падарункаў. Потым пачынаецца свяшчэннадзейства — пякуць вясельныя караваі.

Тут цэнтрам увагі і аб'ектам розных абрадавых дзеянняў робіцца печ. Спачатку сват, узяўшы яловае памяло, дачыста яе падмятае. Потым, калі ўжо замешаны караваі, ён бярэ ў рукі лапату і хрысціць ёю печ, у той час як адна з караваййніц пасыпае лапату аўсом. Караваі пасаджаны ў печ, і прысутныя пачынаюць танцаваць, а дзяўчаты, час ад часу падыходзячы да печы, спяваюць абрадавыя песні. Калі каравай гатовы, старэйшая каравайніца звяртаецца да свата са словамі: «Бяры, сваце, залаты меч і сярэбраную сякеру, будзем мечам рубіці печ і каравай даставаці...» Тады сват, схапіўшы лапату, хуценька падбягае да печы і, адняўшы заслонку, вымае каравай.

І вось дзень вяселля. Загрукаталі ў двары колы, затупалі на ганку — прыехаў жаніх за маладой. Матка са свечкай становіцца на парозе, яна падымае ўверх талерку з хлебам і соллю, трымае яе да таго часу, пакуль праз парог не пройдуць усе прыехаўшыя. З дабрам прымае гасцей хата.





Вянчанне ў царкве, застолле. І нарэшце маладая пакідае сваю хату. Сеўшы на воз, яна па традыцыі прычытае:

**Добрая доля, ды ідзі за мной**
**З плачам пламянём, з хаты каміном!**

Заціхае грукат колаў. Пусцее хата. Праходзіць колькі год. І вось Янка, ужо сталы, дужы хлопец, прыводзіць маладую жонку. З радасцю сустракае старая хата нараджэнне новай сям'і, а маладыя сыплюць па вуглах залатое зерне, каб у будучым у іх у гэтай хаце было шчасце і дабрабыт.

### ЖЫЦЦЁ ІДЗЕ

Шчаслівы Янка са сваёю выбранніцай прыгажуняй Ганулькаю. Вось ужо і дзеткі пайшлі. Цесна стала ў старой дзедавай хаце, падраслі малодшыя Янкавы браты, таксама хутка пачнуць вяселлі гуляць. Трэба будаваць сваю, новую хату, побач з дзедавай. І тут свая навука: правільна зарыентавацца ў прасторы, вокны абавязкова на поўдзень ці на ўсход. І гэта не толькі дзеля святла ды цеплыні, а таму што ля сцяны з вокнамі будзе чырвоны кут, звернуты да святла, да Бога. І яшчэ: важна, каб чалавек па жыллі ўяўляў сваё месца ў свеце ў адносінах да шляху сонца па небе. У хаце гэты арыенцір задае напрамак покуцю — печ. Покуць паказвае святло, усход, а печ — цемру, захад. Колькасць вокнаў дакладна вызначана — тры, у гонар святой троіцы, больш нельга. А калі ўжо ёсць такая вялікая неабходнасць зрабіць яшчэ адно акно, ідзі да святара.

Але найважнейшае ў хаце — дах. Накрыў зруб дахам — лічы, што хату паставіў, аддзяліўся ад знешняга свету. І ўсё астатняе павінна мець свой верхні край, быць пакрытым — і посуд, і бочкі, і вёдры, само жыллё.

А пасля важна скласці печ. Печ у Янкавым доме будзе паліцца ўжо не па-чорнаму, як у старой дзедавай хаце, ад яе скрозь дах вывеў Янка высокі цагляны комін.

Але вось хата гатова. Спачатку ў яе пускаюць ката, каб ён першым абжыў хату, пасяліў у ёй дамашнюю ўтульнасць. Потым куты ў хаце асвячаюць свянцонай вадой. Для абароны хаты ад злых сіл і на шчасце ў новым жыллі Янка прыбівае да парога падкову. Жыццё ў новай хаце пачынаецца.

Пацяклі дні за днямі. Падрастаюць дзеці. Грыміць чыгунамі ў «бабіным куце» Ганна. Гэтае месца ля печы — яе вотчына як гаспадыні дома, тут яна царыца і бог. Янка туды не суецца, яго тэрыторыя — падларожжа, дзе ён звычайна што-небудзь майструе для дома, для гаспадаркі, нешта рамантуе. Часам ён садзіцца за ганчарны круг, што прымацаваны да лавы паблізу ад «бабінага кута». Хутка-хутка верціцца круг, і як па чарадзействе нараджаецца пукаты гаршчок. Потым яго чакае ганчарны горн. Адтуль ён выйдзе прыгожым, пабліскваючы глянцам палівы на сваім чырванавата-карычневым целе.

Па вечарах Ганна тчэ на кроснах, што стаяць пасярод хаты, паміж чырвоным і бабіным кутом. Нараджаецца няяркая саматканая посцілка. Мільгае чаўнок. Калышыцца полымя свечкі. Заўтра ізноў дзень, поўны працы і клопату...

### ЛЯ ПАРОГА ЖЫЦЦЯ

Ішлі гады. Сталелі ў Янкавай хаце дзеці, жаніліся і выходзілі замуж. Наш Янка пасівеў і згорбіўся, твар яго пакрыла густая сетка маршчын. Аднойчы ранiцай не прачнулася яго старая, яго Ганна. Калі яе выносілі ў труне з дому, полымя свечкі, што гарэла каля яе галавы, адхіснулася не ў бок чырвонага кута, а да дзвярэй — усе зразумелі: па прыкмеце ў доме хутка зноў будзе нябожчык. І праўда, праз паўгода закрыў свае вочы Янка. На руках сыноў ён навек пакінуў сваю хату. А праз некалькі тыдняў у яго хаце знахарка ля ложка, на якім раджала ўнукава жонка, грукала ў столь доўгаю мятлою, заклікаючы Янку дапамагчы. І ён, вядома ж, прыйшоў. Праўнук нарадзіўся здаровы і гарласты. Яго прыняла да сябе, у свае пацямнеўшыя сцены старая, добрая хата. Цяпер яна будзе яго жыллём, яго сусветам.

**Якаў ЛЕНСУ**

## НЯСВІЖ ДАЕ НАТХНЕННЕ



Мастакі муж і жонка Міхаіл Канавалаў і Марына Калінічэнка жывуць у Нясвіжы, у старадаўнім асабняку, які, як яны кажуць, дае ім натхненне. Яны закончылі мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута, але працуюць у розных жанрах. Ужо адбыліся тры іх сумесныя выстаўкі. Апошняя — у Мінску, у карціннай галерэі Траецкага прадмесця.

За сёлетняе лета мастакі напісалі шмат цікавых палотнаў з матывамі, навеянымі старажытным горадам.

*На здымку: мастакі з Нясвіжа Марына Калінічэнка і Міхаіл Канавалаў.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## СУЧАСНАЕ НЕ ВЫНАХОДЗІЦЬ



**Студэнты універсітэта культуры, што будуць абараняць дыпломы па спецыяльнасці «рэжысёр аматарскіх калектываў», аб'ядналіся на сваім пятым годзе навучання — у спектакль «Вішнёвы сад» паводле А. Чэхава, для таго, каб сыграць яго не на мове арыгінала, а на сваёй роднай і нашай дзяржаўнай. Кіраўніку і рэжысёру пастаноўкі, педагогу курса Зінаідзе Пасюцінай давялося з'ездзіць у Віцебск, у Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, для якога калісьці пастараўся перакласці п'есу сам Янка Брыль. Дзіўна, аднак, што менавіта ў перакладах Чэхаў так доўга не выдаецца. Чэхаў, якога шмат хто любіць са школьных гадоў, Чэхаў, без якога, бадай, не абыходзіцца ніводзін беларускі тэатр, ніводная школа, гуманітарны інстытут, універсітэт... Вядома, нам няма патрэбы знаёміцца з тэкстамі класіка па-беларуску; ёсць патрэба дасканаліцца па-свойму праз ягоны дух ды вобразы... Гэта мелі на ўвазе, прыступаючыся да Антона Паўлавіча, мінскія студэнты: з Уганды — Бернард Надхомі, з Сірыі — Зіяд Аль-Хамід, з Беларусі — Наталля Мадэнава (яна выканала цэнтральную ролю Раneўскай), Наталля Старынчык, Зінаіда Макаранка, Сняжана Саладуха, Сяргей Мухін, Раман Латаголец, Віталь Кімчак, Павел Галкоўскі і Мікалай Рудкоўскі. Тое, што выканаўцаў крыху больш за персанажаў, тлумачыцца ўзаемазаменаю і працаю ў парах. Мастаком спектакля выступіў Дзмітрый Мохаў, дабрадзеямі — прадстаўнікі Тэатра юнага гледача Уладзімір Рулёў і Ігар Андрэеў, з чыёй ласкі студэнты маглі пакарыстацца адзеннем сцэны ды сім-тым са строяў і рэквізіту. Чатыры скрыпкі, флейту ды кантрабас яўрэйскага аркестра, які фігуруе ў тэкстах персанажаў, увасобілі Д. Александровіч (кантрабас), Б. Саковіч (флейта) і М. Лебедзева з М. Сурмач (дзве скрыпкі за ўсе чатыры...). Гэткім складам яны выканалі ўрыўкі з Моцарта, Глінкі, Чайкоўскага, Дзмітрыева-Свечына. На пытанне, што больш за ўсё задаволіла ў рабоце, выстаўленай ужо на глядацкія вочы, Зінаіда Пасюціна адказала: «Захапленне. Усеагульнае...». Ад першага паказу 7 мая да другога, які адбыўся 6 кастрычніка, захапленне відавочна паболела: зала поўнілася да апошняга месца. Між іншым — і заўсёднаю чэхаўскаю сучаснасцю, якую не давялося ні вышукваць, ні вынаходзіць.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Ліст з Лондана*

# НЯЗМЕНЛІВАЯ АНГЛІЯ?

Вера РЫЧ

Некалькі дзён таму ў Беларускай бібліятэцы Лондана мне давялося праглядаць адно з новых яе паступленняў — пераплецены зборнік ранніх нумароў «Нашай Нівы». На маё здзіўленне я нечакана натрапіла на невялікі артыкул, пад якім стаяла загадкавае «Максім» — імя беларускага наведніка Англіі. А пісаў Максім пра Шэфтсбэры. Не, не пра магната і палітыка семнаццатага стагоддзя і нават не пра яшчэ больш вядомага Шэфтсбэры — філантропа дзевятнаццатага стагоддзя, помнік якому ў выглядзе крылатага алюмініевага лучніка на плошчы Пікадзілі ў Лондане вядомы як «Эрас», — а пра мястэчка Шэфтсбэры, што на паўднёвым захадзе Англіі. Мястэчка, якое, калі верыць Максіму, мела ўсяго дзве тысячы насельнікаў і тым не менш ужо насіла статус горада, горада са сваімі мэрам і муніцыпалітэтам.

Пра тое, што прывяло Максіма ў Шэфтсбэры, «Наша Ніва» не гаворыць, аднак жа ўражанні і занатоўкі, якія ён адтуль прывёз, сапраўды цікавыя. Цікавыя ўжо тым, што на фоне шэфтсбэраўскай рэчаіснасці Максім хацеў высветліць некаторыя негатыўныя асаблівасці жыцця ў царскай імперыі. Як паведамляе аўтар, жыхары горада на працягу ўсяго жыцця не сутыкаліся ні з якім «начальствам». Быў там толькі адзін галоўны чыноўнік — архіварыус. Ён ціха сядзеў сабе ў сваёй канторы, чакаючы, пакуль чарговы наведвальнік прыйдзе са звесткамі аб нараджэнні ці смерці каго-небудзь з сямейнікаў альбо з просьбай атрымаць дазвол на шлюб. Усё вельмі проста: горды бацька прыходзіць да архіварыуса, кажа яму імя нованароджанага, архіварыус рэгіструе — і на гэтым канец. І ніхто не правярае пашпартоў, больш таго, архіварыус не цікавіцца нават сацыяльным паходжаннем альбо матэрыяльным становішчам наведвальніка! А бацька можа ісці да дзіцяці, пасля хрысціць яго ў любую веру па сваім жаданні альбо не хрысціць наогул!

Меўся ў горадзе, як піша Максім, і свой паліцэйскі ўчастак з трыма апранутымі ў форму «бобі» і трыма пустуючымі камерамі, у кожнай з якіх засланы чыста ложак быў заўсёды гатовы прыняць ахвяру па сутнасці неверагоднай для Шэфтсбэры падзеі — арышта. Арышт, падкрэслівае аўтар, з'ява надзвычай рэдкая, чалавек можа знаходзіцца пад вартай не больш як дваццаць чатыры гадзіны — пасля гэтага ён павінен з'явіцца перад магістратам, дзе яму афіцыйна прад'яўяць абвінавачванне альбо вызваляць! Да чаго ж простае і вольнае жыццё!

Гэта, вядома ж, спрошчаны, амаль што фантастычна-казачны малюнак. Рэчаіснасць Англіі, нават у тыя далёкія «залатыя» дні, ніколі не была такой ідылічнай. І ўсё-такі, калі параўноўваць яе з днём сённяшнім, з сучаснай жахлівай Англіяй футбольных хуліганаў і наркаманаў, краінай, суверэнітэт якой так і не перастае падрывацца тысячамі разнастайных праверак і прадпісанняў з боку брусельскіх «еўракратаў», — якім недасягальным і якім райскім здаецца Максімаў Шэфтсбэры! Напэўна, адно з нямногага, што мог бы пазнаць Максім, прыехаўшы ў Англію сёння, — няўзброены паліцэйскі патруль! І яшчэ... Хаця ў сумачцы сваёй я нашу ўвесь набор прапускоў і дакументаў, неабходных для сучаснага жыцця — білет чытача бібліятэкі, банкаўскую крэдытную картачку, прафсаюзны білет, членскія білеты разнастайных таварыстваў, — усё-такі адзіны і самы галоўны мой дакумент — гэта маленькая цёмна-блакітная брашурка, якая «просіць і загадвае» ад імя Яе Вялікасці дазволіць мне бесперашкодна займацца маёй законнай справай — за мяжой! Па праўдзе кажучы, аднойчы мне ўсё ж перашкодзілі ў маёй журналісцкай дзейнасці, і здарылася гэта ў адной постсацыялістычнай краіне, не вельмі далёкай ад Беларусі. Афіцыйны прадстаўнік улады ветліва растлумачыў, што мне не варта хваляваццa, што гэта толькі «ўстаноўленае парадкам часовае затрыманне» ў мэтах праверкі пасведчання асобы, і дадаў: «Усё будзе так, як гэта было б у Лондане, мадам!» Калі я сказала яму, што ў Лондане са мною такога здарыцца не магло б, паколькі ў нас няма апазнавальных дакументаў альбо ўнутраных пашпартоў, бедалага зірнуў на мяне, як быццам я толькі што звалілася з неба, а пасля яшчэ доўга не мог паверыць, што сучасная краіна можа абыходзіцца без такіх рэчаў!

Але ж вернемся да Максімавага Шэфтсбэры. Гэты беларускі падарожнік быў не адзіны, хто меў магчымасць пабачыць Англію ў цішыні і спакоі — Англію «залатога веку». І нягледзячы на тое, што літаральна праз некалькі гадоў большасць тых маладых, якія прыходзілі па архіварыуса за шлюбнымі дазволамі, а таксама гарэзлівыя фермеры, якія праводзілі ночы ва ўтульных паліцэйскіх камерах Шэфтсбэры пасля лішняй чаркі кірмашовым днём, загінуць, нібыта іх уласная пшаніца на баявых палях Фландрыі, — пачатак стагоддзя альбо гэтак званы «век Эдварда» (кароль Эдвард VII уладарыў з 1901 па 1910) увайшоў у гісторыю як бясконцы пасляабедзенны час летняга сонечнага дня. Гэта была чароўная пара: лэдзі ў доўгіх бляклых сукенках, бесклапотныя чаяванні на гладкіх зялёных лужках, вяршкі з суніцамі, агурочныя сандвічы, мядовыя пірагі...

**Гадзіннік кажа: тры без дзесяці хвілін?
Яшчэ гарбаты з мёдам не пілі?**

Гэтак пісаў у сваёй паэме «Грэнчэстэр» Руперт Брук. Згаданы гадзіннік, што і зараз вісіць на адной з вежаў Грэнчэстэра, пасёлка непадалёку ад Кэмбрыджа, сапсаваўся якраз тады, калі паэт быў у гэтых мясцінах. У гонар незабыўнага твора Брука гадзіннік пакінулі неадрамантаваным на дзесяцігоддзі, ягоныя стрэлкі нязменна паказваюць без дзесяці хвілін тры гадзіны дня... І вось толькі зараз, у 1994 годзе, а дакладней кажучы, некалькі тыдняў таму ў «The Times» вяліся спрэчкі аб тым, ці застанецца грэнчэстэраўскі гадзіннік у становішчы «без дзесяці тры» навечна ў якасці помніка культуры альбо яго прывядуць у парадак дзеля зручнасці жыхароў пасёлка! Нязменная Англія!..



На працягу мінулага года мне давялося шмат думаць аб Англіі перад першай сусветнай вайной. Займаючыся даследаваннямі для Украінскага геаграфічнага таварыства, я перачытала ўсе даступныя матэрыялы — дзённікі, мемуары і навуковыя працы, — звязаныя з падзеяй, найбольш вядомай пад назвай «Апошняя экспедыцыя Скота». Гаворка ідзе пра брытанскую экспедыцыю на Паўднёвы полюс 1910—1912 гадоў, якую ўзначальваў капітан ваенна-марскіх сіл, Вялікабрытаніі Роберт Фалькан Скот. Як і ўсё маё пакаленне, калісьці я выхоўвалася на прыкладзе гэтай гераічнай гісторыі. Смеласць вынаходнікаў, якія не змаглі пакарыць полюс з-за няўдачы і шторму, асабліва гераізм Оўтса, які ішоў (а дакладней сказаць, поўз, бо абедзве яго нагі былі занадта абмарожаныя для таго, каб ісці) у кіпцюры смерці ў снежнай буры з адной мэтай выратаваць сваіх таварышаў, нарэшце, гібель трох апошніх уцалелых удзельнікаў экспедыцыі, сярод якіх быў і сам Скот, — гібель ад марозу і голаду ўсяго за адзінаццаць міль ад плавучай базы з палівам і харчам... Гэта — адзін з найвялікшых подзвігаў у гісторыі нашых астравоў, я свядома не кажу проста Англіі, паколькі ўсе чатыры нашыя нацыі былі прадстаўлены ў складзе полюснай групы: англічане, шатландцы, ірландцы і уэльсцы. (Скот, пра што сведчыць ягонае прозвішча, быў шатландцам, Эванс — уэльсцам, Оўтс, хаця і лічыўся англічанінам, служыў афіцэрам у адным з ірландскіх палкоў брытанскай арміі!)

З другога боку, гэта тым не менш тыпова брытанская гісторыя. Бо глыбокімі каранямі ў нашы свядомасць і літаратуру ўваходзіць перакананне ў тым, што справядлівасць не заўсёды на баку мацнейшага і што герой, які мужна гіне, гледзячы ў твар неадольным жахлівым абставінам, дасягае ў іншым, высокім, духоўным сэнсе сапраўднай перамогі. І менавіта таму стала магчымай, напрыклад, эвакуацыя Дзюнкерка ў 1940-м — з аб'ектыўнага пункту гледжання звычайная трагедыя вайны, а ў свядомасці народа — адзін з найвялікшых эпічных момантаў гісторыі, сітуацыя, якую нашы французскія суседзі і амерыканскія кузены так і не могуць спасцігнуць... Калі перамога вышэй чалавечых магчымасцяў і паражэнне становіцца непазбежным, тады надышоў час змагацца яшчэ больш настойліва і смела, — гэтак вучыць наша традыцыя!

**Цвярдзее мужна, прагне бою сэрца,
дух не зламаны — сілы ж менш і менш...**

Як здорава гэтыя словы з «Мальданскай бітвы», напісанай невядомым аўтарам яшчэ тысячу гадоў таму, маглі б саслужыць ролю натхнення — а зараз ужо эпітафіі — Скоту і яго таварышам! Хаця, напэўна, наўрад ці хто з іх ведаў гэтыя радкі, а словы на помніку героям у Лондане «Змагацца, прагнуць, дасягаць і не здавацца» прыйшлі з тэнісанаўскай паэмы «Уліс», напісанай у духу старажытнагрэцкай традыцыі.

Між тым сярод усёй каманды Скота, мабыць, быў адзін чалавек, які змог бы зразумець вышэйзгаданыя радкі з «Мальданаўскай бітвы» нават у іх першапачатковай форме, — малады нарвежскі лыжны інструктар Трыгве Грэн. Справа ў тым, што за апошнія дзевяць стагоддзяў англійская мова значна змянілася, прычым змяненні гэтыя нельга назваць звычайнымі змяненнямі ў ходзе лінгвістычнай эвалюцыі, якія, вядома, выклікаюць цяжкасці ў разуменні старажытных тэкстаў. (Згадаю, напрыклад, цяжкія, але даступныя разуменню статуты Вялікага княства Літоўскага...) Англійская ж мова перажыла проста-такі сапраўдную траўму, нанесеную ёй іншаземнымі заваёўнікамі, вынікам чаго з'явілася пераўтварэнне старажытнаанглійскай мовы ў ламаны дыялект падняволеных і ніжэйшых... Вядома ж, Грэн, убачыўшы арыгінал «Мальдана», знайшоў бы яго нашмат цяжэйшым для ўспрымання, чым яго родная старажытнаскандынаўская літаратура. (Іншая справа, што Грэн мог бы зразумець твор па другой прычыне — ворагамі пад Мальданам былі якраз нарвежцы!) Але ж у Англіі скотаўскіх часоў старажытнаанглійскую літаратуру наогул ніхто не мог прачытаць, акрамя хіба жменькі філолагаў-вучоных, больш таго, яна была падставай для насмешак і здзекаў. «Аліса ў краіне цудаў» і «Скрозь люстэрка і што там убачыла Аліса», напісаныя на цэлае пакаленне раней, у 1880-х, адрасаваліся перш за ўсё дзецям, а ў самую першую чаргу дочкам выдатнага оксфардскага класіцыста прафесара Лідэла. Аднак аўтар Льюіс Кэрал (у сапраўднасці прафесар матэматыкі Чарльз Доджсан) свядома ўвёў у казкі цэлы рад намёкаў на бурную ў той час палеміку вакол уводзінаў старажытнаанглійскай мовы ў курс універсітэцкай праграмы. Невытлумачальная паэма «JabberwocKy»[1], якую Аліса чытае ў Люстраным доме, — не што іншае, як пародыя на старажытнаанглійскую паэзію. Два камічныя пасыльныя, якія, як гаворыцца ў казцы, занялі «англа-саксонскія пазіцыі», адпавядаюць стылізаваным худым і вуглаватым персанажам габелена Баё, які прымушалі ткаць англійскіх жанчын, каб увекавечыць трагедыю іхняй краіны. І нарэшце, калі Аліса паўстае з возера слёз, ёй даводзіцца выслухоўваць цэлую лекцыю аб падзеях 1066 года[2] для таго, каб высахнуць, паколькі англа-саксонская гісторыя — «самая сухая» рэч на свеце. (Справа ў тым, што слова «сухі» мае ў англійскай мове і другаснае метафарычнае значэнне — «нудны, нецікавы, дакучлівы».) Які б іншы народ мог бы любіць і лічыць за дзіцячую класіку кніжку, дзе падзеі, што прывялі да найвялікшай трагедыі, страты свабоды і знішчэння роднай культуры, называюцца (няхай нават і жартам) самай сухой і дакучлівай рэччу на свеце? Ці дазволіў бы серб казаць гэтак пра Косава поле, альбо венгр — пра Мохач? Проста неверагодна!

Англічане доджсанаўскай эпохі наўрад ці вінаваты ва ўсім гэтым. Хутчэй за ўсё яны проста не ўсведамлялі сваёй трагедыі! Вышэйшая і сярэдняя адукацыя была зарыентавана на класічныя традыцыі Грэцыі і Рыма. Брытанская гісторыя, акрамя хіба кароткай згадкі рымскага заваявання, пачыналася ў 1066 годзе. Шэсць стагоддзяў, ад прыходу англаў, саксаў і джутаў у пятым стагоддзі аж да нарманскага заваявання ў адзінаццатым, заставаліся практычна па-за ўвагай. Нашу англа-саксонскую лінгвістычную спадчыну найбольш ярка адлюстроўваюць акамянеласці своеасаблівай англійскай арфаграфіі і некаторыя мудрагелістыя граматычныя формы, як, напрыклад, наступныя: назоўнік «house» (дом) мае форму множнага ліку «houses», тады як назоўнік «mouse» (мыш) мае адпаведную форму «mice». Амаль што нічога не засталося ў лексіцы, што сведчыла б пра наша паганскае мінулае, за выключэннем хіба назваў дзён тыдня ды некалькіх тапонімаў. Што датычыцца міфалогіі, то мы можам меркаваць, што аналагічныя нарвежскім міфам пра Тора і Одзіна існавалі і ў нас, але таму няма доказаў. І як вынік — пакаленні англійскіх школьнікаў выхоўваліся на міфах пра

алімпійскіх багоў Грэцыі і Рыма. Што ж, з усіх народаў Еўропы мы — адзіны, які не мае ўласнай міфалогіі.

І тым не менш у тыя далёкія залатыя гады Эдварда, калі Максім цікавіўся жыццём у Шэфтсбэры, калі Брук ласаваўся мёдам у Грэнчэстэры, а Скот рыхтаваўся да сваёй апошняй гераічнай экспедыцыі, — у самым сэрцы Англіі, недалёка ад Бірмінгэма, там, дзе тысячу гадоў таму існавала Мерсійскае царства, рос хлопчык, проста-такі ап'янёны дзіўнымі незвычайнымі мовамі — экзатычнымі уэльскай і фінскай, разнастайнымі дыялектамі, сукупна вядомымі як старажытнаанглійская, і многімі іншымі мёртвымі і знікаючымі, як, напрыклад, гоцкая, мовамі... Хлопчык, які возьме на сябе абавязак стварыць цэлую міфалогію, якая магла б быць, калі б у 1066-м усё адбылося інакш. І — вось такія ўжо літаратурныя парадоксы! — вялікі «міфалагічны» эпас, створаны ім, як ён думаў, для Англіі, стаўся часткай сусветнай літаратурнай спадчыны, будучы перакладзеным на мноства моў, спарадзіўшы бясконцыя спрэчкі і пытанні вакол уласных лінгвістычных асаблівасцей!

«Вы ведалі Толкіена? — спытаўся ў мяне беларускі філолаг, калі я летась была ў Мінску. — Тады вы якраз той чалавек, які мне патрэбны. Бачыце, у чым справа, у нас праблема з імем «Elrond». Пакуль што мы яшчэ не маем твораў Толкіена на беларускай мове, але «Уладар пярсцёнкаў» і «Сільмарыліён» перакладаліся ўжо на рускую мову. Рознымі перакладчыкамі. І адзін з іх піша гэтае імя з мяккім знакам пасля «л», а другі — без! Як жа будзе правільна?»

Гэта была сапраўдная праблема. Безумоўна, я ведала Толкіена — слухала ягоныя лекцыі па старажытнаанглійскай паэзіі, а пасля заканчэння універсітэта кантактавала з ім час ад часу. Але гаварылі мы з ім толькі пра старажытнаанглійскую літаратуру — не пра яго ўласныя мастацкія творы. Я ўспамінаю ягоныя голас, манеру гаварыць. Але ж пытанне, я мяркую, не ў тым, як ён сам вымаўляў гук «л» у штодзённай гаворцы, а ў тым, як бы ён хацеў, каб вымаўляўся гэты гук у імені яго героя. У адрозненне ад славянскіх моў у англійскай няма семантычнай розніцы паміж цвёрдым і мяккім «л». У некаторых рэгіёнах гэты гук больш пярэдні, у некаторых — больш задні, падобны на «дабл'ю». Вымаўленне «л» можа сведчыць не толькі пра тое, адкуль паходзіць гаворачы, але нават і пра сацыяльную яго прыналежнасць. Так, напрыклад, у п'есе Бернарда Шоу «Пігмаліён» кветачніца Эліза напачатку вымаўляе «л» вельмі цвёрда (гэта так званае «л»-кокні»[3]), але напрыканцы п'есы яна вымаўляе гэты гук мякка — па манеры вышэйшых класаў.

Нягледзячы на сваё незвычайнае прозвішча («Толкіен» — скажонае англійскае вымаўленне прозвішча продка пісьменніка[4]) і дзяцінства, праведзенае ў Паўднёвай Афрыцы, Толкіен не называў сябе інакш як мерсійцам. Аднойчы ён нават пажартаваў, што калі пакіне універсітэт, будзе размаўляць толькі на старажытнамерсійскай мове. Што ж датычыцца «Уладара пярсцёнкаў», то, як заўважылі некаторыя надта уніклівыя тлумачальнікі, Толкіенаўскае «графства» і яго бліжэйшае наваколле «скалькаваныя» з сярэдняй Англіі — а значыць, мерсіянскае вымаўленне тут будзе найболей падыходзіць. Праблема толькі ў тым, што зараз не магу ўспомніць, як вымаўляўся гук «л» на старажытнамерсійскай мове!

Усё ж такі, наколькі я памятаю з універсітэцкіх заняткаў па фаналогіі і наколькі я магу меркаваць, гук «л» у старажытнамерсійскай мове быў досыць цвёрдым і заднім, такім чынам, кірыліцай імя гэтае будзе пісацца без мяккага знака — «Элранд», але гэта — толькі мае здагадкі... Вядома, я магла разгарнуць свае старыя падручнікі альбо лекцыйныя нататкі, я магла нават напісаць самому сыну Толкіена Крыстаферу, чые лекцыі ў Оксфардзе я гэтаксама некалі слухала і які зараз з'яўляецца, так бы мовіць, літаратурным душапрыказчыкам пісьменніка. Але чамусьці мне ўпарта не хацелася прадпрымаць такія зусім не цяжкія крокі. Лянота? Магчыма. Але больш важнай прычынай здаецца мне пачуццё сораму за тое, што я забылася на колішнія веды па старажытнамерсійскай. А я ж гэтаксама магу — і гэта сапраўды так — прэтэндаваць на тое, каб звацца мерсійкай! Сям'я майго бацькі паходзіць з Абінгдона, маленькага гарадка, які знаходзіцца на паўднёвым беразе Тэмзы недалёка ад Оксфарда. Доўгі час Тэмза лічылася мяжой англійскіх і саксонскіх пасяленняў у цэнтральнай Англіі. Але недзе ў 1950-х, калі я вучылася ва універсітэце, дзякуючы археалагічным пошукам, выявілася, што Абінгдон быў заснаваны першапачаткова не саксамі, а англамі. І вось каля дваццаці год таму, у сувязі з генеральным пераглядам адміністрацыйных межаў, Абінгдон перайшоў з графства Беркшыр у графства Оксфардшыр. Гэта значыць, са старажытнага саксонскага каралеўства Вессекса ў англійскую Мерсію. Англія — без зменаў?

*Верасень, 1994 г.*

---

*[1]Назву «JabberwocKy» даслоўна перакласці немагчыма. Шляхам этымалагізацыі слова даследчыкам удалося ўстанавіць прыкладны пераклад: «плён доўгіх і ўзбуджаных спрэчак». (Заўвага перакладчыка.)*

*[2]У 1066 годзе Англію захапілі нарманы на чале з герцагам Вільгельмам. (Заўв. перакл.)*

*[3]Кокні — лонданскае прастамоўе, пераважна Іст-Энда (заўв. пер.).*

*[4]Прадзедам Толкіена быў германскі імігрант Толькюн (заўв. пер.).*

**АД ПЕРАКЛАДЧЫКА**

Магчыма, пытальнік, якім заканчваецца ліст з Лондана, і вымусіў мяне ўзяцца за пяро для таго, каб... Не, не працягнуць англійскую тэму і канчаткова адказаць на пытанне спадарыні Веры Рыч. Хутчэй за ўсё, як калісьці і нашаніўскаму Максіму, мне хочацца на фоне ліста з Лондана «высветліць некаторыя негатыўныя асаблівасці» нашага **беларускага** жыцця...

Не ведаю, як хто, а я заўважыў нейкую долю рыторыкі ці, прынамсі, спадзяванне на яе ў скразным рычаўскім пытанні. Англія без зменаў? Так, дзякуй Богу, пакуль што без зменаў — і ў гэтым наша выратаванне ад амаральнасці і наркаманіі, падкопаў «еўракратаў», росту касмапалітычнасці і апалітычнасці грамадства, словам, выратаванне англійскай нацыі як такой, адметнай і адзінай. У адрозненне ад англічан нам, беларусам, трэба азірацца куды больш назад, каб пабачыць свой «залаты век». А ўглядаючыся гэтак далёка, праз смугу цэлых трохчатырох чорных стагоддзяў, наўрад ці здолееш пабачыць скрозь іх што-небудзь прыдатнае для нашага сённяшняга жыцця. Ці не таму і кансерватызм, як адзіны паратунак для іх, нейкім дзіўным, а дакладней кажучы, зусім адваротным, проста-такі ганебным чынам кладзецца на нашыя сучасныя рэаліі... У нас па-ранейшаму няма беларускіх пашпартоў? Суверэнітэт Беларусі так і не перастае падрывацца як чужымі, так і сваімі (у лісце, заўважу, толькі брусельскімі) «імперыякратамі»? Нашы дзеці ўсё гэтак жа выхоўваюцца на казках пра Івана Царэвіча і Васілісу Прамудрую? (Хай бы ўжо хоць на грэцкай і рымскай міфалогіях, як гэта было ў Англіі да Толкіена!). Замік помнікаў беларускім паэтам (у тым ліку і тым, хто не лічыцца класікам, як, напрыклад, Руперт Брук у Англіі) у нас, як і раней, высяцца «великие полководцы» і «революционные деятели»?..

Беларусь — без зменаў..

**Мікола ВІЧ**

Пошта

# «НЕ ОБЧИМ ЯКИМ ЯЗЫКОМ, АЛЕ СВОИМ ВЛАСНЫМ...»

У наш час даволі шырока ажыццяўляецца працэс адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Гэта стала магчымым пасля набыцця рэспублікай незалежнага і самастойнага стану. Ідзе фарміраванне нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці, станаўленне дзяржаўнай мовы. Фарміраванне беларускай нацыі суправаджалася не заўсёды спрыяльнымі грамадска-палітычнымі і эканамічнымі фактарамі. Таму зараз існуе неабходнасць доказу, прыярытэтнага права беларускай мовы (у параўнанні з рускай) выступаць у якасці дзяржаўнай.

Артыкул М. Тарасевіч «Мы, русскоязычные белорусы у себя дома», надрукаваны ў жніўні гэтага года ў віцебскай газеце «Віцьбічы», здзіўляе недасведчанасцю ў спробе вырашыць гэтае пытанне на карысць рускай мовы. У якасці аргументацыі аўтар прыводзіць сапраўдныя гістарычныя факты, але робіць з іх дылетанцкія высновы. Галоўная з іх — нашы продкі ва ўсе стагоддзі карысталіся рускай мовай.

Так спачатку М. Тарасевіч аналізуе словы К. Тураўскага, што надрукаваны ў зборніку матэрыялаў навуковай канферэнцыі: «Наследие Кирилла Туровского и современная общественно-культурная жизнь», і робіць выснову, што мова нашага вялікага першаасветніка — «это «прадедушка» современного русского языка». Так. Але справа ў тым, што мова К. Тураўскага з'яўляецца «пачынальніцай» не толькі рускай, але і сучаснай беларускай мовы. Лексічныя і граматычныя рысы, спецыфічныя толькі для беларускай мовы, пачалі ўзнікаць пазней, на пачатку XIII ст. Гэта было вынікам «узаемадзеяння ґсінтэзу старажытнарускіх традыцый і мясцовых акалічнасцей» («Нарысы гісторыі Беларусі», Мн., 1994 г., стар. 197). Таму «Слова» К. Тураўскага, напісанае ў XII ст., яшчэ не мае тых «беларусізмаў», якія ўжо маюць месца ў дагаворнай грамаце невядомага смаленскага князя з Рыгай (каля 1230 г.), а таксама ў «Житии и терпении преподобного отца нашего Авраамия...», напісаным каля 1240 года. У «Житии...» прысутнічаюць наступныя беларускія словы: «наставник», «злодей», «потреба» («Кніга жыцій і хаджэнняў», Мн., 1994 г., стар. 70, 73).

Такім чынам, «радаслоўная» беларускай мовы пачынаецца з XIII стагоддзя. Дакладней, не пазней адзначанага часу. Чаму ж аўтар вышэйназванага артыкула пазбаўляе яе «дзеда» ў канцы XIV стагоддзя? Нельга сцвярджаць, што ў Вільні, як і ў Луцку, «развивалась такая ж культура, как и на Рязанщине». Толькі таму, што мова старажытных грамат гэтых зямель (урыўкі з іх цытуе аўтар) вельмі падобная.

Па-першае, мова грамат падобная вельмі, але не зусім. Напрыклад, у Луцкім тэксце ёсць беларусізмы: «господар», «час». Тэкст віленскай граматы напісаны па-руску, так. Аднак пісцы Вялікага княства Літоўскага ў дыпламатычных зносінах выкарыстоўвалі і польскую, і лацінскую, і нямецкую мовы. («Нарысы гісторыі Беларусі», стар. 182). Усё ж наўрад ці ў якога разумнага беларуса ўзнікне думка ідэнтыфікаваць сябе з немцам альбо палякам. Гэтак жа на аснове выпадковага дакумента гомельскага чыноўніка, напісанага па-руску, нельга сцвярджаць (як гэта робіць М. Тарасевіч), што ў Вялікім княстве дзяржаўнай мовай была мова руская. Дадзены факт сведчыць толькі тое, што пісьмо на іншых мовах у дзяржаве не забаранялася.

Па-другое, цяжкаўлоўнае адценне, што набліжае мову луцкай граматы да гучання сучаснай беларускай, сапраўды з'яўляецца «вынікам большай прастамоўнасці стылю пісца». І няма тут нічога дзіўнага. Гэта пачатак працэсу, калі лексічныя і граматычныя формы **народнай** беларускай гаворкі пачалі вызначаць галоўны напрамак у развіцці беларускай **літаратурнай** мовы («Нарысы гісторыі Беларусі», стар. 197).

У другой палове XVI стагоддзя беларуская літаратурная мова склалася як самастойная моўная сістэма. Трэці Статут Вялікага княства Літоўскага канчаткова замацаваў беларускую мову ў якасці афіцыйнай, дзяржаўнай. Сведкам гэтага з'яўляюцца словы канцлера Вялікага княства Льва Сапегі. Ён пісаў у прадмове да Статута: «Не обчим яким языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу 40-го нам патреба отпору всякое крывды ведати можем».

Такім чынам, «бацька» існаваў не толькі ў рускай, але і сучаснай беларускай мовы. І былі бацькі братамі стрыечнымі, унукамі аднаго дзеда. Жыць бы ім у любві ды цярпімасці. Паважаць і ўзбагачаць адзін аднаго. Аднак не адбылося гэтага.

Паланізацыя ў XVIII ст., падзелы Рэчы Паспалітай, русіфікацыя ў XIX ст., вялікадзяржаўны шавінізм канца XIX ст., бязлітасныя і неапраўданыя ахвяры сярод беларусаў у нашым стагоддзі вялікім болем адгукаюцца ў сэрцах грамадзян нашай краіны.

Вельмі доўгі час беларускі народ быў пазбаўлены магчымасці афіцыйна карыстацца сваёй мовай. Зараз некаторыя так адвыклі ад яе, што і не лічаць роднай. Трэба выпраўляць становішча. Трэба ўводзіць мову ў пачатковыя, сярэднія, вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але ўводзіць разумна, без прымусу. Нельга забараняць ужыванне і рускай мовы. Агульныя іх гістарычныя карані. Але ў межах сваіх дзяржаў яна павінна выступаць у ролі гаспадыні. Тады ніколі народ не будзе пазбаўлены сваёй мовы, сваёй гістарычнай спадчыны.

**Дзмітрый ІЗАФАТАЎ,**
**настаўнік гісторыі Беларусі**
**СШ N 1 г . Віцебска**

## УДАКЛАДНЕННЕ

У артыкуле В. Дадзёмавай «Чаму кветка — самотная», надрукаваным у N 39 (30.09.94 г., стар. 10—11) у першай калонцы, у пятым радку трэцяга абзаца павінна быць «XVIII ст.» У шостай калонцы артыкула чацвёрты сказ у трэцім абзацы трэба чытаць: «Разам з тым відавочна, што оперны жанр ва ўсёй яго шматаблічнасці, як, зрэшты, і сімфанічны, **не** зрабіўся вядучым у творчасці мясцовых кампазітараў».


ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 13.10.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

